Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 51 (4646) 23 снежня 2011 г.

Калонка рэдактара

# 2011: «Успомніць усё»

Штодня мы вырашаем дзясяткі спраў, даведваемся пра сотні падзей, здаецца, увесь час вакол нешта адбываецца: ці то паводка, ці то гадавая справаздача... Але паспрабуйце самі (вось у гэтае імгненне) прыгадаць ужо амаль мінулы — 2011 — год і вызначыць у ім галоўныя для вас падзеі... Колькі атрымалася: чатыры-пяць? З цэлага года жыцця... А можа, давайце ўспомнім разам, перагарнуўшы старонкі "ЛіМа"?..

Год пачаўся супольнай акцыяй "Вясёлкі" і "Бярозкі" — **"Чытаем разам"**. На працягу года яе ўдзельнікі завіталі ў самыя розныя раёны Беларусі, пісьменнікі сустракаліся са сваімі чытачамі, а наша літаратура набыла, упэўнена, шмат новых прыхільнікаў.

Калі глядзець па перадавіцах "ЛіМа", 2011-ы быў багаты на юбілеі класікаў: студзень і люты — 90-годдзе **Івана Шамякіна** ды **Івана Мележа**, май — стагоддзе **Васіля Віткі**, ліпень — 135-годдзе **Цёткі** і г.д., не кажучы ўжо пра 120-я ўгодкі са дня нараджэння **Максіма Багдановіча**, пра якога згадвалі не толькі ў снежні.

Але гэты ж год забраў у нас **Янку Сіпакова**, **Паўла Місько**, **Віталя Скалабана**, **Рыгора Сакалоўскага**... І не іх адных...

Гэты год паказаў нам — 11 красавіка, — што можна застацца чалавекам у самых нялюдскіх умовах. Людзі, якія дапамагалі выносіць параненых са станцыі "Кастрычніцкая", магчыма, яшчэ стануць героямі нашых кніг. Мы памятаем і тых, хто загінуў падчас тэракта, у тым ліку і нашу Галіну Іванаўну Пікулік... Пасля гэтай трагедыі з'явілася адчуванне, што мы — адзін народ, які немагчыма раз'яднаць!

А значыць, разам мы зможам усё: выдаць 25 тамоў збору твораў Уладзіміра Караткевіча па падпісцы, палепшыць стаўленне да кніг і пазнаць на вуліцы маладога беларускага пісьменніка — хаця б па вокладцы часопіса "Маладосць"…

У гэтым годзе пісьменнікі нашмат часцей сустракаліся з чытачамі — не толькі на свяце пісьменства ў Ганцавічах, але і ў школах, бібліятэках, на прадпрыемствах, нават у шахту спускаліся — усё, каб у сваіх творах стаць бліжэй да тых, дзеля каго працуюць…

Але рух павінен быць сустрэчным! Пра гэта гаварылася на Другім з'ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі, гэта адзначыў і Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы спачатку з пісьменнікамі, а потым з творчай моладдзю краіны. 2011 год яшчэ раз паказаў, што атрымаць штосьці вартае можна толькі ўклаўшы плён сваёй працы і натхнення. Адзін з асноўных заклікаў Кіраўніка дзяржавы — ***"Нельга падтрымліваць шэрасць!"***…

За гэты год шмат было выдадзена і падрыхтавана кніг, многія з іх вартыя асобнага расповеду, напрыклад, персанальная энцыклапедыя "Максім Багдановіч" выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" (трэцяя ў нашай краіне!), альбо "Максім Багдановіч: вядомы і невядомы" РВУ "Літаратура і Мастацтва", альбо практычна любая кніга з серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі" выдавецтва "Мастацкая літаратура"… Пра ўсе навінкі імкнуўся распавесці і наш тыднёвік, пазнаёміць з аўтарамі, выдаўцамі. Але дзе чэргі па Кнігу? Ці азначае сусветнае зніжэнне цікавасці да чытання тое, што праца пісьменніка хутка стане незапатрабаванай, а разам з ёй страціць сваю грамадскую ролю і сам творца?

Каб змяніць сітуацыю да лепшага, у нас будзе наступны год. Будуць вандроўкі і сустрэчы, новыя творы і дыскусіі на старонках "ЛіМа", будуць святы ў Маладзечне і ў Глыбокім…

Далучайцеся, калі ласка, дзяліцеся тым, што хвалюе! Галоўнае ж, чаго мы жадаем вам, нашыя шаноўныя чытачы і аўтары, — захаваць надзею на лепшае, а з ёю прыйдзе натхненне і імкненне да творчасці — ва ўсім!

Шчаслівых вам Каляд і вясёлага Новага года!!!

**Таццяна СІВЕЦ**

# *З Калядамі і Новым годам!*




*Калаж Віктара Калініна*

**Казімір КАМЕЙША**

## Пад галінкай Навагоддзя

*Не з віхур,*
*не з рытмаў грозных*
*Год я новы пачынаю.*
*Бор свой, белы ад марозу,*
*У дыханне захінаю.*

*Захачу — і ўспыхне ёлка,*
*Аж вясёла зоркам стане.*
*Знаю ўсё,*
*Не знаю толькі,*
*Чым мой заўтра*
*бор паўстане.*

*Век наш,*
*Хмуры,*
*шумны,*
*строгі,*
*Скінь з чала налётак хмары.*
*Ніць бяжыць маёй дарогі*
*Па жывым клубку зямшара.*

*Колькі год яе матаю,*
*Бег яе спыніць баюся.*
*Ніць густая, залатая,*
*Як саломка з Беларусі.*

*Хай яна ўпрыгожыць ёлкі,*
*Хай яна зямлі ўсміхнецца.*
*Аднаго жадаю толькі —*
*Хай ніколі не парвецца.*

*Не, такога не дазволю,*
*Не дазволю ёй парвацца.*
*Ніццю шчасця,*
*Ніццю долі*
*Ёй у новы век імчацца.*

*Клічу сэрцы і сумленне*
*Пад галінкі Навагоддзя.*
*Хай праўдзівае праменне*
*Дзень і твар*
*твой распагодзіць!*

## Пункцірам

✔ Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка зацвердзіў рашэнні савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Адпаведна рашэнням будуць прызначаны 4 стыпендыі, выплачаны 32 заахвочвальныя прэміі і 7 грандпрэмій лаўрэатам міжнародных і нацыянальных фестываляў і конкурсаў, аказана матэрыяльная дапамога 8 актыўным удзельнікам мастацка-творчых мерапрыемстваў.

✔ Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Літве Уладзімір Дражын перадаў у Вільнюскую бібліятэку імя А. Міцкевіча падборку са 168 кніг: творы беларускіх класікаў, энцыклапедычную літаратуру і выданні для дзяцей.

✔ Беларусь возьме ўдзел у міжнародным галаграфічным праекце "Скарбы праваслаўя". Міжнародны праект, удзел у якім плануюць узяць Беларусь, Расія, Украіна, Балгарыя і Грэцыя, накіраваны на тое, каб стварыць галаграмы праваслаўных святынь краін-удзельніц.

✔ З 14 па 18 снежня ў Бабруйску праходзіў IV Рэспубліканскі тэатральны фестываль нацыянальнай драматургіі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча. Удзел у ім узялі не толькі беларускія тэатры, але і калектывы з Латвіі, Расіі і Украіны.

✔ Апарат Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей выпусціў трэцяе выданне альбома "Беларусь шматнацыянальная". У выданні змешчана інфармацыя пра гісторыю з'яўлення на беларускай зямлі прадстаўнікоў больш як 20 народаў, пра іх духоўныя, культурныя традыцыі, дасягненні ў розных сферах жыцця, асаблівасці нацыянальнай кухні.

✔ Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Дзяржпагранкамітэт Рэспублікі Беларусь падпісалі Пагадненне аб узаемадзеянні і супрацоўніцтве. Дадзены дакумент адкрывае шырокія магчымасці ў стварэнні, адраджэнні і захаванні культурных каштоўнасцей, арганізацыі культурнага адпачынку пагранічнікаў, выхаванні духоўных і маральных якасцей, развіцці мастацкай творчасці.

✔ Фонды музея гісторыі Магілёва папоўніліся новым рарытэтам — фаліянтам "Часоўнік", што датуецца 1773 годам. Выкупіць кнігу на інтэрнэт-аўкцыёне музею дапамаглі жыхары горада.

✔ На навагоднюю праграму "Цуды Станькаўскага лесу" запрашае экалагічны цэнтр "Станькава" ў Дзяржынскім раёне, дзе стварылі сядзібу спецыяльна для Дзеда Мароза. Сустракаць гасцей яму дапамагаюць Снегавік і іншыя казачныя персанажы. Тут яны будуць уладарыць да 20 студзеня. Наведвальнікаў цэнтра чакае вялікая культурная праграма, гульні, святочная ёлка.

✔ Больш як 100 майстроў прадставілі hand-made творы ў выставачным комплексе "БелЭкспа". Падчас чарговай выстаўкі "Млын" можна было набыць эксклюзіўныя падарункі ручной работы для ўсёй сям'і. У большасці калекцый панавалі навагоднія і калядныя матывы.

Падрыхтавалі Бажэна СТРОК і Алена ГАЛАЙ

## За падзеяй

# Ад класіка да класіка

**Міжнародная навуковая канферэнцыя "Мастацкі свет Максіма Багдановіча: адметнасць, шматграннасць, універсальнасць" прайшла на факультэце беларускай і рускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.**

Ірына ЧАРНЯЎСКАЯ

Канферэнцыя арганічна ўпісалася ў кантэкст святочных мерапрыемстваў, што ладзіліся ў Беларусі ды іншых краінах свету ў гонар славутага пісьменніка, перакладчыка, публіцыста і літаратурнага крытыка. Падчас урачыстага адкрыцця ўдзельнікам і гасцям канферэнцыі былі прэзентаваны ўнікальная энцыклапедыя "Максім Багдановіч" і "Мультымедыйнае выданне Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі «Паэт красы і гармоніі»: да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча". Яны змяшчаюць максімальна поўныя звесткі пра жыццё і творчасць класіка, яго арыгінальныя і перакладныя тэксты, навуковыя і публіцыстычныя матэрыялы, а таксама разнастайную інфармацыю пра акружэнне пісьменніка. Паводле дырэктара Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Таццяны Шэляговіч, і ўжо вядомая інфармацыя, і новыя адкрыцці даследчыкаў, у прыватнасці, матэрыялы гэтай канферэнцыі, — сапраўдная крыніца ведаў для аматараў літаратуры, настаўнікаў, музейшчыкаў і ўсіх прыхільнікаў творчасці Максіма Багдановіча.

Абмеркаваць творчую спадчыну "песняра чыстае красы" сабраліся не толькі айчынныя літаратуразнаўцы, культуролагі і гісторыкі, але і прадстаўнікі навуковай думкі замежжа — Польшчы, Расіі, Азербайджана, Арменіі. Ганаровым госцем форуму стаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Азербайджан у Беларусі Ісфандзіяр Бахціяр аглы Вагабзадэ. А прафесар Саак Антанесян не толькі выступіў з прывітальным словам, але і запрасіў прысутных на канферэнцыю, прысвечаную Якубу Коласу, Янку Купалу і Максіму Багдановічу, якая па яго ініцыятыве адбудзецца ў сакавіку наступнага года ў Арменіі.

Пасля ўрачыстага адкрыцця канферэнцыі вядомыя літаратуразнаўцы М. Мішчанчук, А. Макарэвіч, П. Васючэнка і іншыя даследчыкі выступілі з навуковымі дакладамі, што закранalі розныя аспекты жыцця і творчасці Максіма Багдановіча. Асаблівую цікавасць выклікала выступленне прафесара Бакінскага славянскага ўніверсітэта Р. Наўрузава, які прадставіў лірыку нашага земляка ў кантэксце ўсходняй паэзіі. Пленарнае пасяджэнне змянілася працай секцый, дзе былі прачытаны шматлікія паведамленні па самым шырокім коле пытанняў, звязаных з дзейнасцю класіка беларускай літаратуры. Асабліва парадавала тое, што побач з прызнанымі навукоўцамі годна і ў дастатковай меры прафесійна выступіла "маладая змена": у рамках канферэнцыі працавала секцыя "Мастацкая спадчына Максіма Багдановіча ў рэцэпцыі маладых даследчыкаў".

## Ініцыятыва

# Яго Вялікасці Каралю

Ірына ТУЛУПАВА

**Пры канцы гэтага года Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь па ўзгадненні з Гродзенскім аблвыканкамам аб'явіла конкурс на стварэнне эскізных праектаў помніка Міндоўгу ў Навагрудку. Заяўкі для ўдзелу ў конкурсе прымаюцца да 10 лютага 2012 г.**

Асоба Міндоўга заўсёды вабіла даследчыкаў. Беларускія гісторыкі перакананыя, што каранацыя князя, заснавальніка Вялікага Княства Літоўскага, адбылася ў 1253 годзе ў Навагрудку. Такім чынам, набліжаецца круглая дата каранацыі, якая не пройдзе незаўважанай у 2013 годзе.

Нашым часам (у 1993-м) у горадзе ўстаноўлены памятны знак каля падножжа гары Міндоўга — камень з шыльдачкай, дзе пазначана: "Гара Міндоўга, помнік гісторыі XIII ст." Ёсць легенда, паводле якой Міндоўг пахаваны тут разам са сваім тронам. Прычым легенда існуе некалькі стагоддзяў. Краязнавец, дырэктар Дома-музея Адама Міцкевіча ў Навагрудку Мікалай Гайба патлумачыў: "Упершыню такі факт пісьмова ўзгадваецца ў першай манаграфіі пра Навагрудак, выдадзенай у Львове на лацінскай мове ў 1759 годзе. У кнізе ёсць спасыл на тое, што мясцовыя жыхары распавядаюць, быццам тут пахаваны Міндоўг. Але ўжо ў XVIII ст. на той гары існавалі хрысціянскія могілкі. І яны працягвалі быць адкрытымі для пахаванняў ажно да 1920-х гг. Нават на сённяшні дзень там захавалася значная колькасць надмагільных помнікаў. І таму месца лічыцца сакральным, раскопкі не праводзяцца".

Аднак помніка Міндоўгу, які аб'яднаў раздробненыя землі ў адну дзяржаву, у Беларусі пакуль няма. Ідэя яго стварэння выказвалася значна раней, на асобны рахунак нават збіраліся ахвяраванні. Толькі на тое, каб давесці ідэю да яе канчатковага ўвасаблення, сродкаў не хапіла. Эскіз, а затым і больш вялікі варыянт коннага помніка Міндоўгу, некалькі гадоў таму стварыў вядомы беларускі скульптар Генадзь Буралкін. Зробленая праца мае шанц быць разгледжанай на гэтым конкурсе.

Ці ўвойдзе помнік у ахоўную зону вакол Навагрудскага замка, пакуль невядома, хаця гэта і не выключана, як зазначыў начальнік упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Ігар Чарняўскі. Месца, дзе плануецца ўсталяваць манументальнае збудаванне, яшчэ не вызначана. На думку жыхароў, найбольш верагодныя пляцоўкі для гэтага — гарадская плошча альбо тэрыторыя паміж Замкавай гарой і плошчай, гара Міндоўга.

Фундацыя матэрыяльных выдаткаў на стварэнне помніка плануецца часткова з рэспубліканскага бюджэту, часткова — з Гродзенскага абласнога і з прыцягненнем прыватных сродкаў.

## Праекты

# Лепшы пасля Вільні горад

Раіса МАРЧУК

**Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь прэзентаваў фундаментальны праект, прысвечаны вайне 1812 года, якая істотна паўплывала на лёс Еўропы. Маштабная экспазіцыя складаецца з шасці тэматычных раздзелаў, аб'яднаных агульнай ідэяй.**

У тыя часы Мінск — як запісаў адзін з салдат напалеонаўскай арміі, "лепшы пасля Вільні горад у беларуска-літоўскім краі"— выконваў ролю важнага ваенна-стратэгічнага цэнтра на землях былога Вялікага Княства Літоўскага. За яго спрачаліся рускі генерал Баграціён і французскі маршал Даву. З ліпеня па лістапад 1812-га праз Мінск прайшло больш як 80 тысяч салдат Вялікай арміі, але ён, у адрозненне ад Барысава, Віцебска, Магілёва, не стаў арэнай вялікіх змаганняў. Аднак мы па-ранейшаму працягваем жыць стэрэатыпамі і звязваем гэтую вайну выключна з Расіяй і Францыяй, забываючыся пра тое, што для Беларусі гэта не менш значная старонка.

— Асноўная задача новага праекта "Вайна 1812 года ў гісторыі Мінска" — паказаць наведвальнікам аб'ектыўную, гістарычна дакладную і рознабаковую карціну падзей на прыкладзе Мінска праз прызму паўсядзённасці, — падкрэсліў дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Сяргей Вечар. — Выстаўка падрыхтавана не толькі нашым калектывам, але і калегамі з некалькіх рэгіянальных устаноў. У экспазіцыі змешчаны шэраг музейных прадметаў, якія раней мы не маглі прадставіць шырокай публіцы. Такія праекты — вельмі затратныя, таму мы ўдзячны за падтрымку і Міністэрству культуры, і нашаму генеральнаму партнёру — кампаніі Japan Tobacco International.

— Мы лічым сваёй пачэснай місіяй аказваць падтрымку ўстановам культуры і мастацтва ў плане захавання і памнажэння гістарычнай спадчыны, — зазначыў прадстаўнік кампаніі JTI Віктар Лук'янаў. — Сумесна з Нацыянальным гістарычным музеем нам удалося рэалізаваць каля дзесяці праектаў, адзін з апошніх — рэканструкцыя постацей князя Вітаўта і караля Ягайлы.

Віктар Лук'янаў прадставіў супольны каляндар, які адлюстроўвае рарытэты і артэфакты з калекцый Нацыянальнага гістарычнага музея, і зазначыў, што гэта не апошні сумесны творчы праект кампаніі і музея.

## Сустрэчы

# «Люблю я Оршу…»

Юлія АЛЯКСАНДРАВА

**На малую радзіму Уладзіміра Караткевіча, у Оршу, завіталі супрацоўнікі часопіса "Маладосць" — намеснік галоўнага рэдактара Віктар Кавалёў і рэдактар аддзела паэзіі Віка Трэнас.**

Творчая сустрэча распачалася ў сярэдняй школе № 20. Наведвальнікамі імпрэзы, праведзенай настаўніцай-беларусазнаўцай Аленай Панкратавай, сталі вучні восьмага і адзінаццатага класаў. Яны не толькі дазналіся пра гісторыю "Маладосці" (як вядома, свае лепшыя творы Уладзімір Сямёнавіч друкаваў менавіта ў гэтым выданні), але і самі задалі пытанні гасцям, распавялі пра сваё бачанне беларускай літаратуры.

У Аршанскім музеі Уладзіміра Караткевіча (ён, дарэчы, месціцца ў будынку былога радзільнага дома, дзе з'явіўся на свет пісьменнік) тэматычны тыдзень суправаджаецца разнастайнымі сустрэчамі і прэзентацыямі з удзелам мясцовых літаратараў. У тым ліку — сяброў аб'яднання "Дняпроўскія галасы", што існуе пры музеі. Куратарам яго з'яўляецца навуковы супрацоўнік Вольга Пашковіч. Для пачаткоўцаў створана адмысловая школа паэзіі "Лотас" пад кіраўніцтвам паэткі, барда Анастасіі Сіянінай.

Літабсягі



Кацярына БЯДУЛІНА,
фота Кастуся Дробава

# Дабрыня заўжды побач

**У літаратурным музеі імя Петруся Броўкі адбылася творчая сустрэча з паэтам, празаікам і перакладчыкам Міхасём Пазняковым пад назвай "Тварыце, людзі, на зямлі дабро…".**

Міхась Пазнякоў распавядаў пра сваю творчасць, разважаў пра значэнне кнігі ў жыцці кожнага чалавека… Асаблівую ўвагу ён звярнуў на юбілей Максіма Багдановіча, які святкаваўся сёлета. "Яго творчасць заслугоўвае ўвагі, бо ён не толькі таленавіты пісьменнік, а яшчэ і выдатны чалавек, гуманіст і інтэрнацыяналіст", — адзначыў Міхась Паўлавіч.

Запрошаныя на сустрэчу школьнікі ахвотна задавалі госцю пытанні, цікавіліся, калі з'явіўся першы твор пісьменніка, што яму падабаецца з замежнай літаратуры, які яго самы любімы беларускі твор. Адказваючы на пытанні, Міхась Пазнякоў адзначыў, што "наша беларуская літаратура багатая на імёны людзей, якія зрабілі для яе нямала. Сюды можна аднесці і творчасць Максіма Багдановіча, і Максіма Танка, і Якуба Коласа, і Янкі Купалы".

Калі казаць пра замежную літаратуру, то Міхась Пазнякоў таксама мае да яе самае прамое дачыненне, бо пераклаў на беларускую мову раманы Мігеля дэ Сервантэса, Вальтэра Скота, Сельмы Лагерлёф, шматлікія творы Ханса Крысціяна Андэрсена, братоў Грым, Яўгенія Пермяка, Самуіла Маршака і інш.

Назва сустрэчы з Міхасём Пазняковым "Тварыце, людзі, на зямлі дабро…" была абрана не выпадкова, бо творы яго вызначаюцца асаблівай пранікнёнасцю, захапляюць сваёй непаўторнасцю і арыгінальнасцю. Гэта скарбонка сучаснай беларускай літаратуры, якая нясе чытачу любоў і павагу да Бацькаўшчыны, роднай прыроды, мовы, а таксама дабрыню і шчырасць.

***На здымку: Міхась Пазнякоў падчас творчай сустрэчы.***

Артлінія

# Казка «пад ёлачку»

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

**Твор, які папоўніў рэпертуар Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра, сам па сабе выклікае прыемныя эмоцыі і настройвае на свята. Класічна прыгожы і па-калядняму чарадзейны "Шчаўкунчык" П. Чайкоўскага! Між тым, з дня яго гістарычнай санкт-пецярбургскай прэм'еры ўжо сто дваццаты год пайшоў: створаны кампазітарам на лібрэта М. Пеціпа паводле казкі Э. Т. А. Гофмана, балет упершыню быў пастаўлены 17 снежня 1892 года Л. Івановым. А на беларускай сцэне...**

У летапісе НАВТ оперы і балета Беларусі — дзве адметныя пастаноўкі "Шчаўкунчыка": у рэдакцыі В. Вайнонена (1956) і ў харэаграфіі В. Елізар'ева (спектакль з 1982 г. упрыгожвае рэпертуар і мае поспех на замежных гастролях). Падчас росквіту балетнай трупы Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра "Шчаўкунчык" з'явіўся і тут: у рэдакцыі тагачаснай кіраўніцы балета Н. Дзячэнкі, паводле версіі В. Вайнонена — праўда, са значнымі купюрамі і пад назвай "Зачараваны прынц" (1996, узнаўленне ў 2002). Ды паспяховасць "задужа самастойнага" маладога балета не радавала тых, каму хацелася бачыць на сцэне гэтага тэатра шоу з падтанцоўкамі...

Новы галоўны балетмайстар У. Іваноў мае намер адрадзіць страчаную традыцыю і пераканаць, што сённяшні статус тэатра абавязвае ўдасканальваць прафесіяналізм, узнімаць харэаграфічнае майстэрства калектыву на акадэмічны ўзровень. Значыць, трэба ставіць класіку. А што ёсць вышэй за эталон "Шчаўкунчыка"?! Летась узнавілі "Дывертысмент" з балета. Цяпер — насуперак арганізацыйна-фінансавым праблемам — адбылася прэм'ера спектакля на аснове версіі В. Вайнонена, распаўсюджанай у свеце з 1930-х гадоў як найбольш удалай.

Ініцыятар праекта, аўтар сцэнічнай рэдакцыі, пастаноўшчык У. Іваноў і дырыжор А. Лясун імкнуліся максімальна захаваць ды раскрыць крохкі маляўнічы музычна-вобразны свет твора, здатны паланіць і зусім юную, і дарослую душу. А нязначныя купюры ў танцах — вынік недастатковага колькаснага складу выканаўцаў: хуткасць, з якой артысты мусілі б мяняць касцюмы, каб выйсці на сцэну ў абліччы ўжо іншых персанажаў, магчыма толькі на кінаэкране... Касцюмы, дарэчы, падбіралі з гардэроба іншых пастановак. Затое дэкарацыі арыгінальныя: плён творчасці Л. Сідзельнікавай, якая імкнулася праз сцэнаграфію перадаць і адчуванне казачнага свята, і спрадвечную мару чалавека пра ідэальны свет. Галоўныя партыі танцуюць, і пакуль без дублёраў, сёлетнія выпускнікі Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа Міку Сузукі ды Дзмітрый Лазовік. Класіка выпрабоўвае дэбютантаў — і акрыляе!



***На здымку: галоўны балетмайстар БДАМТ, народны артыст Беларусі Уладзімір Іваноў.***

Повязі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

# Святкавалі разам

**У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры прайшло традыцыйнае свята "Беларуска-нямецкія Каляды", падрыхтаванае пры ўдзеле Інстытута нямецкіх даследаванняў і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.**

"Беларуска-нямецкія Каляды" ладзяцца на базе музея ўжо трэці год. Свята хутка знайшло прыхільнікаў у асяроддзі студэнцкай моладзі, якая вывучае народныя традыцыі і культуру Германіі. Моладзь бярэ і актыўны ўдзел у падрыхтоўцы святочнай праграмы. Гэтым разам гасцей сустракалі проста ў хоне музея вясёлыя калядоўшчыкі з універсітэта культуры і мастацтваў. Хаця свята афіцыйна вылучана як беларуска-нямецкае, але распачалі яго… цыганкі. Безумоўна, у якасці калядных персанажаў. Можна спрачацца пра тое, наколькі традыцыйным з'яўляецца цыганскі касцюм у асяроддзі калядоўшчыкаў. Але вясёлыя варожбы і гульні, якія прапанавалі публіцы студэнткі-"цыганачкі", выглядалі цалкам арганічна ў кантэксце беларускага антуражу свята з мядзведзем, казой і зоркай на шасце.



З прывітальнымі словамі да прысутных звярнуліся пасол Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Беларусі Крыстаф Вайль і дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч. І адразу ж "слова" было перададзена… Дзеду Марозу, які з'яўляецца самым папулярным калядным персанажам у Беларусі. Уручэнне падарункаў прысутным змянілася цікавай і надта пазнавальнай вікторынай, у якой удзельнікам (іх падзялілі на тры каманды) трэба было ведаць не толькі адпаведныя традыцыі беларускага і нямецкага народаў, не толькі "навагоднія" і "калядныя" творы літаратуры, мастацтва, музычнай класікі, але і абавязкова беларускую і нямецкую мовы, бо пытанні гучалі менавіта на іх. Беларускі бард Аляксей Жбанаў правёў своеасаблівы майстар-клас па выкананні калядных песень беларусаў.

Нямецкія арганізатары свята паказалі гасцям стары і добры калядны фільм "Абед у адзіноце", які, нягледзячы на сумную назву, аказаўся вясёлай кароткаметражнай камедыяй. А яшчэ нашы сябры наладзілі частаванне гарбатай і каляднымі нямецкімі прысмакамі. Пры гэтым пірагі і печыва былі прыгатаваны не толькі ў Мінску, але і ў самой Германіі — спецыяльна для мерапрыемства.

Яркім акцэнтам вечарыны стала падвядзенне вынікаў вясёлай фотавыстаўкі, у якой мог узяць удзел кожны, хто пажадае. Усе тры галоўныя прызы дасталіся нашым маладым суайчыннікам. Пэўна, дзеля таго, каб найбольш поўна і ярка данесці да гледачоў дух і атмасферу Каляд, трэба быць маладым, вясёлым, бестурботным. Завяршылася ж свята ў музеі спяваннем вядомай каляднай песні "Ціхая ноч" (музыка Франца Грубера, словы Ёзафа Мора) у беларускім перакладзе.

***На здымку: дырэктар Інстытута нямецкіх даследаванняў Уладзімір Ціханаў, бард Аляксей Жбанаў, дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч, загадчык кафедры рэжысуры абрадаў і свят БДУКіМ Пётр Гуд.***

З-пад пяра

➤ У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася літаратурная сустрэча "Шлях да Літвы" з цыкла "Сяброўства вузы кроўныя", прымеркаваная да 105-годдзя з дня нараджэння Антанаса Венцлавы. Такія сустрэчы праводзяцца з пачатку гэтага года. Іх асноўная мэта — не забываць тыя "краіны-сяброўкі" былога Савецкага Саюза, што мелі прамое дачыненне да творчасці Якуба Коласа, паўплывалі на станаўленне і захоўванне культурных традыцый нашай краіны. Вялікую працу прарабіў Антанас Венцлава як перакладчык: вершы Якуба Коласа загучалі па-літоўску. Як адзначылі мастак Мікалай Купава і малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, "такая сустрэча — гэта невялікі шлях да Літвы, добрая магчымасць яшчэ раз прайсціся па старонках кнігі жыцця Якуба Коласа, бо ў ёй ёсць шмат чаго нязведанага".

**Кацярына БЯДУЛІНА**

➤ Мінула два гады з таго часу, як не стала сатырыка і гумарыста Міколы Вяршыніна. Аднак памяць сяброў не пакінула яго. Пацвярджэнне таму — выданне пасмяротнай кнігі пісьменніка "Вочы ў вочы". У ёй — рупліва сабраныя жонкай Нінай Тарасаўнай сатырычныя мініяцюры, эпіграмы, байкі, фельетоны, гумарэскі М. Вяршыніна, а таксама прысвячэнні сябрам і іх успаміны пра паэта. На прэзентацыі кнігі, якая адбылася ў Палацы мастацтва і якую вёў выдавец і паэт Мікола Трафімчук, выступілі ўкладальнік зборніка Юрась Нераток, пісьменнікі Кастусь Жук, Анатоль Зэкаў, Яўген Гучок, Эльвіра Ярчак, Соф'я Макарэвіч і Лілія Матусевіч, а таксама паэт і бард Алесь Емяльянаў і тэатр сатырычных мініяцюр Мінскага трактарнага завода, дзе працяглы час Мікола Вяршынін працаваў інжынерам.

**Марыя БЯРНАЦКАЯ**

➤ Падведзены вынікі літаратурнага і мастацкага конкурсу, прысвечанага 100-годдзю Чэслава Мілаша, для вучняў школ і гімназій Брэста. Сярод лепшых прац журы пад кіраўніцтвам начальніка гарадскога аддзела адукацыі Анатоля Наскова і віцэ-консула Генеральнага консульства Рэспублікі Польшча ў Брэсце Ганны Домска-Лучак адзначыла эсэ вучаніцы гімназіі № 1 Елізаветы Сает, вучаніцы 11 класа СШ № 29 Кацярыны Чуб, верш вучаніцы гімназіі № 6 Дар'і Андрыевіч, а таксама мастацкія працы Таццяны Язерскай (СШ № 10). Пераможцы атрымалі дыпломы і каштоўныя падарункі.

**Ніна ДРЫК,**
**Уладзімір БАРЫСЮК**

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" глыбока смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні галоўнаму рэдактару газеты "Звязда" Алесю Мікалаевічу Карлюкевічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці ЖОНКІ.

Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае шчырыя спачуванні старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ Алесю Мікалаевічу Карлюкевічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю ЖОНКІ.

Калектыў Выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" глыбока смуткуе з прычыны заўчаснага сыходу з жыцця спецыяліста па кадрах КАРЛЮКЕВІЧ Святланы Аляксандраўны. Выказваем шчырыя спачуванні і падзяляем горыч страты з роднымі і блізкімі.

Калектыў Выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" выказвае глыбокія спачуванні Алесю Мікалаевічу Карлюкевічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю ЖОНКІ.

Уладзімір МЕХАЎ

# Верш кожны на ідыш, як той падкідыш...

У Рыгора Барадуліна ёсць такія, зразумела, дарагія мне радкі:

*Год пяцьдзясят*
*чацвёрты ехаў*
*На пенсію,*
*На здачу спраў,*
*Калі Ўладзімір Львовіч Мехаў*
*Мой першы верш надрукаваў.*

Гэта вершаваныя ўспаміны пра літаратурнае аб'яднанне, якое ў сярэдзіне мінулага стагоддзя дзейнічала пры рэдакцыі "Чырвонай змены". Дзесяць гадоў я ўзначальваў у рэдакцыі аддзел літаратуры і мастацтва. Непасрэдна літаб'яднаннем не кіраваў. Яно лічылася "вотчынай" паэта Івана Калесніка ("Іван Калеснік — Няхамкінаў намеснік", — абыгрываючы маё пашпартнае прозвішча, жартавалі заўсёднікі пасяджэнняў). Але ў ім я ўдзельнічаў, прыцэльваўся, каго з пачаткоўцаў варта рэкамендаваць для апублікавання.

У той жа час у беларускую літаратуру актыўна ўваходзіла генерацыя, да якой прыжылася назва "філалагічнае пакаленне", — выпускнікі і студэнты гуманітарных факультэтаў, якія затым выдалі свае першыя кнігі паэзіі і прозы.

Памятаю, недзе, здаецца, у пяцьдзясят першым па рэдакцыйных справах сяджу ў Астравецкім райкаме камсамола. І ў кабінет да сакратара заходзіць кучаравісты хлапчына, сакратар адной са школьных камсамольскіх арганізацый. Расказвае, што за працу яго хвалілі, а цяпер вось прыслалі на яго месца новага чалавека, ён нават плаціць грошы, а яна нічога не цяміць у гэтай рабоце. Райкамавец з вінаватым выглядам растлумачыў, што не ягоная то была прыдумка — памяняць камсамольскага важака. Дзесьці ў вышэйшых органах вырашана для ўзмацнення ідэалагічнага ўздзеяння на моладзь былой Заходняй Беларусі мець нават у сярэдніх школах "аплачваемых" камсамольскіх арганізатараў. Вось яму і загадалі працаўладкаваць дзяўчыну, былую партызанку.

І якое было маё здзіўленне, калі праз гады на пасяджэнні літаб'яднання я ўбачыў таго астравецкага юнака, студэнта Адама Мальдзіса. Цяпер жа хто з людзей, што маюць дачыненне да культуры, не ведае гэтае імя выдатнага вучонага, пісьменніка, знаўцы мінуўшчыны?

З аб'яднанага цягай да прыгожага пісьменства маладняку, што помніцца з тых збораў літаб'яднання, Імем у літаратурным жыцці выпала стаць многім. Назаву Івана Чыгрынава і Барыса Сачанку, Генадзя Бураўкіна і Янку Сіпакова, Юрася Свірку і Уладзіміра Паўлава, Кастуся Цвірку і Вячаслава Рагойшу — даруйце, хто ў гэтыя хвіліны, калі пішу, не ў памяці. Маладзенькі Рыгор Барадулін стаіць перад вачыма трошкі няўклюдным халерыкам у чорным паліто з доўгімі рукавамі. Напачатку ён свае вершы падпісваў псеўданімам Алесь Чабор.




Гэтыя згадкі ўсплылі ў маёй памяці з прычыны, у якой з колішнім чырвоназменаўскім літаб'яднаннем аніякай сувязі: прачытаў выпушчаную выдавецтвам "Кнігазбор" кніжку Рыгора Барадуліна з назвай для кагосьці, разумею, проста-такі эпатажнай — "Толькі б яўрэі былі!.." Укладальніца Наталля Давыдзенка сабрала пад адну вокладку артыкул славутага паэта пра даўнюю, даўжынёй у колькі стагоддзяў, узаемапавагу беларусаў і яўрэяў, ягоныя развагі пра знаных дзеячаў яўрэйскай культуры, напісанае ім пра блізкіх сяброў-яўрэяў, пераклады з яўрэйскай паэзіі, вершаваныя прысвячэнні і дарчыя надпісы калегам і дружбакам-землякам з гэтай, цытуючы яго, "графскай лініі" (па неспрыяльнай для яўрэяў пятай графе савецкага пашпарта).

Міжволі ўспомніліся далёкія пасляваенныя. У сорак шостым годзе васямнаццацігадовым студэнтам, якому пашчасціла працаваць у рэдакцыі "ЛіМа", я прачытаў у машынапісе з аўтаравым уласнаручным выпраўленнем памылак друку верш Максіма Танка "З Умшлягплаца". Пра Януша Корчака. Цяпер тое, што з болем апявалася вершам, — сюжэт колькіх разнамоўных паэм, аповесцей, п'ес, кінафільмаў. Я сам некалі па заказе рэдактара "Вясёлкі" Еўдакіі Лось напісаў для часопіса апавяданнейка пра гэтага варшаўскага ўрача і пісьменніка, які пад прымусам акупантаў-фашыстаў мусіў павесці на адпраўку ў лагер смерці выхаванцаў свайго дзіцячага дома, — калі ж яму дазволілі самому не сядаць у лагерны эшалон з дзецьмі, не ехаць з імі на смерць, адмовіўся, не пакінуў дзяцей. Толькі заказчыца папярэдзіла, каб Корчак у маім апавяданнейку ішоў на гібель у газавай камеры не з яўрэйскімі дзецьмі з гетаўскага дзіцячага дома, як было ў сапраўднасці, а з выхаванцамі звычайнага дзіцячага дома. Як было ў п'есе пра подзвіг Корчака, што ставілася Тэатрам юнага гледача, — сапраўднасць гэтак жа абыходзілася.

У Танкавым жа вершы Корчак крочыць апошні раз па Варшаве "з грамадою яўрэйскіх дзяцей". Пік разгулу ў СССР дзяржаўнага антысемітызму яшчэ наперадзе. Але набліжэнне яго яшчэ як адчувалася. Для паэта-беларуса, ды з аўтарытэтам Танка, схіліць галаву перад святым учынкам Корчака значыла публічна выказаць стаўленне да таго прыкрага, што пра сябе заяўляла.

У калектыўнай кнізе ўспамінаў "Наш Быкаў" я напісаў, як гідзіўся брыды антысемітызму Васіль Уладзіміравіч, чыстая, светлая душа. Я беражліва захоўваю атрыманы ад яго ў 1966 годзе ліст пра змешчаную ў "Полымі" спечаную на патрэбу дня празаічную рэч байкара Уладзіміра Корбана. "Прачытаў тую паскудную пісаніну Корбана, — гаворыцца ў пісьме, — і першае, што хочацца сказаць табе: плюнь і разатры. Антысемісцкі закід там, вядома, у наяўнасці, але зроблена ўсё гэта так бездапаможна ў літаратурных адносінах, так непераканаўча і па-газетнаму, што шкада робіцца нерваў хлопцаў харошых, якія з-за гэтага перажываюць. Я не разумею, дзеля чаго "Полымя" друкавала гэта. Што яго ў гэтай бязглуздзіцы прывабіла?.."

> *"У Канадзе не так і даўно выйшла па-беларуску і па-англійску кніга "Беларуска-яўрэйскія пісьменнікі XX стагоддзя". З даведкамі і пра тых, хто пісаў па-яўрэйску, і пра пісьменнікаў-яўрэяў, што пісалі і пішуць па-беларуску і па-руску. Гартаючы таўшчэзны том, я падумаў: каму ён у Канадзе патрэбны?*

Што ж, так было і так ёсць. Не абыходзілася і не абыходзіцца літаратарскае асяроддзе без такіх, як аўтар недабрапомнай палымянскай публікацыі. У прачулым эсэ пра сусветна слыннага цяпер Барыса Заборава Р. Барадулін кпліва згадвае паэта-пафасніка, што быў вельмі задаволены забораўскім афармленнем ягонага зборніка і ў падзяку надумаў быў увесці мастака ў склад рэдкалегіі падначаленага яму, пафасніку, часопіса. Ды ўбачыўшы ў анкеце, што Барыс па бацьку Абрамавіч, ад задумы адмовіўся. Шчасце, што не падобныя да гэтага пафасніка, імя якога не названа Рыгорам Іванавічам, а такія, як Танк і Быкаў, як сам Барадулін, вызначаюць маральнае аблічча беларускай літаратуры.

Наогул, паводле слоў з артыкула, назву якога носіць і кніга, "Беларусь стала для яўрэяў цёплай хатай. У нас яўрэі ніколі не адчувалі сябе прыхаднямі". Яму, Барадуліну, сумна, што на беларускіх вуліцах не пачуеш цяпер яўрэйскую мову — раней у талерантнай Беларусі яна "пачувала сябе як дома". Балюча за апошніх яўрэйскіх паэтаў, цяпер ужо зусім-зусім рэдкіх у Беларусі, Расіі, ва Украіне.

*Апошнія паэты яўрэйскія.*
*Каму чытаць*
*ім вершы свае на ідыш?*
*Ці ветру ў полі,*
*Ці дрэву, якому журба*
*дагінае голле?*
*Верш кожны на ідыш,*
*Як той падкідыш, —*
*Прылашчыць няма каму.*

Напрошваецца тлумачэнне: ці не таму, што ў арыгінале яўрэйскія паэты цяпер чытаюцца ў нас вельмі-вельмі мала кім, столькі іх загаварыла ў майстэрскіх перакладах Барадуліна? Хаім Нахман Бялік і Мошэ Надзір, Міхл Гардон і Іцык Кацнельсон, Ізі Харык і Рува Рэйзін, Сара Каган і Генадзь Шведзік, Леў Талалай і Захар Барсук, Ісак Платнер і Марк Шагал (той самы, каго ўсе ведаюць як найславутага мастака), Хаім Мальцінскі і Рыгор Рэлес.

Вядомы расійскі бард Аляксандр Гарадніцкі апроч таго, што стварыў шмат папулярных песень і з'яўляецца буйным вучоным-акіянолагам, з цікавасцю працуе ў кінадакументалістыцы. Прыехаўшы з канцэртам у Мінск, ён заадно (таму прадбачліва прыехаў з апаратам і памочніцай)досыць многа наздымаў тут для фільма, які потым быў распаўсюджаны пад назвай "У пошуках ідыша". Пры знаёмстве каля помніка ахвярам Мінскага гета, перакінуўшыся са мной словам-другім, ён сказаў памочніцы, каб знялі і мяне. Знялі. Але ў фільме сябе не ўбачыў. Відаць, не спадабалася, што дужа песімістычна гаварыў пра будучыню ідыш у Беларусі і паўсюдна.

У апошнія дзесяцігоддзі савецкай улады на паказ замежжу, што нібыта ніякай дыскрымінацыі яўрэйскай культуры ў СССР няма, у Маскве выдаваўся часопіс "Саветыш геймланд" ("Савецкая радзіма"). Чытачоў меў вобмаль, аўтараў усё менш і менш, але выдаваўся. І недзе ў шасцідзясятыя ў Мінскім клубе імя Дзяржынскага адбыўся вечар часопіса. Сяджу ў глядзельнай зале ў апошнім радзе амфітэатра, слухаю галоўнага рэдактара Арона Вяргеліса. Красамоўнічае ён па-яўрэйску. Да сораму свайго, разумею не ўсё, але слухаю. Нехта кладзе мне руку на плячо. Азіраюся — Ніл Гілевіч, ён быў тады першым сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі.

— Глядзі ўніз, — гаворыць з пачуццём шкадавання. — Адны сівыя ды лысыя. Моладзі зусім не відно.

— Праўда, — згаджаюся, уздыхаючы. — Толькі ці не стане такога ж гадоў праз трыццаць-сорак на вечарах "Полымя"?

Усміхнуўся. Ці то з упэўненасці, што не стане, ці то са страху, каб не стала.

Успамін за ўспамінам, думку за думкай абуджаюць старонкі кнігі. Вось расказвае, што жонка Барыса Заборава Ірына (для тых, хто не ведае: дачка цудоўнага рускага паэта Барыса Карнілава, расстралянага ў сталінскім трыццаць восьмым) вучыць рускай мове народжанага ў Парыжы, дзе цяпер жывуць і Заборавы, праўнука Міхаіла Чэхава, вялікага рускага акцёра, больш як палова жыцця якога прайшла па-за айчынай. Журботна зазначаецца: "Калі-небудзь і дзецям шмат якіх беларускіх пісьменнікаў таксама, можа здарыцца, будуць даваць урокі беларускай мовы".

Праўда, з досведу ад бадзяння па свеце зазначана і "невынішчальная асаблівасць беларусаў і выхадцаў з Беларусі — за межамі краю, на чужыне пачынаюць любіць, паважаць, помніць усё беларускае". Меў рацыю Алесь Ставер, напісаўшы ў песні, акрыленай мелодыяй Ігара Лучанка: "Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць"? Відаць, меў. На памяць прыходзіць, што ў Канадзе не так і даўно выйшла па-беларуску і па-англійску кніга "Беларуска-яўрэйскія пісьменнікі XX стагоддзя". З даведкамі і пра тых, хто пісаў па-яўрэйску, і пра пісьменнікаў-яўрэяў, што пісалі і пішуць па-беларуску і па-руску. Гартаючы таўшчэзны том, я падумаў: каму ён у Канадзе патрэбны? Ды некаму ж патрэбны, раз выдадзены.

Вось у кнізе Барадуліна развагі пра найменне нацыі па-беларуску. Аўтар пераканаы: "спрадвеку ў беларускае мове слова "жыд" не мела й слабога водценю абразы, прынізу". Ён трымаецца думкі, што гэта "бальшавікі з Масквы прынеслі ў слова "жыд" значэнне абразы, непрыхаванай нянавісці", з чым не спрачаюся, але не гатовы і згадзіцца. Р. Барадулін карыстаецца найменнем "яўрэй", "яўрэі", хоць і лічыць, што ўведзена яно ў беларускую мову ледзь не прымусова. Ды прыжылося. Сумняваецца, ці прыжывецца найменне "габрэй", на якое, палічыўшы шырокае ва ўжытку "яўрэй" не беларускім паводле паходжання, перайшлі некаторыя, хоць рэдкія, выданні. (Што да мяне, то не разумею, навошта ўкаранелае ў мове "яўрэй" мяняць галаўным, штучным "габрэй". А пішучы для выдавецтва "Тэхналогія" прадмову да кнігі Гірша Смоляра "Менскае гета", перакладзенай Міколам Гілевічам з англійскай, быў проста ашаломлены, калі ўбачыў, што там насельнікі гета называюцца нават не габрЭямі, а габрАямі.)

...Напісанае мною менш за ўсё рэцэнзія на новую кніжку Рыгора Барадуліна. Але вунь колькі абудзіла ўспамінаў і дум ак у памяці. Як жа рады, што яе прачытаў!

# Без веры жыць — пакутна існаваць




Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Паэтычныя старонкі лістападаўскага нумара часопіса "Полымя" прадстаўлены імёнамі трох творцаў: Міколы Маляўкі, Анатоля Шушко і Навума Гальпяровіча.

Найбольш цікавая ўнутраная будова ў падборцы Навума Гальпяровіча. Фактычна тут сканцэнтраваны творчы шлях паэта. Вытокі свайго светапогляду аўтар выводзіць з малой радзімы: *"Ад полацкіх спрадвечных купалоў, // Ад рэчачкі далёкага дзяцінства // Я да спазнання ісціны ішоў, // Да адчування шчырага адзінства // <…> З падоранаю вечнасцю зямлёй, // Што поўніць сэрца сілаю гаючай"*. Асэнсаванне еднасці з Айчынай прывяло аўтара да ўласных паэтычных спроб: *"Мой лёс паміж радкоў маіх пралёг // Ад ночы цёмнай да надзеі светлай. // І я ляцеў, нібыта матылёк, // На ліхтары пад адзінокім ветрам"*. Разам з Н. Гальпяровічам да Беларусі крочылі сябры-аднадумцы, што непапраўна рана адышлі ў іншы свет: *"Праплылі, нібыта крыгі, // Па цішы вясновых вод… // Я чытаю вашы кнігі // Ўжо без вас каторы год // <…> А на магілках не трэба // Пышных і прыгожых слоў. // Тут крыжы, журбота, неба, // Тут Марук і Пісьмянкоў"*. Тым не менш іх лёс і творчыя пошукі толькі надалі веры аўтару: *"Без веры жыць — пакутна існаваць. // Хоць піць, гуляць і баляваць без меры, // Ды ўсё ж самотна на душы без веры — // І страху за расплату не суняць"*. Верш, у якім адлюстравана творчае крэда аўтара, з'яўляецца, на мой суб'ектыўны погляд, лепшым у падборцы Н. Гальпяровіча. Яго можна лічыць адным з прыкладаў сучаснай патрыятычнай паэзіі. Прычым эфект ад такіх радкоў куды больш, чым ад любых пафасных публіцыстычных заклікаў.

У падборцы палешука Анатоля Шушко асабліва хацелася б вылучыць некалькі твораў. Рамантычная "Кветка волі" прысвечаная спатканню манашкі з каханым. Твор становіцца сімвалам кахання без шчаслівага фіналу. Сімвалічнай і шматзначнай здаецца канцоўка: *"Віжуе за пекнатою… // — Пара мне… // — Яшчэ паспееш… // А ранне крывёй густою // Каліны гаркавай спее"*. Застаецца толькі здагадвацца пра лёс непакорнай дзяўчыны.

Настальгічны верш "Ушушканы ўспамінам" пераносіць чытачоў у дзяцінства аўтара і стварае эфект прысутнасці там чытача. А. Шушко прапануе яркую маляўнічую карціну зімовых забаў: *"Ты лепш ляці на гульбішча з сябрамі // І да знямогі коўзайся з гары. // Хай Бобік з брэхам паімчыць за вамі // Хоць да вячэрняй чырвані-зары…"*

Аднак некаторыя радкі паэта выклікаюць пярэчанні. Напрыклад, *"Мо таму // Здзіўляцца // Не стамлюся // Інейцы // Сівенькай // У траве // Як на старасць // Раптам // Памылюся, — // Мудрая // Ў маленства пазаве"*. Але хто хаваецца пад прыметнікам "мудрая"? Зямля? Прырода? Заінелая трава? З кантэксту верша разабрацца ў гэтым цяжка.

Вершы Міколы Маляўкі, сталага і прызнанага творцы, маюць найбольшы дыяпазон. Гэта лірыка як настальгічна-самотная (*"У мінулым замоўкла // І даўно ўжо не радуеш // Ні пісьмом, ні паштоўкай, // Ні скупой тэлеграмаю. // <…> Не дайсці, не даехаць, // Не заплакаць ад радасці. // Безгалосае рэха… // Пакаянне без адраса"*), так і юнацка-гарэзлівая (*"Замяла шляхі завея, // Снег у інею карунках, // Толькі твар твой ружавее // Ад юнацкіх пацалункаў"*).

Але найбольш моцна гучыць філасофская лірыка. Бадай, толькі досвед і мудрасць могуць прывесці да такога разумення жыцця: *"Усходу каснічок зіхоткі // Яшчэ румяніцца над намі, // Ды час праб'е, // І мы, як продкі, // Таксама станем каранямі"*. Таксама М. Маляўка звяртаецца да Чарнобыльскай трагедыі, сімвалам якой становіцца вобраз чорнага бусла: *"Здаецца, ад гора абвугліўся // Чарнобылец белы раней"*. Прычым яго палёт набывае выразна метафарычны характар: *"Ляціць над дамамі-магіламі // І моліцца крыламі птах"*. І ў гэты момант пачынаеш разумець, што бусла можна лічыць і сімвалам усёй Беларусі. Менавіта таму *"хочацца сэрцам паверыць // У сілу малітвы без слоў — // Зямля да Любові павернецца // Пад крыламі белых буслоў"*.

# Эпоха «Бітлз»




Алеся ЛАПІЦКАЯ

Адзінаццаты нумар "Нёмана" адкрываецца часопісным варыянтам кнігі Юрыя Пелюшонка "Струны для бітл-баса" — эсэ ці дакументальным нарысам. "На сённяшні час галоўным відам кніг у свеце з'яўляецца літаратура факта", — канстатаваў Ціхан Чарнякевіч у мінулым аглядзе. Цікава, што тэксты Ю. Пелюшонка і У. Гніламёдава (аналізаваўся раман-дзённік "Сем гадоў у ЦК") прысвечаны практычна аднаму часу — 70-м гадам. Як вынікае ўжо з назваў твораў, аўтары даюць абсалютна розныя зрэзы эпохі, бачаць яе пад рознымі вугламі, што абумоўлена найперш прыналежнасцю да розных пакаленняў.

"Струны для бітл-баса" — расповед пра гісторыю захаплення савецкай моладзі культавым "Бітлз" — для адных чытачоў будзе напамінам пра юнацтва, для другіх — магчымасцю адчуць атмасферу таго часу, калі "дзесьці за мяжой з'явілася нешта шумнае, вясёлае, валасатае і страшэнна сімпатычнае. І гэтае "нешта" пад назвай "Бітлз" выконвае свае песні пад электрагітары і валодае такой сілай, што прымушае палюбіць сябе ўсіх, хто хоць раз "гэта" пачуў. Ю. Пелюшонак распавядае не толькі пра любоў і захапленне, але і пра больш практычныя рэчы — пошук мелодый і тэкстаў, калекцыяніраванне фотаздымкаў, выраб бас- і электрагітар з выкарыстаннем таксафонных трубак і струн ад школьнага піяніна. Папулярнасць "Бітлз" мела вынікам з'яўленне шматлікіх "бітл-гуртоў", і аўтар, які яшчэ ў старэйшых класах стаў сола-гітарыстам у "ансамблі" такога кшталту, цікава і ярка апісаў тыповыя прыгоды падчас рэпетыцый і публічнага выканання ўлюбёных песень. Адсюль і зварот да тагачасных рэалій, якія немагчыма абмінуць, пішучы пра бітламанію.

Паводле Ю. Пелюшонка, звычайныя людзі ставіліся да прыхільнікаў "Бітлз" за рэдкім выключэннем спачувальна альбо нейтральна, у адрозненне ад тых, хто меў дачыненне да поля ўлады — ад участковага міліцыянера да камсамольскага актыву. Праўда, і тут былі шчаслівыя выключэнні. Жаданне наследаваць стылю і ладу жыцця легендарных музыкантаў ці нават проста слухаць і выконваць песні "Бітлз" рабілася ўпартым сцвярджэннем права на вольнае вызначэнне сваіх прыхільнасцей і поглядаў. У тагачасных умовах гэта разглядалася як форма сацыяльнага пратэсту, што ў сур'ёзных выпадках магло мець вынікам мабілізацыю ў Афганістан. "Яны гучна патрабуюць: дайце нам іх, мы іх любім… А мы толькі ціха просім: не біце нас за тое, што мы іх любім", — каменціруе савецкая школьніца фотаздымкі з "істэрычнымі дзеўкамі" на замежным канцэрце гурта.

"Мы слухалі музыку "Бітлз", не думаючы пра тое, якія яны падаткаплацельшчыкі і ці свядомыя яны грамадзяне, мы слухалі іх музыку таму, што яна дапамагала нам жыць", — падсумоўвае свой расповед пісьменнік. Тут можа з'явіцца думка, што аўтар практычна не спыніўся на тым, што ж менавіта прываблівала савецкую моладзь у песнях "Бітлз". Але затое раскрыў парадокс бітламаніі: амаль ніхто ў СССР не ведаў дакладнага зместу і дакладных мелодый усіх улюбёных песень, шмат што проста дадумвалася і падбіралася на слых. Таму, магчыма, у тэксце і не з'явілася роздумаў пра трапнасць асобных радкоў і сакрэты акордаў. Ю. Пелюшонак разглядае бітламанію як сацыяльную з'яву, а не аналізуе эстэтычнае значэнне музыкі "Бітлз".

"З кожнай песняй быў звязаны пэўны кавалачак чыйгосьці жыцця, асабістыя ўспаміны", — зазначае аўтар, але пры гэтым не паглыбляецца ў прыватнае. Твор не перанасычаны аўтабіяграфічнымі дэталямі і груваcткімі разважаннямі, высновы і абагульненні Ю. Пелюшонка звычайна ёмістыя, але сціслыя. Дзякуючы нязмушанасці і шматпадзейнасці расповеду, дзякуючы іранічнаму стылю аўтара, ягонай здольнасці да трапных дэталяў і глыбокіх заўваг тэкст чытаецца лёгка і, разам з тым, засведчвае інтэлектуальнасць пісьменніка. Пры арыгінальнасці, незалежнасці і, безумоўна, небесстароннасці свайго погляду Ю. Пелюшонак устрымаўся ад скрайняга суб'ектывізму, ад магчымасці трагедызаваць ці ідэалізаваць эпоху бітламаніі.

Аўтар, акрамя іншага, стварыў пэўны хранатоп: паказаў чытачу зусім новы, незнаёмы Мінск 70-х гадоў — Мінск, дзе ў парку Горкага цэлую ноч граюць на гітарах, а ў Доме афіцэраў звязваюць дырэктара залы падчас выканання песні "Dizzy Miss Lizzie". І хаця "Струны для бітл-баса" прысвечаныя найперш захапленню савецкай моладзі культавым рок-гуртом, у Ю. Пелюшонка атрымаўся яшчэ і цікавы расповед пра асаблівасці грамадства, часу і, лакальна, мінскага жыцця ў эпоху бітламаніі.

# Нечаканы джэб




Наталля ПАХОМЧЫК

Чырвоная нітка для агляду лістападаўскага нумара "Маладосці" была намі схоплена і выцягнута на паверхню ці не з сярэдзіны нумара — з артыкула Ціхана Чарнякевіча, прысвечанага прозе Алены Брава: яго назва, хоць і з пэўнымі ўдакладненнямі, добра прыкладаецца да характарыстыкі пераважнага аўтарскага складу і тэматыкі ўсяго нумара — "У зачараваным царстве жаноцкасці". Міркуйце самі: за выключэннем нізкі верлібраў дэбютанта Алега Гурскага і вершаў больш дасведчанага ў філасофскіх пошуках Адама Шостака, мастацкая (і не толькі: сюды ж аднясём інтэрв'ю з псіхолагам Нэлі Ксяневіч "Блізкасць… душэўная"; досыць бязладны, як, мусіць, і належыць эмацыйнай размове, дыялог Максіма Пятруля і Святланы Дзянісавай і інш.) прастора нумара належыць менавіта такому "царству", якое…

…Месцамі сапраўды "зачараванае", па-дзявочы вытанчанае, далікатнае, як лірыка Ірыны Карэлінай: гэта вельмі чуйны мастацкі свет, дзе віно — "з дзьмухаўцоў", зоры — "спелыя, як слівы", тут дождж ніколі не "пойдзе" — тут "загрукочуць" "дажджынкі-кастаньеты".

…Месцамі па-мацярынску шчымлівае і кранальнае, як апавяданне Алесі Кузьміч "Лёшка" — не без агрэхаў, але з праўдзіва расстаўленымі этычнымі акцэнтамі, тонкім псіхалагізмам у дачыненні да абмалёўкі вобраза галоўнага героя — Лёшкі, хлопчыка, які, нягледзячы на "нядобранадзейнасць" сваёй маці, усё ж любіць яе.

Аўтар выдатна адчувае, дзе праходзіць тая тонкая мяжа паміж праўдзівасцю адлюстравання і залішняй ідэалізацыяй вобраза, якую часта і ахвотна пераходзіць Лідзія Адамовіч у апавяданні "Візіт капітана", галоўная гераіня якога — Кірыяна — робіць усё, "каб прывабіць да сябе хлопца, у якога была закахана". "Царства жаноцкасці" паўстае ў сваім выключна "ружовым" праяўленні: не столькі праз саладжавасць (паказальныя дэталі тыпу "настою аліўкавага алею з пялёсткамі ружаў", "пушыстага халаціка" і "А вось і торцік!"), колькі па сваёй жанравай логіцы, якая і дыктуе сюжэт: хлопец урэшце "прываблівaецца", ды не той, а нашмат лепшы. Прапанова выйсці замуж. Заручальны пярсцёнак. Хэпі-энд. Заслона.

Закалыханы галасамі з "зачараванага царства", чытач будзе злёгку шакіраваны, знянацку атрымаўшы "Апошні джэб" ад Аляксандра Брыта ("у боксе джэбам называюць хуткі, прамы ўдар вядучай рукой") — апавяданне пра жанчыну-баксёра. З першых радкоў адчуваеш: зараз плынь аповеду падхопіць і імкліва панясе… Вось, як кадры кінастужкі, замігцелі ўваччу сцэны з жыцця дзяўчынкі-дзетдомаўкі Аляксандры. Аўтар тут дасягае самых таемных куткоў зацкаванай дзіцячай душы: "У дзіцячым доме ўсе фантазіравалі нястрымна. Як гэта ўмеюць рабіць толькі адзінокія дзеці. Тэмы ўзнікалі розныя, але ўсе яны нязменна зліваліся ў адну: у мяне ёсць мама…".

Абмалёўка дарослых герояў пераканальная не ў меншай ступені: аўтар па-майстэрску, як добры рэжысёр, выхоплівае ў славесны "кадр" толькі самыя трапныя дэталі…

Неўзабаве гераіня становіцца студэнткай факультэта фізічнай культуры. Пасля цэлы шэраг абставін-прычын, сярод якіх ці не першую ролю адыгралі "дысцыпліна, мэтанакіраванасць, настойлівасць" гераіні, закідваюць яе ажно ў Нямеччыну, спрыяюць хуткаму поспеху ў свеце жаночага боксу і не толькі: Аляксандра выходзіць замуж, нараджае дачку Вікторыю. Падумаецца, добрае апавяданне з чарговым хэпі-эндам, толькі гісторыя занадта экзатычная: жанчына-баксёр. Калі б не адна дэталь: апавяданне прысвечана Алесі Граф — прататыпу галоўнай гераіні, і калі паглыбіцца ў яе жыццяпіс, прыходзіць зусім іншае ўспрыманне твора. З рэальнасцю тут супадае многае. Ды, бясспрэчна, толькі пад пяром таленавітага творцы рэальная, хай ужо сама па сабе надзвычай неверагодная і кранальная гісторыя здольная ператварыцца ў мастацкае цэлае. Брыт здолеў пераканальна спалучыць у вобразе галоўнай гераіні рысы моцнага духам чалавека і адначасова слабога дзіцяці, якое праз усё жыццё імкнецца да страчанага — да мамы.

Твор добра глядзеўся б у кінаверсіі (аўтарскія рэмаркі кшталту "добры аператар паставіў бы тут камеру на запаволенае дзеянне" толькі ўмацоўваюць нашае перакананне). Цікава было б потым параўнаць беларускую версію гісторыі пра жанчыну-баксёра з расійскай кінастужкай "Белая Мядзведзіца", прысвечанай Наталлі Рагозінай. Падаецца, "Апошні джэб" Аляксандра Брыта выглядае ў гэтых адносінах нашмат больш перспектыўным.



**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

Слова краязнаўцы



***Загадчык аддзела сацыяльнай праблематыкі газеты "Родныя вытокі" Тамара Альшэўская, якая не першы год вывучае гісторыю Докшыцкага раёна, натхнёна расказвае пра вынікі сваіх даследаванняў і пра цікавыя гістарычныя факты:***

— Наш край знаходзіцца паміж вытокаў дзвюх рэк — Бярэзіны і Віліі. На месцы вёскі Гарадзішча знаходзіцца старажытнае паселішча, якое датуецца II — III стагоддзямі. Людзі з даўніх часоў цягнуліся да вады і ўрадлівай глебы. Першы пісьмовы ўспамін пра паселішча адносіцца да 1407 года, калі была выдадзена грамата вялікага князя Вітаўта. Разам з Лагойскім і Барысаўскім раёнамі нашы землі ўваходзілі ў Харэцкую воласць Вялікага Княства Літоўскага, а з сярэдзіны XVI стагоддзя — у Мінскі павет. Некаторыя вёскі захавалі свае назвы з тых часоў: Беразіно, Валча, Туміловічы… Да падзелу Рэчы Паспалітай у краі ўладарылі магнаты Радзівілы-Кішкі, Хадзевічы, Слуцкія. Паводле перапісу 1897 года налічвалася больш як 125 тысяч чалавек. Тутэйшы народ вылучаўся працавітасцю і адукаванасцю. У сярэдзіне XIX стагоддзя дзейнічалі дзевяць народных вучылішч, царкоўна-прыходскія школы і школы граматы, вінакурны, броварны і цукровы заводы. Значным крокам у развіцці краю стала адкрыццё чыгуначных станцый Сяславіна і Параф'янава. Два разы на год у Докшыцах праходзілі вялікія кірмашы.

З мячом прыходзілі на нашы землі шведы, французы, кайзераўскія салдаты. Нямецкая акупацыя ў 1919-м змянілася польскай. Савецка-польская мяжа праходзіла якраз пасярэдзіне Докшыцкага раёна. Другога ліпеня 1941 года ў горад уступілі немцы, якія адзначылі свой прыход пакараннем смерцю некалькіх чалавек на галоўнай плошчы. За гады акупацыі больш як тры тысячы чалавек былі павешаны і расстраляны. Падчас вайны загінуў кожны трэці жыхар раёна. Пра тыя падзеі нагадвае мемарыяльны комплекс "Шунёўка", які знаходзіцца на месцы спаленых вёсак Шунёўка, Азарцы, Залатухі. На акупацыйныя рэпрэсіі людзі адказалі гераічнай барацьбой. Нельга забыць пра подзвіг партызан. Дзякуючы ім напрыканцы 1942 года Бягомль, які стаў сталіцай партызанскага руху, вызвалілі ад акупантаў. Тыя, хто застаўся ў жывых, адрадзілі народную гаспадарку, ды так, што ў 70-х гадах мінулага стагоддзя раён перамог у рэспубліканскім спаборніцтве па ўраджаі збожжавых. Мірным подзвігам маіх землякоў прысвечана паэма "Докшыцкі каравай" Міхася Калачынскага. Прыгажосць нашага краю і працавітасць людзей заўсёды натхнялі творцаў.

Музейны ўнікат

# Калі немагчымае магчыма

Раіса МАРЧУК,
фота Кастуся Дробава

**Унікальны збор матэрыялаў, прысвечаных постаці выдатнага сына Беларусі, аднаго з "бацькоў"-заснавальнікаў БССР, першага прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Усевалада Ігнатоўскага, урачыста перададзены ў дар Нацыянальнаму гістарычнаму музею Рэспублікі Беларусь.**



Усевалад Ігнатоўскі займаўся вывучэннем гісторыі Беларусі. Апублікаваў шэраг буйных манаграфічных даследаванняў, сярод якіх — абагульняючая работа па гісторыі нашай краіны "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі". Значную ўвагу надаваў Кастрычніцкай рэвалюцыі і першым гадам савецкай улады. Яму належыць адна з першых распрацовак канцэпцыі нацыянальнай гісторыі Беларусі. Зробленае Ігнатоўскім для станаўлення і развіцця беларускай дзяржаўнасці, беларускай навукі назаўжды застанецца каштоўным здабыткам.

Жыццёвы шлях Усевалада Макаравіча, з якім звязана цэлая эпоха ў нашай краіне, трагічна абарваўся ў 1931 годзе. У тыя змрочныя часы, калі знікаў чалавек, знікалі і яго архівы — каб больш нічога не напаміналa пра гэтую асобу. Дзякуючы пільнай дзейнасці даследчыка гісторыі Беларусі, кандыдата гістарычных навук, дацэнта факультэта міжнародных адносін Белдзяржуніверсітэта Уладзіміра Ляхоўскага частка асабістых дакументаў вучонага была знойдзена.

— Маё дачыненне да гэтых дакументаў ускоснае, — падкрэсліў Уладзімір Віктаравіч. — Тэмай дыпломнага праекта я абраў Мінскі настаўніцкі інстытут, дзе выкладалі і вучыліся многія выбітныя асобы Беларусі. Сярод іх і Усевалад Ігнатоўскі. Займаючыся гістарычнымі пошукамі, у 1991 годзе я пазнаёміўся з Маяй Аляксандраўнай, дачкой бліжэйшага паплечніка Усевалада Макаравіча, дзяржаўнага дзеяча Аляксандра Сташэўскага, які быў рэпрэсіраваны. Прыкладна ў 1997-м яна абмовілася, што ёсць у яе дакументы, датычныя Усевалада Макаравіча. Але паказваць іх не хацела. І толькі напрыканцы гэтага лета жанчына перадала мне сваю каштоўную калекцыю, якая, на дзіва, захавалася вельмі добра. Прынамсі, пасведчанні знаходзіліся ў канверце трыццатых гадоў, але час зусім не закрануў іх. Тое ж самае можна сказаць і пра рукапісы. На выстаўцы прадстаўлена сямнаццаць асабістых дакументаў Ігнатоўскага і пяць рукапісаў амаль на 96 старонках.

Цікавая адметнасць: на ўсіх дакументах 20-х гадоў назва рэспублікі традыцыйна пісалася на чатырох афіцыйных мовах нашай краіны ў тыя часы: беларускай, рускай, польскай і ідыш.

Паводле версіі Уладзіміра Ляхоўскага, архіў Ігнатоўскага адразу пасля яго смерці быў канфіскаваны. Пра гэта сведчыць вопіс. Чаму ён нейкі час захоўваўся ў Прадстаўніцтве БССР у Маскве, невядома.

— Мяркую, што пасля гэтыя дакументы паступілі ў партыйны архіў ЦК КПБ, — распавёў Уладзімір Ляхоўскі. — А вось як яны патрапілі да Маі Аляксандраўны, гэта загадка. Спадзяюся, асноўная частка дакументаў Усевалада Ігнатоўскага не загінула. Як бачыце, іншы раз немагчымае магчыма. Хочацца верыць, што мы яшчэ натрапім на гэты ўнікальны архіў, які выклікае вялікую цікавасць навуковай грамадскасці Беларусі. Упэўнены, даследчыкаў чакаюць новыя адкрыцці.

***На здымку: членскі білет №47 Усевалада Ігнатоўскага, члена Усебеларускага ЦВК ССРБ. Мінск, 1921 — 1922 гг.***

Дударскі клуб

# Адвечнае кола вяртання

Марына ВЕСЯЛУХА

**Лёс беларускай дуды даследчык і майстар інструментаў Алесь Сурба параўнаў з ідэяй Фрыдрыха Ніцшэ пра адвечнае вяртанне. Складана не пагадзіцца з такой метафарай. Калісьці надзвычай папулярны інструмент пасля гадоў забыцця зноў вярнуўся ў беларускую музычную традыцыю. Але ўжо перароджаны.**

Пра актуальнасць гэтага інструмента ў культурнай прасторы, а таксама цікавасць да яго з боку маладога пакалення даследчыкаў, сур'ёзны падыход да вывучэння і аднаўлення традыцыі сведчаць не толькі фэсты і сустрэчы "Дударскага клуба", але і канферэнцыі. Звычайна яны праходзяць увесну ў межах "Дударскага фэсту", але ў гэтым годзе ў музейным комплексе "Дудуткі" пры падтрымцы Пасольства ЗША ў Рэспубліцы Беларусь адбылася яшчэ адна, зімовая сустрэча знаўцаў і аматараў, прысвечаная тэме "Дударская музыка Беларусі. Актуальныя пытанні рэканструкцыі".

Гэтую канферэнцыю можна назваць сустрэчай разбурэння стэрэатыпаў. За гады аднаўлення ўжо склаліся пэўныя традыцыі, што датычыць і знешняга выгляду інструмента, і яго гісторыі. Да прыкладу, дуды, што вырабляюцца сёння нашымі майстрамі, у асноўным робяцца па прыкладзе лепельскай дуды (самай старой на Беларусі, цяпер захоўваецца ў Лепельскім краязнаўчым музеі), вельмі прыгожай і элегантнай. Але, як сцвярджае даследчык Алесь Чумакоў, беларускія інструменты не заўсёды адпавядалі эстэтычным канонам. Часта яны выбракляліся са старога дрэва, не апрацоўваліся з дапамогай спецыяльных тэхналогій, былі вельмі масіўнымі, дудар нават мог імі абараняцца.

Пэўнага кшталту разбурэннем стэрэатыпаў стаўся і даклад Змiцера Сасноўскага, прысвечаны распаўсюджванню ў Беларусі дудэльзакаў (дудаў нямецкай канструкцыі). Зміцер падкрэсліў, што нямецкая дуда прысутнічала на беларускіх землях яшчэ з XVI ст., выкарыстоўвалася ў вайсковай музыцы, магчыма, як і ў Швецыі і Польшчы, была адзнакай гарадской культуры, у той час як інструмент мясцовай канструкцыі выкарыстоўваўся ў вёсках. Але на гэтым міжнародны аспект канферэнцыі не быў вычарпаны. Ганна Несцерава па даручэнні нямецкага гурта *Fidelius* (госця "Дударскага фэсту-2011") распавяла пра дуды сорбаў, славянскага племені, што рассяліліся на тэрыторыі Германіі.

У праграме прагучалі і даклады, якія датычылі спосабаў навучання ігры на дудзе. Так, Кацярына Радзівілава падкрэсліла, што выкладанне дуды немагчымае без знаёмства з беларускай гісторыяй і традыцыямі.

Радавод

# Ад каранёў сваіх

**Менавіта такую назву носіць выстаўка-радавод у музеі-сядзібе "Пружанскі палацык". Тут можна ўбачыць рэчы, дакументы, фотаздымкі з сямейнага архіва Уладзіміра і Таццяны Аркадзьевых. Прадстаўленыя экспанаты дазваляюць паглыбіцца ў гісторыю іх роду.**

Аркадзьевы жывуць у Мінску, але часта прыязджаюць у родны дом у вёску Слабудка каля Пружан. Цяпер рэдка сустрэнеш людзей, якія з такой павагай і гонарам ставяцца да роднай гісторыі, скрупулёзна збіраюць і беражліва захоўваюць усё, што звязана з іх родам. Падчас пошуку каранёў муж і жонка аб'ездзілі нямала месцаў, даведаліся шмат цікавага пра продкаў. Высветлілі, што бабуля Уладзіміра А. Бурэніна паходзіла з купецкага роду, прадстаўнікі якога вызначаліся як добрыя мастакі.

Любоў да творчасці пераходзіла з пакалення ў пакаленне. Так, бацька У. Аркадзьева, Ігар Уладзіміравіч, мастак-аматар, рабіў копіі з палотен славутых майстроў. Гэтыя творы ўпрыгожвалі дамы пружанцаў. Захаваўся альбом з яго малюнкамі алоўкам і гуашшу сярэдзіны XX стагоддзя, партрэты вядомых вучоных і літаратараў, якія ён напісаў для мясцовай школы, шэраг работ алеем. Сёння ў мастацкай школе займаюцца ўнукі Ігара Уладзіміравіча — Андрэй і Вольга, чые графічныя работы, аплікацыі і роспісы па дрэве таксама экспануюцца.

Шмат матэрыялаў даследчыкі сабралі дзякуючы сваякам, якія жывуць у Пружанскім і суседніх раёнах. Аркадзьевы змаглі пазнаёміцца з дакументамі і рэчамі, што перадаваліся з пакалення ў пакаленне.

Як адзначыў Уладзімір Ігаравіч, важная крыніца ў пошуках — надмагіллі. Менавіта на вясковых могілках адшукаў ён знаёмыя імёны. Паралельна з гэтым ішла работа ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі.

Трэба адзначыць, што адкрыццё выстаўкі стала сапраўднай падзеяй у жыцці многіх людзей. У "Пружанскі палацык" з'ехаліся з розных куткоў Беларусі родныя Аркадзьевых. Многія з іх не бачыліся дзясяткі гадоў, іншыя нават не ведалі пра існаванне адно аднаго.

— Справу вывучэння ўласнага роду нельга адкладваць на апасля, — зазначыў Уладзімір Аркадзьеў. — Міне час, і, можа, нічога не застанецца. Хочацца пакінуць багатую спадчыну сваім дзецям, каб яны адчувалі за сабой вялікую гісторыю, любілі і паважалі свой род.

Наталія ПРАКАПОВІЧ

# На радзіме Касцюшкі

Бажэна СТРОК

Яшчэ адзін музей — Жабінкоўскі раённы гісторыка-краязнаўчы — з'явіўся на Брэстчыне. Адкрылі яго ў вёсцы Малыя Семяховічы, побач са старадаўнім паркам Касцюшкаў-Семяховіцкіх, дзе некалі знаходзіўся родавы маёнтак Тадэвуша Касцюшкі. Цяпер у музеі працуе тры залы. Першая — этнаграфічная, другая прысвечана землякам, якія абаранялі Радзіму падчас Вялікай Айчыннай вайны. Трэцяя расказвае пра Тадэвуша Касцюшку. На чарзе — стварэнне экспазіцыі, якая павядае пра сённяшнія дасягненні Жабінкоўскага раёна. А яшчэ тут маецца шэраг рэдкіх экспанатаў, сабраных у асноўным у гэтым рэгіёне.

Фаіна ВАДАНОСАВА,
вядучы навуковы супрацоўнік
Дзяржаўнага літаратурнага
музея Янкі Купалы

# «Мілая, ясная цёця Уладзя…»

**Так назваў Уладзіславу Луцэвіч сучаснік Янкі Купалы, беларускі пісьменнік Максім Лужанін. Асоба, стваральніца, педагог, грамадскі дзеяч, жонка… 120-годдзе з дня яе нараджэння мы адзначаем 25 снежня.**

Спадарожніца народнага паэта Янкі Купалы, яна была яго памочніцай, падтрымкай на працягу 25 гадоў і не страціла свайго асабістага "я" ў водбліску славы і папулярнасці знакамітага мужа. Ушанаванню памяці паэта прысвяціла жыццё, і ў гэтым не вялікая заслуга для гісторыі беларускай культуры.

Уладка — жвавая, вясёлая дзяўчынка з сям'і Станкевічаў з незвычайнай гісторыяй, адметнымі каранямі і традыцыямі. Продкі яе — удзельнікі паўстанняў 1831, 1863 гадоў, у сям'і панаваў нацыянальна-вызваленчы настрой. Дзед ведаў асабіста Адама Міцкевіча і хаця быў значна малодшы за яго — на 11—12 год, — сябраваў з паэтам, гасцяваў у Кушлянскім доме Багушэвічаў у 1898 — 1899 гадах. Франц Станкевіч, бацька Уладкі і Вікенція, ляснічы ў Каралінаве, успамінаў, што і пісьменнік Францішак Багушэвіч, і мастак Фердынанд Рушчыц неаднойчы наведвалі сям'ю, а потым разам адпраўляліся ў Вішнеўскія лясы на паляванне. "Жывым срэбрам" называў старэйшы брат вясёлую, гаманкую дзяўчынку. У сям'і размаўлялі на польскай мове, але з маленства ведалі і беларускую. Уладка добра спявала, удзельнічала ў выступленнях Першай прафесійнай тэатральнай трупы Ігната Буйніцкага.

Беларуская паэтэса Канстанцыя Буйло прыгадвае іх знаёмства: "…Я ўбачыла ў садку пад расцвіўшымі яблынямі прыгожую маладую дзяўчыну, у доўгай сукенцы, з доўгімі, амаль да кален, тоўстымі, пышнымі, залатымі косамі. Ой, і прыгожая на дзіва была тады Уладка, і дзіўна гарманізавала яе краса з гэтымі расцвілымі яблынямі… Яна была спакойная, простая, лагодная і нейкая незвычайна чуткая…"

Эмілія Манэ, маці Уладзіславы Францаўны, была з роду знакамітага мастака-імпрэсіяніста Клода Манэ. У Беларусь, у Вішнева, яна прыехала ў 80-я гады XIX ст. выкладаць французскую мову для дзяцей графа Храптовіча. Сустрэча з маладым ляснічым Францам Станкевічам вызначыла яе лёс. Відаць, жвавасць, аптымізм, весялосць Уладзіслава ўзяла ад маці. І ад маці ў спадчыну атрымала прафесію настаўніцы, любоў да дзяцей. Яна скончыла экстэрнам Віленскую гімназію ў 1906 г., двухгадовыя педагагічныя курсы ў Варшаве. У 1908 г. дзіцячы прытулак у Вільні пад патранажам Таварыства апякунства над беднымі стаў яе першым месцам працы.

Пад псеўданімамі Владычанка, Станкевічанка публікавала вершы і апавяданні ў варшаўскім штотыднёвіку і на старонках газеты "Наша ніва". У рэдакцыі газеты яна сустрэлася з ужо вядомым у літаратурных колах аўтарам паэтычнага зборніка "Жалейка" Янкам Купалам.



*Уладзіслава Луцэвіч. Мінск. 1925.*

Па некаторых літаратурных звестках, іх пазнаёміў яе зямляк — пісьменнік Стары Улас (У. Сівы-Сівіцкі). Пасля яны разам глядзелі драму С. Пшыбышэўскага "Снег". Уладзіслава Францаўна ўзгадвала: "П'еса гэта захапіла Я. Купалу да глыбіні душы. Калі мы выйшлі з тэатра, на вуліцы падаў снег. Была дзіўная цішыня. Я. Купала, як заўсёды, праводзіў мяне дадому… Назаўтра я атрымала ад яго новы верш «Снег»".

Наступная іх сустрэча адбылася ў 1913 г. на Лагойшчыне. Яе брат, Вікенцій Станкевіч, у той час служыў вінакурам у памешчыка Чаховіча, унука старога паўстанца, таго дзівака, які некалі даваў кнігі Ясю Луцэвічу, будучаму паэту. Улетку Уладзіслава часта адпачывала ў брата, а Янка Купала жыў у маці ў некалькіх кіламетрах, у Акопах. Ён прыходзіў у госці, любіў слухаць у яе выкананні песню "Ці ў полі, ці ў полі не бярозка расла". Неўзабаве паэт напісаў верш "Мусіць, трэба было", пазней прысвяціў Уладзіславе яшчэ два вершы — "Успомні" і "Гэй, ты, дзяўчына, кветка-лілея".

Гаспадыня Купалавага дома, Купаліха… Так пачалі зваць Уладзіславу Францаўну пасля таго, як іх лёсы злучылі ў касцёле Св. Пятра і Паўла ў Маскве 23 студзеня 1916 г. Разам з мужам яна пераязджала ў Мінск, Полацк, Смаленск, калі яго прызвалі ў войска, дзе ён служыў старшым рабочым дарожна-будаўнічага атрада.

З 1919 года сям'я Луцэвічаў жыве ў Мінску, і для Уладзіславы Францаўны гэта больш як 20 гадоў напружанай творчай педагагічнай працы. Сваіх дзяцей ва Уладзіславы Францаўны і Івана Дамінікавіча не было, але дзе б яны ні жылі, іх хата заўсёды звінела ад вясёлых галасоў. Асабліва многа гасцей бывала ў доме Купалы з дзіцячых садкоў, дзе працавала Уладзіслава Францаўна. Доўгі час у Купалы выхоўваліся дзеці сясцёр — Леакадзіі і Марыі…

Уладзіслава Францаўна працавала ў Мінску інспектарам дашкольных установ Наркамасветы БССР, выхавацельніцай, а затым загадчыкам паказальнага дзіцячага сада № 8, была педагогам-метадыстам дзіцячых устаноў і літработнікам беларускага радыё. Работа ў дзіцячым садку для цёці Уладзі была асалодай. Сучаснікі ўспамінаюць прыгожа аформлены пакой, дзе знаходзілася яе група. Музычныя заняткі праводзіліся два разы на тыдзень, рэпертуар падбірала сама Уладзіслава Францаўна. З вялікім задавальненнем яна апрацоўвала для дзяцей народныя песні і казкі, частку іх выдала асобным зборнічкам.

Адна за адной у 20 — 40-я гады выйшлі ў яе апрацоўцы беларускія народныя казкі "Як жабы бараніліся ад бусла", "Пых" і "Як пеўнік казу прагнаў", зборнікі "Народныя дзіцячыя песенькі", "Зборнік вершаў для дашкольных установ", "Для маленькіх", "Дашкольны спеўнік". Яна распрацавала сваю методыку навучання дзяцей беларускай мове праз фальклор і этнаграфію роднага краю.

Пасля трагічнай смерці Янкі Купалы ў 1942 годзе Уладзіслава Францаўна прысвяціла сваё жыццё ўшанаванню яго памяці. Яе справай стала стварэнне музея народнага песняра, збор і захаванне яго літаратурнай спадчыны. У 1942 г. яна была прызначана сакратаром камісіі па літаратурнай спадчыне Янкі Купалы. Руплівая збірала кожную драбніцу, якая мела дачыненне да народнага паэта, разумеючы, што ў Мінску, разрабаваным і разбураным у час вайны, музей Янкі Купалы ствараецца амаль на пустым месцы, на папялішчы дома народнага песняра.

Беларускія пісьменнікі ў час Вялікай Айчыннай вайны не пакідалі цёцю Уладзю. "Глебка часта бываў у Уладзіславы Францаўны Луцэвіч, калі яна пасля смерці Янкі Купалы жыла ў мяне. Мы не пакідалі яе адну, усе хлопцы нашы — Панчанка, Гурскі і іншыя не забываліся пра "цёцю Уладзю", якую сардэчна любілі", — успамінала К. Буйло. У музеі Янкі Купалы ў фондзе У. Луцэвіч захоўваецца вялікая перапіска Уладзіславы Францаўны з сучаснікамі паэта наконт успамінаў пра яго, з мастакамі, якім яна замаўляла работы пра яго жыццё і творчасць, шматлікія дакументы, кнігі з яе аўтографамі і інш.

У 1944 г. У. Луцэвіч прызначаюць дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы. Яе клопатам было праведзенне Купалаўскіх чытанняў, сустрэч, вечароў, выданне твораў песняра, арганізацыя выставак.



*Уладзіслава Францаўна і Янка Купала. Арол. 1916*

"Для Уладзіславы Францаўны наведвальнік быў жаданым госцем. Шлі не толькі ў музей, шлі да яе — ветлівай, добрай, горача закаханай тым, каб Янкава слова пашыралася ў народзе", — успамінала бібліёграф Ніна Ватацы.

Уладзіслава Францаўна руплілася і пра музей беларускай літаратуры. Варта нагадаць яе выступленне перад пісьменнікамі ў 1951 г.: "…Музей Янкі Купалы — гэта пачатак арганізацыі літаратурных музеяў. Мне здаецца, што пара ўжо падумаць аб збіранні матэрыялаў аб Кузьме Чорным, і аб Змітраку Бядулі, і аб Самуйлёнку…"

Яе невычэрпнай энергіі, руплівасці дзівіліся значна маладзейшыя людзі, пра што напісаў беларускі пісьменнік Сяргей Грахоўскі: "…Ніколі ніхто не бачыў яе запаволенай і спакойнай, абыякавай і сумнай. Калі смяялася, дык гарэзліва і залівіста, гаварыла з імпэтам, абуралася да кіпення, радавалася чужым радасцям, аж іскрылася, а людскія беды станавіліся яе клопатам і надоўга прыкоўвалі яе ўвагу. Яна заўсёды была ў дзеянні, у руху, у няспынным жыццёвым гарэнні".

У вялікай перапісцы Уладзіславы Францаўны з найлепшай сяброўкай, беларускай паэткай Канстанцыяй Буйло гучыць яе мара пра пабудову музея паэта на месцы іх дома па былой вуліцы Кастрычніцкай. Менавіта па радках лістоў можна прасачыць хроніку яго пабудовы: дакументацыя, рыццё катлавана, спрэчкі з архітэктарамі і будаўнікамі. Па словах сучаснікаў, "яна была прарабам і суровым кантралёрам па якасці і натхняла будаўнікоў рабіць як найлепш".

Яна зрабіла галоўную справу свайго жыцця — паўстаў будынак музея, але адкрыцця ёй не давялося пабачыць. Уладзіславы Францаўны не стала 25 лютага 1960 года. "Так паміраюць птушкі, як яна, забыўшыся аб стоме ў палёце…" — напісаў беларускі паэт Міхась Калачынскі.

Музей Янкі Купалы існуе амаль 67 гадоў як сур'ёзная навуковая і асветніцкая ўстанова, цэнтр купалазнаўства. І гэтым перш за ўсё вялікая заслуга яго стваральніцы і першага дырэктара Уладзіславы Луцэвіч. Да яе юбілею ў музеі падрыхтавана літаратурна-мастацкая выстаўка "Зерне, кінутае ў ніву, узходзіць ды красуе…".

***Фотаздымкі з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.***

Радзіннае

# Падмацаваць законам святы і абрады

**Навукова-практычны семінар "Бытаванне калядна-абрадавых традыцый у кантэксце сучаснай культуры" прайшоў у Інстытуце культуры Беларусі.**

Ульяна БЯЛОВА

Адкрыў мерапрыемства, на якое сабраліся метадысты абласных і раённых метадычных цэнтраў народнай творчасці і спецыялісты па фальклоры дамоў промыслаў і рамёстваў з розных куткоў Беларусі, рэктар гэтай установы, кандыдат філалагічных навук прафесар Іван Крук.

— Аб'екты нематэрыяльнай гісторыка-культурнай спадчыны, вылучаныя для аховы дзяржавай, значна саступаюць у колькасці матэрыяльным здабыткам, якіх па краіне налічваецца больш як пяць тысяч, — зазначыла загадчык сектара па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Наталля Хвір, якая закранула тэму заканадаўчай асновы для зберажэння народных свят і абрадаў. — Але гэта не сведчыць пра тое, што наша культура бедная на звычаі, традыцыі, дыялекты альбо народ не захаваў асаблівасці кожнага мястэчка. У першую чаргу гэтая праблема паўстае таму, што недастаткова ўвагі надаецца фальклору, рытуальна-абрадавым традыцыям. Багацце нашай культуры неабходна не толькі захоўваць, але і папулярызаваць. Я ўпэўнена, што сёння вёска Пагост Жыткавіцкага раёна вядома кожнаму. Адкрытая шырокаму колу традыцыя правядзення народнага абрада "Юраўскі карагод" прыцягнула да сябе ўвагу мільёнаў людзей па ўсім свеце. Нават кампанія "CNN" уключыла Пагост у спіс найболей прыдатных месцаў для сустрэчы Новага года і святкавання Каляд. Але галоўнае, што ў суайчыннікаў з'явілася яшчэ адна нагода ганарыцца сваім паходжаннем.

Увогуле семінар быў вельмі інфарматыўны. Актыўна абмяркоўваліся прапановы па развіцці экатурызму і аграсядзіб. Удзельнікі пазнаёмілі адзін аднаго з нематэрыяльнымі здабыткамі кожнага рэгіёна і мерапрыемствамі, накіраванымі на захаванне культурнага багацця народа. Іван Крук распавёў пра рытуальна-абрадавы комплекс "Свяча" ў беларускім Падняпроўі. Метадысты і кіраўнікі раённых і абласных цэнтраў фальклору Гомельшчыны прадставілі абрад ваджэння і пахавання стралы (вядомы пад назвай "Сена"), які захаваўся ў Старым Сяле Веткаўскага раёна, "Юраўскі карагод", калядна-абрадавыя песні вёсак Прыпяцкага запаведніка.

Зміцёр БУЗАЦЁР

# Навагоднія эпіграмы

**Мікалаю Чаргінцу**

Пра следчых, крымінальнікаў-барыг —
Не дзеля славы таннай ці карысці—
Накропаў столькі дэтэктыўных кніг,
Ледзь не зраўняўся і з Агатай Крысці.

Вярнуў цалік ягоны востры плуг
Тым сашніком, што з серабра адліты.
І аўтар увайшоў даўно у круг,
Як лічаць, дэтэктыўнае эліты.

**Міколу Шабовічу**



Ён родам нарачанец перш-найперш,
Таму і надта пільна сочыць, пэўна,
Каб часам Нарач не занесла ў верш
Больш, чымсьці трэба, азярное пены.

**Генадзю Пашкову**

Жар-птушку ў маладосці ён лавіў.
Хадзіў узлессем
і прырэчным лугам.
Служэнню ценькай музе благаславіў
Яго парнаскі адмірал Вялюгін.

Парывісты, душою малады,
Не блазан-шалапут і не задзіра,
Прымерыцца ў радках тады-сяды
І сам да адміральскага мундзіра.

**Георгію Марчуку**

З вусатаю усмешкай ён ідзе
Над Свіслаччу, нібыта над разорай.
І ў перадзімняй ледзяной вадзе
Ён лічыць да адной начныя зоры.

Магчыма, пашанцуе, як нідзе,
Як іншым не шанцуе і ў Парыжы, —
Не менш як з тузін іх перападзе,
І ўсе на нітку любай ён наніжа.

Пад Новы год ён скажа, што не зоры,
А лепшых твораў ёй паднёс узоры.

**Алесю Савіцкаму**

Падпольшчык былы, сувязны,
Як трэба, і злеплен, і скроен.
Не меней, чым воз, сівізны
Ён носіць сягоння на скронях.

Аповесць, то новы раман,
Хоць часам бывае і горка,
Без фальшу і гожых румян
Не гэблем стругае, а пёркам.

**Міколу Мятліцкаму**

Так, паляшуцкая ў яго душа.
Лёс паляшуцкі з паляшуцкай доляй.
І носіць бараду ён Талаша,
Ды ўласнага і крою, і гадоўлі.

Павінен ён, шчырун і клапатун,
Як раяць Паліканіна з Рублеўскай,
Каб касмылі не збіліся ў каўтун,
Яе вымочваць у расе палескай.

Калі паэт, знарок ці незнарок,
Пагладзіць ці кране яе украдкай,
Трашчыць у барадзе электраток, —
Дзеля натхнення робіць падзарадку.

**Андрэю Федарэнку**

А што яму цяпер не па плячы?!
Ні перад кім не трэба гнуцца вудаю.
Ён свой у выдавецтвах і, лічы,
Даўно ўжо не чужы на кінастудыі.

Шаблон убок адкінуў і тандэнт.
З ракі акулу цягне — не карасіка.
Каторы год бясспрэчны прэтэндэнт
На званне не каго-небудзь, а класіка.

**Мар'яну Дуксу**

У Сулах знаюць, калі толькі Дукса
Над вершамі бярэцца шчыраваць,
Спрэс у вагонах каля Гродна буксы.
І ўтулкі у вазах ажно гараць.

Хоць піша часам і пра гай кантужаны,
І пра валун таўшчэзны, нібы кадзь,
Радкі яго, як зыркія жамчужыны,
На ўвесь Парнас і ззяюць, і гараць.

**Ірыне Шаўляковай**

А словам мудрым Шаўлякова
Сагне і рэйку на падкову,
Пегаса ўмомант падкуе.
І ён ляціць не выпадкова
Туды, дзе шлях ідзе пад колы
І шпак гняздо сабе снуе.

**Алесю Наварычу**

Зайздроснікі чаго ні гарадзілі,
Лічылі ўсе амаль за дзівака,
Калі ўскочыў, нібы ў казцы дзіўнай,
Ён спрытна на "Літоўскага ваўка".

А той дугой адразу выгнуў шыю,
З хваста дзядоўнік грэбліва атрос.
І нацянькі ў захмарныя вышыні
Празаіка адным рыўком узнёс.

**Казіміру Камейшу**

Яму на свята, хлапчуку,
Калі ішоў сваёй калейкай,
Няспешна муза у руку
Пяро уклала і жалейку.

Ідзе і бачыць — долу плеш,
А там вунь — заяц-баязліўца.
Прысядзе, з ім напіша верш
Ды і павесіць на галінцы.

**Навуму Гальпяровічу**

"Капай глыбей і падалей кідай!" —
Памоўку знае ён не для прыліку.
І зробіць так, каб трапіць у Кітай
І дакрануцца да сцяны Вялікай.

Спраў у яго — каля гары гара.
Ды ўрэшце ў кабінеце з позай мэтра
Верш пра кітайцаў выдасць на-гара,
А не пустой пароды кубаметры.



**Міколу Чарняўскаму**

Дамогся тых вяршынь, якіх хацеў.
І фору рыфмаплёту дасць любому.
Ён дока стаў у вершах для дзяцей
І больш чым хват у лірыцы любоўнай!

За патлы часам жонка тузане:
— А можа, прысвячаеш іх не мне?

**Змітраку Марозаву**

Верш песцячы і новячы,
Ён выйшаў з-пад бяроз,
Дзе бацька Багдановіча
Радзіўся дый узрос.

І, каб застацца ў памяці
Не толькі землякоў,
Санетаў на пергаменце
Ён звіў вянок вянкоў.

І Дантэ калядоўнікам
Ад шчасця анямеў, —
Такога паслядоўніка
Упершыню займеў!

**Рагнеду Малахоўскаму**

Нарцыс сабой і цвёрды халасцяк.
Душой паэт ён да апошняй коскі!
Як піша вершы? Родныя, ды так —
Як і пісаць павінен Малахоўскі!

Нібы шахцёр,
што спусціцца ў забой,
Шчыруе ў паэтычным сутарэнні:
Адзін радок —
для здрадніцы любой,
А два — для любай,
што яшчэ сустрэне.

Павел САКОВІЧ

# Калядныя фэнтэзі-сны



Я на Каляды бачыў сны.
З жаданняў навагодніх, мараў
Нібы сатканыя яны —
Тут прыгадаць дарэчы пару.

* * *

Вось у кнігарнях нарасхват
Ідуць усе выданні "ЛіМа".
У транспарце чытаюць шмат.
Сапраўдны кніжны бум з экстрымам!

І гэты сон не так сабе:
Усе, што ў "холдынгу", выданні
Пераўзышлі тыраж "СБ",
І з той нагоды — лікаванне!

* * *

Паэт да касы кейс нясе,
Высока галаву трымае.
Здароўкаюцца з ім усе:
Ён ганарар прыстойны мае!

Не кніжкамі сваімі, не, —
Купюрай хрусткай, як капуста.
Сябры ўсе рады навіне:
Паэта абступілі густа…

* * *

Дракон вось "Полымем" дыхнуў —
Хацеў паддаць камусьці жару,
Ды "Нёман" хвалі ўскалыхнуў,
Каб гартавалася "ахвяра"!

Калі ж надумае дракон
Даніну ўзяць —
дзяўчат чароўных,
На наш адпор нарвецца ён:
Мы не дадзім іх у палон —
Як радавых,
так і галоўных!

* * *

Каб утрымацца на плыву,
Мы ў святы нават працавалі:
Ля Міністэрства, РВУ
Па шмат разоў калядавалі.

І, можа, нездарма якраз!
А што, калі пасля вакацый
Падкінуць зверху ў самы раз
У штат адзінак і — датацый?!



*Кніга — лепшы падарунак: і акумулятары не патрэбныя, і камп'ютарныя вірусы не залезуць.*

*Малюнкі Аляксандра Каршакевіча*

*Прэзентацыя*



Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,
фота Кастуся Дробава

# «Хрэсьбіны» энцыклапедыі

**У кнігарні "Прэзентацыя" была прадстаўлена энцыклапедыя "Максім Багдановіч", што выйшла ў выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі".**

Сустрэча сабрала пад адным дахам шчырых прыхільнікаў творчасці паэта, даследчыкаў, якія ўдзельнічалі ў стварэнні энцыклапедыі, а таксама вучняў адной з мінскіх школ. Выступоўцы ахарактарызавалі энцыклапедыю з розных бакоў.

Доктар філалагічных навук прафесар БДУ Вячаслаў Рагойша быў членам рэдакцыйнай калегіі энцыклапедыі і выступаў у якасці рэцэнзента. Ён дасціпна параўнаў прэзентацыю з "хрэсьбінамі". Маўляў, дзіця (энцыклапедыя) нарадзілася (выйшла з друкарні), значыцца, трэба яго хрысціць. На думку В. Рагойшы, унікальнасць выдання бачыцца ўжо ў тым, што яно проста з'явілася на свет. Бо яшчэ летам гэтага года ў энцыклапедыі не хапала 600 артыкулаў, а пра ілюстрацыі толькі ішла размова. Даследчык падкрэсліў, што кожная энцыклапедыя з'яўляецца дзіцём сваёй эпохі. З часам, магчыма, захочацца нешта змяніць. Але ў дадзены момант выданне адлюстроўвае апошнія дасягненні багдановічазнаўства.

Літаратуразнаўца і паэт Юрась Пацюпа ў сваім выступленні зрабіў акцэнт на сакрэце паэтычнага таленту М. Багдановіча. На яго думку, у беларускай літаратуры гэта найбольш "поўны" паэт. З аднаго боку, яго вершы дакладныя, класічныя, вывераныя, маюць прыгожую форму, у іх праяўляецца рацыяналізм, што дазваляе адносіць іх да неакласічнай традыцыі. З другога боку, мы бачым разняволенасць, карціну, дзе выпісаны ўсе дэталі, што з'яўляецца прыкметай імпрэсіянізму. Таму атрымліваецца, што Багдановіч з'яўляецца як вельмі эмацыйным творцам, так і паэтам-мысляром, чые вершы літаральна расцягнуты на цытаты. Таксама Юрась Пацюпа ўзгадаў сваю маладосць і ролю Максіма ў ёй. Паводле слоў аратара, у другой палове 1980-х гадоў музей Багдановіча ў Гродне з'яўляўся адным з цэнтраў грамадскага жыцця. Ён і яго сябры праводзілі ў ім шмат часу, ледзь не начавалі. А дзякуючы дабрыні Дануты Бічэль, тагачаснага дырэктара ўстановы, нават маглі браць дадому асобныя музейныя выданні.

Алеся Коршак, вядучы навуковы рэдактар "БелЭн", адзначыла, што цэлы год супрацоўнікі ўстановы жылі асобай Максіма Багдановіча, нават калі ішлі дадому з працы, у думках "круціліся" радкі з паэтавых твораў. А. Коршак ахарактарызавала для прысутных тры партрэты Багдановіча. На жаль, падчас прэзентацыі адсутнічалі тэхнічныя магчымасці для паказу твораў, таму частка не зусім абазнаных наведвальнікаў мусіла толькі ўяўляць іх.

Адзначым, што ў прэзентацыі таксама ўзялі ўдзел галоўны рэдактар выдавецтва Ларыса Языковіч, дырэктар Літаратурнага музея М. Багдановіча Таццяна Шэляговіч і пісьменніца Таіса Супрановіч.

Як вядома, у наступным годзе грамадскасць будзе ўрачыста адзначаць 130-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Таму ў сваім выступленні Вячаслаў Рагойша выказаў ідэю перавыдаць энцыклапедыю "Янка Купала". На думку даследчыка, большую частку матэрыялаў у ёй (каля 90 працэнтаў) можна пакінуць нязменнымі. А перапісаць толькі 10 працэнтаў у адпаведнасці з новымі даследаваннямі ў галіне купалазнаўства. Будзем спадзявацца, што станоўчае вырашэнне гэтага пытання дапаможа нам зноў сустрэцца ў кнігарні "Прэзентацыя".

*Форум*

# Каб дзеці зацікавіліся

**Зазвычай сезон выставак у Мінску распачынаецца ў лютым, яго стартам лічыцца Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш. Але гэтым разам традыцыя будзе парушаная, бо з 27 снежня па 5 студзеня ў Палацы мастацтваў адбудзецца першая ў краіне спецыялізаваная выстаўка-кірмаш дзіцячай кнігі "Книжки в штанишках". Форум пройдзе пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі краіны, Мінгарвыканкама і па блаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта.**

Марына ВЕСЯЛУХА

Асноўнымі задачамі выстаўкі арганізатары бачаць прыцягненне ўвагі грамадскасці да праблемы дзіцячага чытання, павышэнне інтарэсу дзяцей і бацькоў да кніг. І яны не адзінокія ў сваіх памкненнях. Так, у выстаўцы возьмуць удзел беларускія і расійскія выдавецтвы, што працуюць з дзіцячай кнігай, перыядычныя выданні для дзяцей і кнігагандлёвыя арганізацыі. Гэта выдавецтвы "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", "Народная асвета", "Пачатковая школа", Выдавецтва Беларускага Экзархата, газета "Зорька", часопісы "Вясёлка", "Кважды Ква", "Качели" і многія-многія іншыя.

Аляксандр Савін, старшыня аргкамітэта выстаўкі, лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне", падчас прэс-канферэнцыі, што прайшла напярэдадні адкрыцця форуму, зазначыў:

— Сёння мы ў многіх сем'ях бачым дзяцей, якія, капіруючы бацькоў, карыстаюцца Інтэрнэтам і мабільнымі тэлефонамі. Але калі паразважаць над тым, што дзеці ўспрымаюць інфармацыю праз малюнак, зрокавы вобраз, узнікае пытанне: як жа будзе фарміравацца іх душа? З гэтага пытання і нарадзіўся праект выстаўкі "Книжки в штанишках" — прыватнай ініцыятывы кампаніі "Экспафорум" і пісьменніка Андрэя Смятаніна. Думаецца, што кожны з бацькоў павінен быць для свайго малога казачнікам, каб данесці ў займальнай форме і праз прыгоды казачных герояў разуменне таго, што такое добра і кепска.

У праграме выстаўкі — каля чатырох дзясяткаў мерапрыемстваў: літаратурных чытанак, маляванак, сустрэч з аўтарамі, майстар-класаў. На прапанову паўдзельнічаць у выстаўцы адгукнуліся работнікі цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк г. Мінска, знакамітыя пісьменнікі, такія, як Раіса Баравікова, Уладзімір Мазго, Уладзімір Ліпскі, Яўгенія Пастэрнак, Андрэй Жвалеўскі, Андрэй Смятанін, вядомы герой Маляваныч — акцёр Аляксандр Ждановіч — і многія іншыя. Арганізатары стараліся разнастайна прадставіць тэму. Так, у межах выстаўкі будзе працаваць мастацкая галерэя, пройдуць пастаноўкі двух тэатраў ("Батлейка" і "Вобраз"), а па запрашэнні газеты "Зорька" на форум завітае Дзед Мароз, з якім маленькія наведвальнікі змогуць фатаграфавацца.

На выстаўцы будуць прадстаўлены не толькі ўжо знаёмыя кнігі і праекты, але і новыя ініцыятывы. Так, загадчык аддзела дзіцячай літаратуры выдавецтва "БелЭн" Аляксандр Моўчан распавёў пра новыя серыі кніг выдавецтва. Гэта "Маленькі прафесар" (пачынаючы са студзеня кнігі серыі будуць выходзіць штотыдзень), а таксама акцыю "Ёлка ў кніжным", што праходзіць у кнігарні "Прэзентацыя". "Ёлка ў кніжным" — гэта цырымонія навагодняга ўрачыстага далучэння дзяцей да ліку чытальнікаў. "Ініцыяцыя" ўключае таксама і атрыманне спецыяльнага чытацкага дзённіка, дзе змешчаны спісы літаратуры для абавязковага прачытання, а таксама ёсць месца для занатовак ідэй наконт прачытаных кніг.

Падчас форуму будуць арганізаваны займальныя акцыі для дзяцей. Так, часопіс "Вясёлка" стаўся ініцыятарам гульні "Пачытай і перадай другому": кнігамі можна будзе мяняцца як на час, так і назаўжды. Пройдзе акцыя збору кніг (тых, што дома ўжо не чытаюцца) для дзіцячай бібліятэкі № 6 г. Мінска, якая носіць імя Васіля Віткі, а таксама для дзіцячага дома Фрунзенскага раёна сталіцы.

Не забыліся арганізатары і на дзелавую праграму для бацькоў і спецыялістаў. Так, супрацоўнікі бібліятэк падзеляцца вопытам прыцягнення новага пакалення чытальнікаў да кнігі на тэматычнай сустрэчы "Чытаючыя дзеці — чытаючая нацыя". Бацькі змогуць наведаць факультатыў "Чытайце дзецям кніжкі, а не нататкі".

У цэлым, праграма выстаўкі абяцае шмат як для дзяцей, так і для бацькоў. Прыходзьце, не пашкадуеце!

*У падтрымку чытання*

**Антаніна Карпілава, загадчык аддзела экранных мастацтваў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі:**

# Галоўны настаўнік — літаратура

Вольга ПАЛОМЦАВА



— Мая маці выкладала рускую мову і літаратуру. Усё маё дзяцінства, з шасці гадоў, прайшло ў бібліятэках. Галоўным настаўнікам лічу рускую літаратуру. Памятаю, як я, маленькая, старанна мыла рукі перад чытаннем кніг. Сярод любімых былі, бясспрэчна, казкі, таму значна пазней казачная плынь дала моцную падставу для вывучэння сусветнай міфалогіі і культурных архетыпаў. Самым, бадай, моцным уражаннем юнацтва было яскравае слова М. Лермантава, якое зачароўвала сваёй магічнасцю і касмічнасцю. Яго Пячорын быў для мяне амаль ідэалам мужчыны. Толькі праз шмат гадоў, пасля паездак у Пяцігорск, на Машук, прыйшло адчуванне дыстанцыравання ад гэтага сябелюбства і ганарлівасці. І тады, напэўна, як у многіх, прыйшоў час А. Пушкіна, патрэба ў гарманічнасці яго светаадчування. Чытанне раманаў Ф. Дастаеўскага ператваралася ў хваробу, іх амаль фізіялагічны ўплыў працягваўся доўгі час як цяжкі палон. І побач з тым — празрыстая і напружаная проза І. Буніна, якая адкрыла новы свет небяспечных пачуццяў. Менавіта руская літаратура і цяпер застаецца моцным асабістым падмуркам для адчування чалавечай і прафесійнай годнасці. Яна навучыла чытанню як сатворчасці з аўтарам, разумення тэксту ў розных сэнсавых вымярэннях. Час ад часу бяру з паліцы і кнігу М. Мантэня "Вопыты", скарбніцу жыццёвай мудрасці і тонкіх назіранняў над таямніцамі чалавечай душы. Не магу не адзначыць і спецыяльную літаратуру, якая напісана добрай літаратурнай мовай. Гэта творы Аляксея Лосева, Сяргея Аверынцава, Міхаіла Бахціна, Дзмітрыя Ліхачова, Юрыя Лотмана, якія вызначылі асноўныя вектары навуковага пазнання.

Мяне заўсёды вабіла так званая "жаночая" літаратура. Творы Ірыны Грэкавай, Людмілы Петрушэўскай, Дзіны Рубінай такія розныя, але аб'яднаныя асаблівай шчырасцю інтанацыі, якую я заўсёды адчувала як музычную. Таму сярод апошніх кніг вылучу раман "Зялёны шацёр" Людмілы Уліцкай, дзе ёсць псіхалагічныя назіранні над пакаленнем нашых бацькоў-шасцідзесятнікаў. Самае апошняе сярод прачытанага — зборнік вершаў "Гарадская трава" беларускай паэткі Вольгі Норынай, дзе кранае шчырая споведзь ранімай душы і яркая метафарычнасць мовы.

**Музыка і майстар інструментаў Юрась Панкевіч вядомы ў колах аматараў старадаўняй музыкі як кіраўнік гурта Testamentum Terrae. Але сёння мы прадстаўляем Юрася ў іншым, даволі нечаканым амплуа. У ролі казачніка. Мы знаёмім чытачоў з першай часткай яго казкі "Млын Гудара", але каб зняць магчымыя непаразуменні, я задала аўтару некалькі пытанняў.**

**— Юрась, чаму ты раптам вырашыў напісаць казку?**

**— Не ведаю, можа таму, што гэта тая літаратура, якую я больш за ўсё люблю! А бывае, мне падаецца, я бачу сапраўды дзівосныя рэчы навокал, але лянота не дае распавесці пра іх іншым. І гэта першая казка, але не апошняя.**

**— Мясціны, дзе адбываюцца падзеі, рэальныя ці прыдуманыя?**

**— Гэта рэальныя мясціны ў шмат каму вядомай вёсцы Бянюны. Сядзіба Карчэўскіх, млын, стаў і парк. Мне вельмі хацелася гэтыя мясціны зрабіць казачнымі, каб самому жыць у казцы, бо ў Бянюнах знаходзіцца мой дом.**

**— Набліжаюцца Каляды. Твае пажаданні чытачам?**

**— Не забывайцеся на свае карані і любіце Бога ўсім сэрцам. І тады ў вашым жыцці цуды будуць не толькі на Калядах.**


Фота Джона Кунстатэра

# Млын Гудара

Юрась ПАНКЕВІЧ,
малюнкі Надзеі Працько

## Знаёмства з млынаром

Млын, які стаяў сярод старых таполяў і маладых дрэў, ужо даўно не змагаўся за сваё жыццё. Некалькі дрэў прараслі ўжо знутры будынка, дах даўно знесла часам, і дажджы, якія ў нашым краі вельмі частыя госці, давалі ім моц. Але губляў сваё жыццё стары млын: сцены абвальваліся, падлога зарастала травою, і хоць дыван са свежай зеляніны выглядаў вельмі рамантычна, ніхто не звяртаў на гэта ўвагі. Мінакі, што праходзілі па старой таполевай алеі, ніколі не лічылі вартым губляць час на сузіранне млына. Ішлі месяцы, плыў год за годам... Узімку яго замятала снегам, увесну падцякала вада. Дрэвы змянялі вопратку з летняй на зімовую, наваколле прыгажэла ад снегу, узгоркі пакрываліся кветкамі, толькі стары млын паміраў. Я б таксама ніколі не звярнуў на яго ўвагі і так жа, як і вы, мінаў бы яго дзень за днём. Калі б не адзін выпадак…

Жыў там млынар, стары, як і сам млын, з доўгай барадою, прыгожымі мудрымі вачамі, але вельмі маленькага росту. Ён не быў гномам (гэтых я адразу б пазнаў і не пераблытаў). Ён проста быў надта стары і надта маленькі. Дакладней было б назваць яго душою і сэрцам млына, але калі я пераходзіў на гэтую кніжную рамантыку, Гудар (а так звалі яго) надта злаваўся. Не, ён быў добры, але не лічыў сябе душою і сэрцам. Хутчэй называў сябе жыхаром гэтага вялізнага замка, які, каб жыць тут, павінен даглядаць будынак. Ужо тады я зразумеў, што менавіта дзякуючы высілкам гэтага маленькага, але моцнага старога млын жывы. Ён стаіць насуперак часу і волі тых, хто яго вырашыў не заўважаць, ён сведчыць пра дні, калі млын даваў пачатак жыццю вялікага краю. Менавіта з яго сцен мужныя волаты-млынары выносілі мяхі з мукою.

Калі вы будзеце праходзіць паўз стары млын і сустрэнеце Гудара, не нагадвайце яму, ён усё памятае, і ўспамінамі вы толькі зробіце яму балюча.

Што ж здарылася са мною, я і сам не зразумеў. Як заўсёды, мінаў млын і здалёк убачыў дзеда. Постаць яго не падалася мне незвычайнай. Я падышоў, бо ведаў, што ў гэтым краі лічыцца вельмі ветлівым вітацца нават з незнаёмымі. Робячы крокі насустрач, я пачынаў разумець, што дзед гэты незвычайны, было ў ім штосьці, што цягнула да яго, і, нягледзячы на незвычайнасць абставін і невядомасць (дарослыя заўсёды гэтага баяцца), яго твар вымушаў мяне ісці і не баяцца. Калі я пераступіў лужыну, а пасля пералез паўразрушаную сцяну, здарылася тое, што бывае толькі ў казках. Ну, так мне здавалася. Пасля дзед распавёў, што казкі яму не вядомыя і ён чуў пра іх толькі ад тых, хто мінаў млын. Ён патлумачыў, што казкамі дарослыя лайдакі, якія хочуць усё растлумачыць і раскласці па паліцах, называюць звычайныя прыгоды. Яны баяцца невядомага і незвычайнага, таму прасцей усё назваць казкай, якая толькі для дзяцей, а калі гэта для дзяцей, то даросламу няма чаго баяцца. А прыгоды — заўсёды невядомае і незвычайнае, на тое яны і прыгоды.

Гудар пасадзіў мяне за стол, на якім стаяла ўжо два куфлі мёду, нібыта стары чакаў менавіта мяне.

— Нарэшце ты тут. Я чакаў цябе.

— Мяне?

— Мне, старому, цяжка даглядаць млын. Мне патрэбны вучань і нашчадак.

Было вельмі прыемна, што добры і мудры стары абраў мяне, але ж я ўжо надта дарослы, каб вучыцца зноў, асабліва такой прафесіі: даглядаць стары млын. І я адказаў тое, за што было сорамна яшчэ шмат часу:

— Дзякуй, стары Гудар, але я надта дарослы для таго, каб займацца доглядам гэтай развалюхі.

Дзед пасміхнуўся добразычліва, але вока прымружыў, нібыта толькі настолькі Гудар мог дазволіць сабе злавацца, абняў мяне і сказаў:

— Ты вольны абіраць: застацца тут ці пайсці. Але ты не маеш права называць штосьці развалюхай. Бо так ты хаваеш, а не даеш жыццё.

Гудар выйшаў.

## Пачатак прыгод

Гудар нічога не сказаў, і я не ведаў, што азначаў гэты ціхі сыход у іншы пакой. Адно ведаў: ён добры чалавек і дазволіць мне дапіць мёд. Калі ўжо было амаль бачна дно куфля, дзверы адчыніліся і зайшоў стары. На маім твары з'явілася ўсмешка. Падалося, што стары ўвесь гэты час займаўся тым, што расчэсваў бараду. Яна перапляталася дзіўнымі ўзорамі. Калі ён падыйшоў бліжэй, я ўбачыў, у чым справа. Нібы на галінах ліяны, у барадзе сядзела вельмі прыгожая істота, падобная да маленькай дзяўчынкі з вялікімі блакітнымі вачыма. Валасы ў яе былі светла-шакаладнага колеру і мякка клаліся на плечы. Танюсенькія рукі, не большыя за валасок, трымаліся трошкі доўгімі, як у піяніста, пальцамі і разгойдвалі імправізаваныя арэлі. Ножкі былі прыкрытыя даволі доўгай спадніцай, сшытай з нейкай чароўнай тканіны. Дзяўчынка сціпла паглядзела на мяне, нібы збянтэжаная такой увагай. Але ж мне трэба было разгледзець яе, каб пасля распавесці іншым.

Гудар звярнуўся да мяне:

— Знаёмся, гэта Рыня. Яна апошняя з роду мірыфік, міфічных істот, якія дапамагаюць млынарам захоўваць млыны. Яны бачныя толькі тым, у чыіх жылах цячэ кроў млынара. Яны як сумленне, натхненне, як муза, што заўсёды побач. Ты бачыш яе таму, што я табе дазволіў. Мы ўдваіх апошнія, і калі млын зруйнуецца, не будзе і нас.

— Вельмі прыемна, Юрась, — пакланіўшыся, як бачыў у казачных фільмах, выпаліў я.

— Сёння яна пойдзе з табою і будзе дапамагаць на шляху. Ты павінен выратаваць млын і нас.

Усміхнуўшыся, я нагадаў дзеду, што ў мяне няма барады, а, як вядома, мірыфікі жывуць менавіта ў барадах. Дзед зірнуў на куфаль мёду, потым на мой твар і пасміхнуўся. Нешта дзіўнае, як бура, пачало разрываць мяне знутры, усе вантробы пераварочваліся, а сэрца білася як ніколі часта. На падбародздзі я пачаў адчуваць лёгкія пакалванні. Барада цягнулася ўсё ніжэй і ніжэй і, вырасшы недзе да пупа, спынілася. Я паглядзеў у вочы старому і зразумеў, што не адчуваю абуранасці ніякімі хітрыкамі. Рыня прыўзнялася на арэлях, пачала іх разгойдваць і, калі палічыла дастатковым, адпусціла ручкі… Праз якую хвіліну яна дасягнула маёй маладой барады, ухапілася за некалькі валаскоў і па звычцы зрабіла арэлі. Прысеўшы на іх, пасміхнулася, але нячутна, нібыта ўнутры сябе адчуваеш яе галасок. Дзед працягнуў мне руку, дакрануўся да маіх далоняў і перадаў маленькі шэры мяшэчак, вельмі запылены, але не брудны. Адразу можна было зразумець, што ён надта стары і вельмі доўга ляжаў у халодным памяшканні.

— Не развязвай яго ніколі, якая б спакуса ні была. Бо калі ты зробіш гэта, мяне і Рыньку больш не ўбачыш. Гэты мяшэчак трэба занесці майму нашчадку, ён з роду млынароў і жыве за морам, завуць яго Гёрд. Туды дабірацца доўга і вельмі цяжка, але я ўпэўнены, што вы пераадолееце шлях, калі будзеце разам.

Ягоныя вочы нібы пачалі блішчэць ад вады, але стары сабраўся і сказаў, падымаючы куфаль:

— Будзьма, любыя!!!

Я не вытрымаў і трошкі пусціў вады, але ўзяў прыклад з дзеда: падняў куфаль, і мы выпілі да самага дна. Пасля, правёўшы рукой па барадзе, ледзь дакрануўшыся да Рынькі, я вырашыў дапамагчы і выратаваць старога і ягоную памочніцу.

Дзед сказаў, што выйсці так, як я сюды трапіў, у мяне не атрымаецца (тады я быў трошкі вышэйшы і без барады), і паказаў на дзверы, якія вялі на вуліцу ззаду млына. Мы апошні раз паціснулі рукі, абнялі адзін аднаго, і я пайшоў.

## Шлях да мора

Якім дзіўным становіцца сусвет, калі ты кідаеш звычку глядзець на яго зверху ўніз. Простыя травінкі ці галінкі, якія мы не заўважаем, ламаючы ботамі, вырастаюць у велічэзныя дрэвы і ліяны, што і варухнуцца не збіраюцца, сустрэўшыся з табою. Іх веліч і магутнасць уражвае і палохае. Снег, які служыў для таго, каб змінаць яго ў снежкі ці адкідваць лапатаю, ператварыўся ў непраходную марозную пустэльню, да таго ж вельмі калючую, нібыта вожыкі раскіданы да самага гарызонту. Я стаяў з адкрытым ротам і не ведаў, што рабіць: ісці ў невядомую марозную пустэчу, ці вярнуцца ў знаёмы млын. Я павярнуўся і не ўбачыў нічога, апроч велізарных камянёў, убудаваных у старыя сцены. Дзверы зніклі. Ці былі яны, ці мне гэта ўсё мроіцца, можа, гэта проста жахлівы сон.

— Ой! — нехта моцна і рэзка пацягнуў мяне за волас. Я пачуў танюсенькі галасочак, які па-жаночы добра пасміхаўся. — Рынька! Дзякуй, я ўжо абрадаваўся, што гэта проста жахлівы сон. А ты зноў пераконваеш мяне ў рэальнасці таго, што здаралася.

Я памятаў, дзед казаў, што не маю шмат часу, таму не сумняваўся: трэба ісці наперад. Нічога, што там пустэча, нічога, што бачна не больш за пару крокаў за тваю бараду, халера з тымі магутнымі раслінамі, якія ў цемры былі падобныя на жывых і даволі непрыемных жывёл. Маленькае падзьмуханне ветру. Маленькае ў маім мінулым свеце, калі я быў вялікі і без барады. Тут усе стыхіі не памяншаліся, а, наадварот, павялічвалі сваю моц.

— Хадзем, Рась, — так дзіўна называла мяне Рынька. Чамусьці літара "Ю" для яе была цяжкой для вымаўлення.

— Хадзем.

І мы зрабілі першыя крокі свайго падарожжа.

Сярод шэра-белай пустэчы я ўбачыў нейкую невыразную сцежку, якая вяла ў снежную гару. Гэтая дарога падавалася не самым прыемным шляхам, але акрамя яе нічога не было, таму я вырашыў крочыць. Нам пашанцавала, мы выйшлі пад ноч, хоць арыентавацца ў цемры было цяжкавата. Мы наблізіліся да ўвахода... Першыя крокі былі надта дзіўнымі: сярод змроку, як маланкі, прабягалі знізу, зверху, аблятаючы нас з усіх бакоў, маленькія прамяні святла. Было гэта вельмі прыгожа, як калядная ілюмінацыя, якая вось-вось пачне пераліваць рознымі колерамі, даруючы нам калядны настрой. Рынька пасміхнулася, ёй гэта ўсё было знаёма, гэта быў яе свет. І толькі я падумаў пра калядныя ліхтарыкі, як па нейкім загадзе агеньчыкі пачалі бегаць усё хутчэй, нібы набіраючы моц. Іх станавілася ўсё больш і больш, а спераду на мяне плыла цэлая сцяна белага святла. Я трошкі збянтэжыўся, але мая спадарожніца пасміхнулася і сказала:

— Хадзем, няма чаго баяцца. Проста Месяц выходзіць з-за хмар і паступова ўсё больш і больш святла адлюстроўвае.

Я хацеў было сказаць, што я ўжо надта вялікі, каб палохацца, але Рынька магла з гэтым спрачацца, і я проста пайшоў наперад.

Быў вечар, і Рынька, хоць і рабіла толькі тое, што сядзела на арэлях, надта стамілася. Таму, зрабіўшы нешта падобнае да гамака, проста заснула.

Праз колькі хвілін я выйшаў з гары і зразумеў, што яна не настолькі вялікая, як падавалася раней. Адна за адной цягнуліся невялікія горачкі, знутры якіх быў працяглы шлях. Не ведаю, хто ці што зрабіла гэтыя тунелі, але мне было не сумна, як магло быць, калі ідзеш па вялікай пустэчы. Тут усё было не аднастайна: гара змянялася гарою, кожная па-свойму адлюстроўвала святло месяца, які маляваў на сцяне непаўторныя ўзоры, і пакуль я ішоў, спрабаваў знаходзіць знаёмыя мне фігуры. Кшталту таго, як паваліцца ў яснае надвор'е ўлетку на траву і выглядаць баранчыкаў, слонікаў ці яшчэ больш дзіўных істот у абрысах аблокаў. Праз колькі крокаў я паслізнуўся і ледзь не заваліўся. На нагах я ўтрымаўся, але ж Рыньку пабудзіў. Не ведаю, як, таму што, хоць маё падзенне было амаль здейсненым, я ўсё зрабіў, каб не падштурхнуць гэтае маленечкае соннае стварэнне. Рынька падняла галоўку і сказала:

— Нашыя сэрцы звязаныя, і я адчуваю тое самае, што і ты. Я спала і не адчула ніякага штуршка, але сэрца сціснулася ад жаху, таму я прачнулася.

Калі Рынька будзе адчуваць нейкія турботы і цяжкасці, яны таксама перададуцца мне. Вось чаму я так доўга ішоў па незнаёмым свеце і меў толькі адзін клопат — разглядаць на сценах абрысы жывёл. Рынька добра спала, і яе спакой перадаваўся мне.

Яна паглядзела наперад і сказала, што праз гадзінку мы ўжо будзем каля мора і там зможам распаліць вогнішча і адпачыць да ранку. Гэтая навіна дадала мне сілаў, і я, натхнёны магчымасцю адпачынку, пайшоў далей.

За паваротам я выйшаў з тунэля і ўбачыў шмат раскіданых бярвенняў. Гэта былі галінкі вялікага дрэва, паламаныя ветрам ці снегам. Дрэвы, якія раней для мяне былі не большымі, як стоўб, цяпер падаваліся веліканамі, крон якіх я нават і не бачыў. Чапляючыся мокрымі ды халоднымі рукамі за кару, я пералазіў адно бервяно за другім. Рынька спявала песні мірыфік, якія павінны натхняць падарожнікаў і дадаваць ім моцы. Наперадзе я ўбачыў даволі высокі ўзгорак. Рынька сказала, што за ім пачынаецца мора, бліжэй да яго з'яўлялася больш вады і менш снегу. Я змок, мне было надта халодна, але спевы Рынькі сагравалі знутры, ды і мне хацелася перад гэтай маленькай, але надта бадзёрай дзяўчынкай быць мужным і смелым хлопцам, хоць і з барадою, як у дзеда.

Ногі ўсё больш і больш моклі, снег скончыўся, паўсюль была ці то дрыгва, ці то зямля, якую толькі-толькі ўзаралі і шчодра палілі вадою. Рынька ўбачыла земляныя ўзгоркі, і я адчуў у сэрцы неспакой. Я запытаўся, хто такія зээмы. Менавіта іх спалохалася яна. Дзяўчынка распавяла, што яны жывуць у зямлі, але зімою ніколі не выпаўзаюць. Але вось тыя вывернутыя кавалкі зямлі — знак таго, што яны шукаюць сабе ежу. А тое, што зіма толькі-толькі ўступае ў сілу, значыць, што не ўсе зээмы заснулі.

Мы пайшлі далей, хваляванне Рынькі ўсё больш мяне непакоіла, і палохацца розных шолахаў пачаў ужо і я. Адно, што сагравала мяне, — магчымасць легчы каля цёплага вогнішча і моцна заплюшчыць вочы. Мы ішлі асцярожна, але трошкі спяшаліся да ўзгорка. Як раптам я правай нагой трохі праваліўся ва ўзараную баразну. Навокал усё было ціха. Я адчуў, што праваліўся неглыбока і, дзякуй Богу, ва ўсёй гэтай сумесі вады і зямлі дакрануўся да дна. Я пачаў было варушыцца, як знізу адчуў моцны штуршок наперад. Згубіўшы раўнавагу, плямкнуўся на пятую кропку. Ледзь падняўшы галаву, убачыў, што зямля пачала кіпець як манная каша. Там-сям нерухомыя ўзгоркі ўздымаліся то ўверх, то ўніз, паказваючы страшэнныя брудныя спіны зээм. Яны выцягваліся і рабіліся даўжэзнымі, паказвалі з-пад зямлі галовы, прынюхваліся і зноў кідаліся ў зямлю.

Я адчуў сапраўдны жах. Рынька спалохалася не менш за мяне, і нашы сэрцы, як адно, біліся ўсё часцей. Я знайшоў моцы ўзняцца і вырашыў не рухацца, магчыма, яны не маюць вачэй і таму не заўважаць нас. Адзін за адным яны паўзлі да ўзгорка, нібы збіраліся менавіта там нас сустрэць сваёй вялікай кампаніяй. Я зрабіў крок, потым другі і пабег што было моцы. Адзін зээм выкінуўся з зямлі і, ледзь не ўхапіўшы мяне за пяту, рухнуў на бярвенне, расцягнуўся на ім і, уткнуўшыся галавою ў зямлю, пачаў знікаць. Я бег і не азіраўся. Рынька, закутаўшыся ў бараду, трымала сваімі пальчыкамі кіпу валасоў і нібы спрабавала цягнуць іх наперад. Вось ужо амаль узгорак, ён надта ўтаптаны, таму па ім Зээмы не поўзалі. Мы амаль наблізіліся да яго, як раптам зямля пад нагамі пачала зноў кіпець. Я ўжо намагаўся пераскочыць гэты кавалак, але з зямлі паказалася страшэнна вялікая галава зээма. Ён адчуваў, дзе мы, і кантраляваў сваю ежу. Ён велічна вырастаў з зямлі, па ўсім целе сцякала нейкая слізь, якая хіба дапамагала ім рухацца ў зямлі. Нібы гуляючы са мной, ён рухаўся з боку ў бок. Пад той часткай цела зээма, што нагадвала галаву, нібы на шыі, вісела карона, надта брыдкая і, як частка цела, жывая. Гэта быў кароль зээм. Я так вырашыў, бо астатнія нават не змагаліся за здабычу, а зноў зніклі ў зямлі. Любы мой крок мог скончыць падарожжа, але і стаяць я не мог. Хоць было жахліва, але два крокі наперад павінны былі мяне выратаваць. Рынька схапіла мяне мацней і, не даўшы падтрымкі на скок, зварушыла мяне. Зээм адчуў рух і ўсім сваім целам пачаў падаць на нас. Гэта быў амаль канец, калі ягоная галава пачала не ўзвышацца, а як камень упала на зямлю, ледзь-ледзь не дакрануўшыся да яе, нібы хтосьці схапіў зээма за хвост. Зноў галава ўзнялася ў неба, цела зээма, гэтая тоўстая мяккая ануча, зрабіла пару кульбітаў і знікла ў пашчы вялізнай птушкі. Тая паглядзела на нас, троху скокнула наперад, расправіла крылы і паляцела.

Праз колькі хвілін мы былі ўжо на ўзгорку і ўбачылі мора. З-за гарызонту выплываў вялізны чырвоны круг. Вогнішча сагрэла мяне, і я, забыўшыся на ўсё, заснуў каля яго.



## Рыбак

Доўгае падарожжа і ўцёкі ад зээм аднялі шмат сілаў. Прачнуўся я, калі сонейка моцна ўхапілася праменнямі за абодва бакі зямлі і павісла высока над морам. Лёгкі ветрык калыхаў маю бараду, у якой весела гуляла Рынька. Яна спала не шмат часу і прачнулася, як толькі сонейка цалкам выплыла з-за гарызонту. Мне было не надта весела, але бадзёры Рынькін смех і добрыя пачуцці сэрца натхнялі і дадавалі моцы.

Я ўзняў рукі ўгору, пацягнуў косткі, моцна заплюшчыў вочы і адчуў прыемную асалоду, якая прабегла па ўсім целе.

— Трэба шукаць, чым падсілкавацца. Шлях яшчэ доўгі, і на галодны страўнік далёка не працягнем.

— Мне не трэба есці, — адказала Рынька, — я сілкуюся добрымі пачуццямі твайго сэрца і згаладнею, толькі калі ты згубіш надзею на добры сыход падарожжа. Але гэта мяне не хвалюе. Калі ты згубіш надзею, мы з Гударам знікнем з гэтага свету.

Я адчуў адказнасць за сваю спадарожніцу.

— Калі тут ёсць мора, павінны быць і рыбакі, — сказаў я. — Пойдзем берагам і ў любым выпадку напаткаем іх.

Ішлі мы не болей як гадзіну, бераг мора быў нейкі незвычайны. Паўсюль, да самай вады, ляжала доўгая трава. Яна была дзе падмёрзлая, дзе прысыпаная снегам, а дзе проста пачала гніць. Час ад часу каля нас прабягалі вялізныя мурашы. Мяне яны не чапалі, аднак заўважалася, што не надта хацелася ім аббягаць нас. Так, ідучы паціху, мы выйшлі на нейкі пляж, дзе замест пяску ці камення была адна зямля, там-сям трохі ўзараная. Мяне гэта трошкі занепакоіла, бо ўспаміны пра зээм былі надта жывыя ў памяці. Але за вялікай травою я ўбачыў маленькую хаціну і драўляны масток, які цягнуўся проста ў ваду. Гэта павінна быць прыстань, і там павінен жыць рыбак, у якога, мажліва, ёсць ежа, і мы з яго дапамогай зможам пераплыць мора на другі бок.

Падышоўшы да дзвярэй, я трошкі збянтэжыўся, як бывае, калі стаіш каля незнаёмай хаты. Дзверы заскрыпелі, і вельмі хутка я пабачыў постаць досыць дарослага, але яшчэ і не старога чалавека. З нейкай абыякавасцю ён паглядзеў на мяне і сказаў:

— А! Млынар! Заходзь, не палохайся. Ты, відаць, яшчэ малады. Я ўпершыню цябе бачу. А што з Гударам? Жывы яшчэ стары? Даўно яго не бачыў. Сядай за стол, распавядзеш. А то не заходзіць, забыўся на старога сябра.

Я ўжо хацеў было перабіць яго і сказаць, што я не млынар, а толькі дапамагаю Гудару, і то не па сваёй ахвоце. Але дараваў яму, бо думкі пра стол і прысутнасць Рынькі на арэлях у маёй барадзе супакоілі маё сэрца.

— Мяне завуць Юрась, — сказаў я.

— Ведаю. Твая мірыфіка мне ўжо паспела распавесці і пра вашыя прыгоды ўначы, і пра тое, як ты добра спаў да самага палудня.

— Так, мы ледзь уцяклі ад зээм, і падаецца мне, што птушка з'ела іх караля. Таму, можа, яны будуць спакайнейшыя.

— Ай, халера. Нішто іх не супакоіць. Дый караля яны выбіраюць штодня іншага. Для іх гэта звыкла. Зээмы не ўсе такія, ёсць і добрыя. Яны не нападаюць. Цягаюцца сабе ў зямлі туды-сюды. А па мне дык і добра — араць меней. Мяне завуць Кун. Я рыбак. Цябе буду зваць Рась. Так больш звыкла для мяне.

Пакуль мы размаўлялі, на стале з'явілася ежа. Пах разлятаўся па ўсёй хаце, і першае, куды трапляў, — да майго носа. Я высмоктваў усё, што можна было высмактаць з паху. І калі Кун прапанаваў частавацца, я павольна сеў да стала і пачаў няспешна есці.

— Як там Гудар, што ў яго новага? — запытаўся Кун.

— Жывы стары. Але я тут па яго даручэнні. Стары млын ужо пачаў развальвацца і больш як год не працягне, нават калі Гудар будзе яго даглядаць. Дрэвы растуць проста знутры, выварочваюць падлогу і ўжо знеслі дах.

— Гэта бяда, гэта вялікая бяда. Ад захаванасці гэтага млына залежыць жыццё ўсяго нашага свету.

— Так Гудар мне і казаў. Таму я і іду, каб занесці вось гэты мяшэчак за мора спадкаемцу Гудара, таксама з роду млынароў. Ён павінен уратаваць млын.

— Чым я магу табе дапамагчы? — запытаўся Кун.

— Я бачыў прыстань, а значыць, недзе павінны быць і чоўны.

— Так і ёсць. Я дапамагу табе, тым больш што не маю выбару. Я дам табе свой човен, ён самы лепшы і вытрымае любыя хвалі, а таксама дам правіянту на падарожжа. Але табе давядзецца застацца ў мяне на ноч, бо ў мяне пакуль няма вёсел, і я аддаў іх на свята Рыбакоў, якое штогод ладзяць у нашым мястэчку. Заўтра іх павінны вярнуць мне.

— Добра. Выходзіць у мора першы раз, тым больш пад вечар, было б небяспечна, — палічыў я, і Рынька не пярэчыла. Да таго ж і гаспадар быў гасцінны.

## Выхад у мора

Раніцай Кун пабудзіў нас надта рана. Так рана прачынацца я не прывык, але каб быць ветлівым, падняўся, усміхнуўся і пайшоў на вуліцу сустракаць новы дзень. Сонца я ўбачыў толькі калі разы тры працёр вочы сцюдзёнай вадою. Гэта было чароўна. Вялізны круг узняўся з-за гарызонту і, падпальваючы неба і ваду, заняў сваё ўрачыстае месца.

Часу на зборы ў нас было няшмат. Вёслы прывезлі з самага ранку, і Кун хутка падрыхтаваў човен. Паснедаўшы і падзякаваўшы дому і гаспадару, мы выйшлі ў мора.

Я сеў на вёслы і пачаў грэбці. Рынька скарысталася момантам, бо човен, які гойдаўся на хвалях, падараваў ёй дзіўны момант адпачыць. Кун стаяў на беразе, нібы каменны помнік, постаць якога натхняе на здзяйсненне вялікай справы. Адплылі мы ўжо даволі далёка, і мая доўгая барада дала знак, што надвор'е спрыяе нашаму падарожжу і час уздымаць ветразь. Бераг ужо знік, як знік і Кун на ім. Вакол нас была адна вада, магутная маса, гэта ўражвала і палохала адначасова, але наперадзе быў наш шлях. Рынька паднялася і, як малое дзіця, пачала жартаваць і пасміхацца з маіх нязграбных рухаў.

— Што ў гэтым мяшэчку, які я вязу, і чаму ён такі каштоўны? — запытаўся я.

— Не ведаю, але Гудар вельмі клапаціўся пра яго. Мяшэчак яму перадаў стары млынар і сказаў, што калі прыйдзе час, тое, што ў мяшэчку, выратуе наш свет. Больш я нічога не ведаю.

Што ж можа быць у ім такое каштоўнае? Чаму яго нельга развязваць? Спакуса была вельмі вялікая, але раскрыць мяшэчак я не насмеліўся, бо надта ўжо палюбілася мне Рынька. З ёю было проста і весела. Мае нязграбныя рухі для яе былі пацехай, а мая барада стала домам. Яна ніколі не крыўдавала і, нягледзячы на маленькі памер, я адчуваў вялікую моц яе сэрца.

Надыходзіў вечар, і мы ўжо рыхтаваліся да сну. Кун склаў добрую вячэру ў дарогу, і, паеўшы, мы леглі спаць.

Ноччу я прачнуўся ад таго, што адчуў на сваім целе кроплі вельмі халоднай вады. Расплюшчыўшы вочы, я зразумеў: набліжаецца навальніца. Хвалі адна за адной падбягалі да чоўна і, нібы кідаючыся пад яго, штурхалі ўверх.

"Шторм", — падумаў я. Гэта адзіная непрыемнасць, якую я ведаў у моры. Хвалі боўталі нас, уздымалі над вадою і зноў кідалі. Рынька вельмі спалохана трымалася за бараду, якую матляла ў розныя бакі ветрам. Я хваляваўся, мне было страшна за сваё жыццё, а таксама за ўвесь Рынькін свет, які можа знікнуць разам са мною. Раптам усё сціхла. Гэта не супакойвала, цішыня была такая мёртвая, што нават на могілках я адчуў бы сябе больш камфортна. Човен крутнула і пачало зацягваць у вір, а здалёк я ўбачыў вялізную хвалю, якая, нібы зграя галодных ваўкоў, бегла на нас.

Усё, гэта канец. Канец майго падарожжа, канец майго жыцця.

Раптам я пачуў танюсенькі галасок, які спяваў меладычную, але не сумную песню:

*Хваля за хваляй, бяда за бядою.*
*Жыццё, падарожжа бяжыць*
*за табою.*
*Ты прыпыніся,*
*адчуй подых ветру,*
*Ды зразумей — жыццё з табою.*

Астатняе я не змог пачуць, можа таму, што Рынька пачала спяваць на незнаёмай мне мове. Човен усё цягнула пад ваду, і хваля ўжо амаль накрывала нас. Човен боўтала і кідала з боку ў бок. І мне падалося, што гэта апошняя песня мірыфік, якую яны спяваюць перад смерцю.

…Човен спыніўся, яго перастала кідаць, але навокал усё шумела, як і раней. Мы падняліся над вадою, і мне падалося, што гэта апошні раз, думалася, калі зноў нас кіне ўніз, човен проста разаб'ецца аб ваду. Але раптам пад намі вырас востраў, пакрыты лузгой. Я зразумеў, што гэта вялізная рыба, якая падняла нас на спіне. Я неяк лавіў рыбу на гэтым возеры і бачыў, як з вады выскачыў вялізны карп і вельмі хутка знік пасярэдзіне. Гэта ён, той стары карп, ён здаўна тут жыве, мясцовыя ведаюць пра яго, але ніхто не змог злавіць.

Наш човен нібыта вырваўся з-пад вялізнай хвалі. І мы паляцелі.

## Другі бераг

Магутная рыба перанесла нас на другі бераг, і наступны ўзыход сонца мы сустракалі ўжо з іншага боку мора. На тым беразе быў Гудар, стары млын, Кун, дзіўны свет, а тут — толькі шлях да Гёрда, дзе і скончыцца наша падарожжа.

Бліжэй да палудня я ўжо дабраўся да дома, дзе жыў Гёрд. Мясцовыя жыхары мне вельмі добра паказалі дарогу. Я падышоў да хаты. Каля яе рос вялізны клён, а насупраць ганка, метраў за пяць, — калодзеж.

Я ўздыхнуў і правёў рукамі па барадзе. Яна амаль знікла, як знікла і Рынька разам з арэлямі... А я ўбачыў, што стаю каля сваёй хаты, і нават не заўважыў розніцы ў памерах, таму што я вырас. Я зноў такі, якім быў раней. І ўсе прыгоды былі толькі шляхам дадому. Я памацаў свае кішэні і знайшоў маленькі мяшэчак.

Гэта быў не сон… Гёрд — гэта я сам...

Я адкрыў мяшэчак і ўбачыў у ім адно зярнятка...

Усе мы з роду млынароў. Бо павінны зберагчы стары свет, каб даць жыццё новаму.

Ірына ТУЛУПАВА,
фота Кастуся Дробава

# Дабро як закон Сусвету

**Кожны творца вызначае для сябе мэты прыезду ў іншы горад і краіну досыць дакладна. Даведаўшыся, што ў Мінск завітаў Анатоль Кім — вядомы рускі пісьменнік, драматург, перакладчык (нарадзіўся ён у Казахстане, мае карэйскіх продкаў), я ветліва спыталася пра традыцыйнае: якія ж уражанні пакінула ў яго сэрцы наша краіна? Ён гэтак жа ветліва адказаў: "Я хацеў паглядзець новую Беларусь І паглядзеў". Гаворка завязалася сама сабою…**

— Калісьці даўно, яшчэ за савецкім часам, я тут быў. Пасля прыязджаў гадоў 15 — 20 таму, калі пачаўся развал. Час цяжкі і для Беларусі, і для Расіі. Гэта былі апошнія мае ўражанні. Прайшло шмат гадоў, і вось я зноў тут. У Маскве з таго, што чуў пра Беларусь, былі пераважна адыёзныя думкі. Быццам няшчасная ваша краіна ўся спакутаваная: грошай няма, людзі галодныя. Выпала магчымасць прыехаць па літаратурных справах. Я пераклаў раман-эпапею Мухтара Аўэзава "Шлях Абая", і Казахскае пасольства ў Беларусі вырашыла зладзіць прэзентацыю. Між іншым, раней, чым у Расіі.

Нас адразу прывялі ў школу, якою апякуецца пасольства. Аказваецца, сюды заязджаў і прэм'ер-міністр Казахстана, шмат наведвалася пісьменнікаў, артыстаў. У школьнікаў, сярод якіх шмат дзяцей з казахскай дыяспары, з супрацоўнікамі пасольства склаліся цудоўныя адносіны. Дзеці вывучаюць творчасць Мухтара Аўэзава, сабраны музейныя матэрыялы: фотаздымкі, кнігі. Ёсць мемарыяльная дошка. Такое ўражанне, што далёка-далёка ў Беларусі жыве казахскае духоўнае асяроддзе. Мяне гэта вельмі ўразіла і, бясспрэчна, спадабалася.

**— Беларускі паэт Мікола Мятліцкі таксама пераклаў Абая — на беларускую мову. Як вам падалося, наша нацыянальнае прачытанне Абая нечым адрозніваецца?**

— Так, мы сустракаліся з Міколам Мятліцкім, я чуў, як ён чытаў пераклады. На беларускай так хораша гучалі вершы Абая! Выключна! І я ўпершыню адчуў прыгажосць беларускай мовы ў паэзіі. Ды і калі проста размаўляюць людзі — таксама хораша. Прыемная мова, мяккая, яна выключае грубасць. І ў вершах такая мілагучнасць!.. Сэнс жа я ведаю, бо вершы Абая знаёмыя, і ў гэтым выпадку беларуская мова мне, рускаму пісьменніку, зразумелая. Прынамсі, мне падаецца, што ў вас нейкія асаблівыя адносіны да слова.

**— І ў гэтым ёсць нешта агульнае з вашай творчасцю. Чытала раман-казку "Вавёрка", апавяданне "Псы і Чараўнікі" — вы нібы па-новаму, збоку, глядзіце на рускую мову, нанова яе асэнсоўваеце, выкладаеце на старонках. І проза намнога дакладней гучыць.**

— Я вучыўся ў пісьменнікаў Мікалая Ляскова і Андрэя Платонава. Гэтую ўласцівасць прыкмеціў менавіта ў іх. Звычайныя словы, але калі яны ўжываюцца ў нейкім новым спалучэнні, зусім па-іншаму праяўляецца вобраз, сэнс фразы. Скажам, у Платонава: чалавек у гранічным адчаі зайшоў у пакой і лёг на падлогу "вачамі ўніз"…

**— …а звычайны, больш ужытковы абарот, які часцей сустракаецца, — "тварам уніз".**

— Так, альбо грудзьмі. А напішы "вачамі ўніз" — і ўжо перадаецца менавіта гранічны адчай чалавека. Значыць, ён ні на што больш глядзець не можа… Я зразумеў: у рускай мове найбагацейшыя магчымасці граматычнай будовы. У ёй няма нейкага зафіксаванага моманту, як у казахскай, карэйскай ці якой іншай, калі выказнік ставіцца на апошняе месца, а націскное слова — на першае. Гэта ўсё, асабліва ў літаратурнай мове, захоўваецца. А ў рускай — выдатная свабода.

**— Але я ўяўляю цвёрдую руку бескампраміснага рэдактара, які крэсліць слова "вочы" і ўпісвае "твар".**



— Вось гэта і дрэнна. І мяне спрабавалі правіць. Калі я яшчэ не друкаваўся, а толькі насіў у выдавецтвы рукапісы, мне сталі "дапамагаць" рэдактары. Да майго гонару, прызнаюся: я ніколі не даваў правіць. Але гэта рабіў без капрызаў, проста пераконваў, што першапачатковы варыянт будзе насамрэч лепшы. Вось, да прыкладу, у маёй першай аповесці сустракалася такое параўнанне: на беразе ракі, на пляжы, сядзела дзяўчынка ў жоўта-залацістай сукенцы. Яе ўбачыў герой аповесці, яна нагадала яму спелую грушу. Рэдактар пытаецца: "Што гэта такое?" Але гэты выраз меў працяг: яна падобная да залацістай грушы, *духмянага жніўеньскага плода*. Вось гэтую частку не заўважылі. Шмат чаго даводзілася даказваць. Пасля, калі стаў вядомы, часопісы і выдавецтвы ведалі, што са мною спрачацца не варта. Выпраўлялі толькі граматычныя памылкі. А стыль свой я адстойваў.

**— Вы назвалі сваіх літаратурных настаўнікаў, але ж ведаю: вы вучыліся завочна і ў Літаратурным інстытуце імя Максіма Горкага. А пасля ў ім выкладалі. Як жа спалучаецца ў жыцці творцы індывідуальная праца, самаадукацыя і навучанне ў школе?**

— І тады, калі вучыўся, і тады, калі выкладаў, я разумеў тое, да чаго аднойчы прыйшоў: вучыць пісаць мастацкую прозу ці драматургію — бессэнсоўна. Калі майстар захоча навучыць сваіх вучняў так, каб яны пісалі "пад яго" альбо як ён, значыць, ён іх сапсуе — раз і назаўсёды. Той вучань, які піша, як настаўнік, паўтараючы яго, нічога не дасягне. Гэта будзе загублены матэрыял. І я гэта зразумеў, калі сам яшчэ вучыўся. Але мне патрэбнае было асяроддзе, мае таварышы, якія штосьці пісалі самі. І мы чыталі творы на семінарах, абмяркоўвалі. Асяроддзе пішучых людзей — вось што патрэбна.

**— Чаму ж тады вы сталі выкладаць?**

— Мяне прасілі некалькі гадоў запар. Я такі правёў са студэнтамі адну гутарку. А пасля сказаў рэктару, што больш выкладаць не буду, і пайшоў. Раптам — тэлефонны званок: рэктар паведаміў, што студэнты зладзілі сядзячую забастоўку ў яго кабінеце, хочуць, каб я вярнуўся. Было проста немагчыма адмовіцца. Але я студэнтам шчыра сказаў: "Мне вас няма чаму вучыць, бо лічу, што ніхто не павінен вучыць іншага пісьменніка". Навучыць нельга. Таму што кожны літаратар індывідуальны. Толькі адзін можа быць Чэхаў, толькі адзін Гоголь, толькі адзін Дастаеўскі.

Мастацкая літаратура, мастацтва гэтым самым і вызначаецца: унікальнасцю, адзінкавасцю мастака. А вось агульную культуру можна спасцігнуць, знаходзячыся адно пры адным. Зносіны — гэта тое асяроддзе, у якім творца жыве паўнацэнна, у якім ён дыхае. І тады ён не загразне ў скрусе і смутку.

**— Вас Уладзімір Бандарэнка назваў пісьменнікам "затрыманага пакалення". Вы падзяляеце яго думку, сапраўды, існавала такое пакаленне творцаў?**

— Я ніколі сябе не адносіў да якіх бы там ні было груп. І гэтаксама не прызнаваў, калі мяне далучалі да якога-небудзь пакалення. Лічу, што я пісьменнік не затрыманага пакалення, а пакалення будучага (*усміхаецца. — І. Т.*). Асабліва гэта датычыць маіх апошніх раманаў — адкрыта містычных, філасофскіх. Вы ведаеце такія раманы — "Анлірыя" альбо "Збор грыбоў пад музыку Баха"? Гэта самыя сталыя, самыя свабодныя творы, дзе мая філасофія выйшла за межы матэрыялістычнай філасофіі. У іх герой расказвае пра сябе перад жыццём, пасля смерці. І, як мне падаецца, я знайшоў такую форму, пры якой вы будзеце чытаць і паверыце мне.

> *"Мастацкая літаратура, мастацтва гэтым самым і вызначаецца: унікальнасцю, адзінкавасцю мастака. А вось агульную культуру можна спасцігнуць, знаходзячыся адно пры адным. Зносіны — гэта тое асяроддзе, у якім творца жыве паўнацэнна, у якім ён дыхае. І тады ён не загразне ў скрусе і смутку.*

**— А вы самі верыце ў такую філасофію? Пісьменнік жа не можа напісаць праўдзіва, калі не прапусціў усё праз сваю душу…**

— Я жыву ўжо так. Вось, мы з вамі размаўляем у досыць матэрыяльных абставінах, у рэальным месцы. А я адначасова знаходжуся ў іншай прасторы, з вышыні якой і ацэньваю нашу гутарку. У сваім такім мегабачанні даўно жыву, пазбавіўшыся дакладнай мяжы смерці. І яна для мяне перастала быць тым самым страшным, немагчымым і жахлівым, чаго ўсе баяцца. І даўно ў сваёй эвалюцыі падышоў да гэтай мяжы, што ёсць існаваннем і бессмяротнасцю…

**— …Пры гэтым у вашай прозе прысутнічае Вечнае Дабро. Цяжка захоўваць веру ў тое, што яно яшчэ ёсць?**

— Гэта пытанне не веры. Вось, дзецям гавораць: "Добры доктар Айбаліт…." Ён робіць усім дабро. Але часта дабро дэкларуецца рытарычна, павучальна, — яно не ўспрымаецца. Дабро, пра якое я пішу, — не засвоенае праз дэкларацыі, гэта момант маёй філасофскай сталасці. Я перакананы: дабром пранізаны ўвесь Сусвет. Тое, што ў касмічнай прасторы свецяцца нябесныя целы, сузор'і, галактыкі і ўсё не адмаўляе адно аднога, не разбураецца, — гэта толькі таму, што нябесныя целы знаходзяцца паміж сабою ў суладдзі: яны рухаюцца па сваіх арбітах, не сутыкаючыся ў варожасці. Дабро — гэта закон, які дазваляе існаваць Сусвету.

**— Як жа чалавек "упісваецца" ў гэтую сістэму?**

— Ён павінен упісацца. Але чалавек знаходзіцца на шляху сваёй эвалюцыі. Пры дасягненні пэўнага ўзроўню сыдуцца ў адно яго незвычайныя магчымасці і высокае асэнсаванне, што ў яго павінна адсутнічаць злое. Калі чалавек стане ўвесь як іншыя нябесныя целы, ён будзе прасякнуты станам дабра.

**— На жаль, у нас яшчэ валадараць перакананні кшталту "думай пра чалавека самае горшае, і ты не намнога памылішся"…**

— Гэта ўсё досыць нізкі ўзровень, калі апраўдваецца горшае ў чалавеку. Чалавек павінен прайсці праз яго.

**— Вы адну са сваіх кніг падпісалі досыць знакава: "Майму нерумянаму крытыку". Як вы думаеце, якая павінна быць крытыка, каб яна дапамагала пісьменніку?**

— Крытыка патрэбна самому крытыку. Для пісьменніка крытыка — і самая зычлівая, і самая непрыязная — атрута. Станоўчая крытыка — атрута салодкая. Адмоўная — горкая атрута. Крытыка не павінна ні лаяць, ні хваліць. Яна павінна дапамагчы чытачу разабрацца ў сэнсе напісанага. Асабліва калі гэта складаны, новы выпадак. Крытык закліканы пашыраць мастацкі дыяпазон чытача, а не выбудоўваць рэйтынгі: гэты першы, гэты другі, трэці. Складаюць дзясяткі, дваццаткі, пяцёркі… Не зважаючы на тое, што крытыка патрэбна чытачу. І чым добрасумленней, глыбей і танчэй крытык, тым больш карысці ён можа прынесці. Але крытык не суддзя! І не начальнік.

*З нагоды*

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# Усе мы… з Інбелкульта

**У Інстытуце гісторыі НАН Беларусі адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя "Інстытут беларускай культуры і станаўленне навукі ў Беларусі", прысвечаная 90-годдзю стварэння Інстытута беларускай культуры.**

Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Аддзяленне гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Інстытут гісторыі НАН Беларусі і камісія НАН Беларусі па гісторыі навукі. Зрэшты, у такім сур'ёзным падыходзе да справы няма нічога выпадковага.

Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт) стаў першай беларускай навуковай арганізацыяй, якая існавала ў 1922 — 1928 гадах. Асноўным кірункам яго дзейнасці былі даследаванні ў вобласці гісторыі, археалогіі, лінгвістыкі, літаратуразнаўства і этнаграфіі. Са стварэннем у 1924 годзе зямельна-геалагічнай камісіі актывізаваліся даследаванні ў галіне глебазнаўства і геалогіі. Актыўна працавала і медыцынская секцыя Інбелкульта. Акрамя таго, на правах пастаяннай камісіі дзейнічала Цэнтральнае бюро краязнаўства. У 1929-м Інбелкульт быў рэарганізаваны ў Акадэмію навук. Таму для цяперашніх супрацоўнікаў і гасцей акадэміі зварот да праблемы, якая разглядалася на канферэнцыі, стаў вяртаннем да ўласных каранёў.

У форуме ўзялі ўдзел больш як 140 навукоўцаў з Мінска, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Новасібірска, Самары, Брэста, Магілёва, Віцебска, Гомеля. Падчас адкрыцця прагучалі прывітанні ў іх адрас ад намесніка старшыні прэзідыума НАН Беларусі Аляксандра Цыганава, старшыні савета рэгіянальнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Масквы" Сяргея Кандыбовіча, дырэктара Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі краіны Аляксандра Адамушкі і рэктара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Барыса Святлова.

Шырокае праблемнае поле канферэнцыі дазволіла ахапіць наступныя тэмы: "Інстытут беларускай культуры: станаўленне і дзейнасць", "Дзяржаўная палітыка ў сферы навукі і культуры. Арганізацыйная структура навукі і культуры", "Развіццё гуманітарных і прыродазнаўчых навук", "Фарміраванне навуковай інтэлігенцыі. Персаналіі", "Гісторыя і гістарыяграфія айчыннай культуры", "Гістарыяграфія і крыніцы па гісторыі Беларусі" і "Міжнародныя навуковыя і культурныя сувязі". Дарэчы, па матэрыялах канферэнцыі запланавана выданне зборніка, таму неўзабаве чытачы змогуць пазнаёміцца з апошнімі навуковымі даследаваннямі ў гэтым кірунку.

Падчас канферэнцыі працавала выстаўка выданняў Інбелкульта з фондаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі, а на адкрыцці прайшла прэзентацыя




кнігі "Інстытут беларускай культуры. 1922 — 1928: дакументы і матэрыялы". Завяршыў праграму "круглы стол" "Пытанні навуковага кнігавыдання і супрацоўніцтва ў вобласці навукова-даследчай працы".

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

### Інфекцыйныя захворванні

**Инфекция и аллергия в педиатрии**: сборник статей сотрудников кафедры педиатрии ФПК и ПК, кафедры педиатрии УО «ВГМУ» и сотрудников кафедры педиатрии ГУО «БелМАПО» / Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет, Государственное учреждение образования «Белорусская медицинская академия последипломного образования»; [под редакцией Новиковой Валентины Ивановны, Лысенко Ирины Михайловны, Жерносека Владимира Федоровича]. — Минск: Белпринт, 2011. — 267 с. — 110 экз. — ISBN 978-985-459-216-9.

### Хірургія. Артапедыя. Афтальмалогія

**Барнс, Д.** Улучшение зрения без очков по методу Бейтса / Джонатан Барнс; [перевел с английского П. А. Самсонов]. — 4-е изд. — Минск: Попурри, 2011. — 155 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1449-2.

**Смотрин, С. М.** Синдром диабетической стопы: пособие для студентов лечебного, медико-психологического факультетов и врачей / С. М. Смотрин, А. Г. Кузнецов; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гродненский государственный медицинский университет, Кафедра хирургических болезней № 2 с курсом урологии. — Гродно: ГрГМУ, 2011. — 48 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-496-815-5.

### Гінекалогія. Акушэрства

**Все для беременных**: справочник-навигатор; [редактор Елена Таборова]. — Минск: Туринфо, 2011. — 45 с. — 6000 экз. — ISBN 978-985-6904-29-8.

**Зайцев, С. М.** Беременность: месяц за месяцем, неделя за неделей / Сергей Зайцев. — Изд. 3-е, стереотипное. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 319 с. — 3020 экз. — ISBN 978-985-17-0341-4 (в пер.).

**Поддержка сексуального и репродуктивного здоровья людей, живущих с ВИЧ**: клинический протокол / Министерство здравоохранения Республики Беларусь. — Минск, 2011. — 72 с. — 500 экз.

**Ультразвуковая диагностика в гинекологии**: учебное пособие для слушателей системы дополнительного образования взрослых по медицинским специальностям / [О. Г. Дражина и др.]; Министерство здравоохранения Республики Беларусь [и др.]. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2011. — 199 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-471-465-3.

### Інжынерная справа. Тэхніка ў цэлым

**Петренко, С. М.** Проектный расчет объемного гидропривода вращательного движения: методическое пособие для студентов специальности 1-36 10 01 «Горные машины и оборудование» заочной формы обучения / С. М. Петренко; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский национальный технический университет. — Минск: БНТУ, 2011. — 46 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-525-636-7.

### Выпрабаванні матэрыялаў. Таваразнаўства

**Врублевский, Б. И.** Основы энергосбережения: учебно-методическое пособие для экономических специальностей: [для студентов и слушателей] / Б. И. Врублевский, С. Н. Лебедева, А. Б. Невзорова; Белкоопсоюз, Белорусский торгово-экономический университет потребительской кооперации, ЧУП «Центр научно-технических услуг «Развитие». — Гомель: ЦНТУ «Развитие», 2011. — 91 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6528-44-9.

### Агульнае машынабудаванне. Ядзерная тэхналогія. Электратэхніка

**Технология машиностроения**: сборник практических работ: в 4 ч. / Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский национальный технический университет, Кафедра «Технология машиностроения»; [составители: И. Л. Баршай и др.; под общей редакцией А. И. Медведева]. — Минск: БНТУ, 2011– — ISBN 978-985-525-595-7.

Ч. 1. — 2011. — 76 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-525-593-3.

### Тэорыя машынабудавання (машыназнаўства). Ядзерная тэхніка

**Максимович, Д. М.** Школьникам об энергии будущего / Д. М. Максимович. — Минск: Беларусь, 2011. — 68 с. — 2200 экз. — ISBN 978-985-01-0930-9 (в пер.).

### Электратэхніка

**Низковольтное оборудование**: рекомендации по применению Директивы 2006/95/ЕС / Государственный комитет по стандартизации Республики Беларусь, Научно-производственное республиканское унитарное предприятие «Белорусский государственный институт стандартизации и сертификации» (БелГИСС). — Минск: БелГИСС, 2011. — 20 с. — 20 экз.

**Теоретические основы электротехники**: учебно-методический комплекс для студентов высших учебных заведений, обучающихся по специальностям 1-74 06 05 Энергетическое обеспечение сельского хозяйства (по направлениям) и 1-53 01 01-09 Автоматизация технологических процессов и производств (сельское хозяйство): в 3 ч. / Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Белорусский государственный аграрный технический университет; [составители: А. В. Крутов, Э. Л. Кочетова, Т. Ф. Гузанова]. — Минск: БГАТУ, 2008–2011. — ISBN 978-985-519-022-7.

Ч. 3. — 2011. — 321 с. — 400 экз. — ISBN 978-985-519-401-0 (в пер.).

### Электраэнергетыка

**Приборы для контроля и регулирования энергопотребления и энергоснабжения**: [каталог продукции, 2011] / Государственный комитет по стандартизации Республики Беларусь, Научно-производственное республиканское унитарное предприятие «Белорусский государственный институт стандартизации и сертификации» (БелГИСС). — Минск: БелГИСС, 2011. — 102 с. — 20 экз.

### Электроніка. Фотаэлектроніка. Электронныя лямпы

**Зуйков, И. Е.** Электроника. Цифровая электроника: методическое пособие для студентов заочной формы обучения специальности 1-38 02 03 «Техническое обеспечение безопасности» / И. Е. Зуйков, Т. Л. Владимирова, Н. В. Кондратюк; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский национальный технический университет, Кафедра «Информационно-измерительная техника и технологии». — Минск: БНТУ, 2011. — 241 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-525-403-5.

**Методы повышения надежности микросхем на основе тестовых структур** / А. И. Белоус [и др.]; Министерство образования Республики Беларусь, Гомельский государственный университет им. Франциска Скорины. — Гомель: ГГУ, 2011. — 239 с. — 70 экз. — ISBN 978-985-439-551-7.

**Яновский, В. П.** Сборник задач и упражнений по дисциплине «Электроника и автоматизация эксперимента» / В. П. Яновский; Министерство образования Республики Беларусь, Международный государственный экологический университет им. А. Д. Сахарова, Факультет мониторинга окружающей среды, Кафедра автоматизированных систем обработки информации. — Минск: МГЭУ, 2010. — 107 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-6931-60-7.

### Электрасувязь. Тэлеграфная сувязь. Тэлефонная сувязь

**Карпушкин, Э. М.** Радиотехнические системы: учебно-методическое пособие для студентов учреждений, обеспечивающих получение высшего образования по специальностям «Радиотехника» (по направлениям) и «Радиоинформатика» / Э. М. Карпушкин; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники. — Минск: БГУИР, 2011. — 94 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-488-535-3.

**Мальцев, С. В.** Обработка сигналов и изображений средствами векторно-матричных вычислений / С. В. Мальцев, С. В. Абламейко, Р. П. Богуш. — Новополоцк: ПГУ, 2011. — 211 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-531-196-7.

**Тарченко, Н. В.** Проектирование цифровых систем и транспортных сетей телекоммуникаций: учебно-методическое пособие для студентов учреждений, обеспечивающих получение высшего образования по специальности «Многоканальные системы телекоммуникаций» / Н. В. Тарченко; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники. — Минск: БГУИР, 2011. — 57 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-488-595-7.

### Халадзільная тэхніка

**Heat pipes, heat pumps, refrigerators, power sources**: eproceedings of the VIII Minsk international seminar held in Minsk, Belarus, 12–15 September 2011 / [редколлегия: Л. Л. Васильев, А. С. Журавлев, Л. В. Драгун]. — Minsk: НМТI, 2011– — На англійскай мове.

Vol. 1. — 2011. — 415 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6456-72-8.

Vol. 2. — 2011. — 257 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6456-73-5.

Цеплавыя трубы, цеплавыя помпы, халадзільнікі, крыніцы энергіі

### Тэхналогія механаапрацоўкі ў цэлым

**Иванов, В. П.** Оборудование и оснастка промышленного предприятия: учебное пособие для студентов учреждений высшего образования по специальности «Оборудование и технологии высокоэффективных процессов обработки материалов» / В. П. Иванов, А. В. Крыленко; Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет. — Новополоцк: ПГУ, 2011. — 218 с. — 55 экз. — ISBN 978-985-531-220-9.

**Современные методы и технологии создания и обработки материалов**: VI Международная научно-техническая конференция (Минск, 14–16 сентября 2011 г.): сборник материалов: в 3 кн. / [редколлегия: С. А. Астапчик (гл. ред.) и др.]. — Минск: ФТИ НАН Беларуси, 2011. — 120 экз. — ISBN 978-985-6441-23-6.

Кн. 1: Конструкционные и функциональные материалы в современной технике, методы их получения. Материалы для микро-и наноэлектроники. — 435 с. — ISBN 978-985-6441-24-3.

Кн. 2: Высокоэнергетические технологии получения и обработки материалов. Технологии и оборудование инженерии поверхностей. — 433 с. — ISBN 978-985-6441-25-0.

Кн. 3: Технологические процессы обработки металлов давлением, получение материалов с применением технологий литья. Пленарные доклады. — 335 с. — Часть текста на английском языке. — ISBN 978-985-6441-26-7.

### Дэталі машын. Передачы (механічныя)

**Богданович, П. Н.** Трение, смазка и износ в машинах: учебник для студентов высших учебных заведений по машиностроительным специальностям / П. Н. Богданович, В. Я. Прушак, С. П. Богданович. — Минск: Тэхналогія, 2011. — 527 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-458-219-1.

**Охрана труда при эксплуатации мобильных подъемных рабочих платформ**: сборник нормативных правовых актов / [составитель: М. Е. Медведев]. — Минск: Центр охраны труда и промышленной безопасности, 2011. — 44 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6915-32-4 (ошибоч.).

**Правила устройства и безопасной эксплуатации грузоподъемных кранов**: [утверждено Министерством по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь 03.12.04]: (в ред. Постановления МЧС от 08.10.2007 № 84). — Изд. 2-е, стереотипное. — Минск: Инженерный центр «БОИМ», 2011. — 212 с. — 500 экз. (1-й з-д 200). — ISBN 978-985-6328-50-6.

### Формаўтварэнне са зняццем стружкі. Молаты і прэсы. Раздзяляльныя аперацыі без зняцця стружкі

**Скоростное горячее выдавливание стержневых изделий с плакированием торцовой части** / [И. В. Качанов и др.]. — Минск: БНТУ, 2011. — 198 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-525-711-1.

### Горная справа

**Белоруснефть** / [редактор: Бойко С. А.]. — Минск, 2011. — 43 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — Часть текста на английском языке. — 900 экз.

**Все вместе мы Беларуськалий** / [редколлегия: А. В. Махлай (председатель) и др.; составители: Н. К. Навицкая, С. Л. Ясько, Е. Н. Плешевич]. — Минск: Тэхналогія, 2011. — 207 с. — Часть текста на белорусском языке. — 3300 экз. — ISBN 978-985-458-221-4 (в пер.).

### Ваенная тэхніка. Тэхніка ваенна-марскога флоту

**Гермацкий, О. В.** Ручные гранаты: пособие: [для курсантов] / О. В. Гермацкий; Вооруженные Силы Республики Беларусь, Военная академия Республики Беларусь. — Минск: ВА РБ, 2011. — 44 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-544-024-7.

**Желудок, И. С.** Устройство и действие артиллерийских и минометных выстрелов, осветительных и сигнальных средств: защита боеприпасов от коррозии: пособие: [для курсантов] / И. С. Желудок, Н. И. Лисейчиков, С. Н. Хандошко; Вооруженные Силы Республики Беларусь, Военная академия Республики Беларусь. — Минск: ВА РБ, 2011. — 117 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-544-025-4.

**Желудок, И. С.** Устройство и действие реактивных боеприпасов: пособие: [для курсантов] / И. С. Желудок; Вооруженные Силы Республики Беларусь, Военная академия Республики Беларусь. — Минск: ВА РБ, 2011. — 179 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-544-018-6.

**Проблемные вопросы технической эксплуатации РАВ**: материалы научно-технического семинара, 12 мая 2011 г. / Вооруженые Силы Республики Беларусь, Военная академия Республики Беларусь; [редколлегия: А. Э. Кашпур и др.]. — Минск: ВА РБ, 2011. — 46 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-544-022-3.

**Халипов, С. С.** Вооружение БТР-80: пособие: [для курсантов / С. С. Халипов, Ю. И. Захилько, П. Н. Ярец]; Вооруженные Силы Республики Беларусь, Военная академия Республики Беларусь. — Минск: ВА РБ, 2011. — 77 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-544-021-6.

**Чернецов, П. А.** Огневая подготовка: 9-мм пистолет Макарова (ПМ): пособие / П. А. Чернецов, А. А. Ростовцев; Вооруженные Силы Республики Беларусь, Военная академия Республики Беларусь. — Минск: ВА РБ, 2011. — 50 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-544-030-8.

### Будаўніцтва наземных інжынерных збудаванняў. Падземнае будаўніцтва. Фундаменты

**Шуляков, Л. В.** Грунтоведение и строительные материалы: лабораторный практикум: учебное пособие для студентов высших учебных заведений по специальностям «Техническое обеспечение мелиоративных и водохозяйственных работ», «Мелиорация и водное хозяйство» / Л. В. Шуляков, В. Н. Основин, В. Н. Чубуков; под общей редакцией Л. В. Шулякова. — Минск: Экоперспектива, 2010. — 339 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-489-340-8 (в пер.).

### Дарогі. Чыгункі. Рэйкавыя дарогі. Трамвай

**Минскметропроект**: [признаный лидер в проектировании сложных подземных сооружений]. — Минск, 2011. — 14 с. — 500 экз.

**Романенко, В. В.** Проектирование технологического процесса восстановительного ремонта бесстыкового пути: учебно-методическое пособие для студентов специальности 1-37 02 05 «Строительство и эксплуатация железных дорог, путь и путевое хозяйство» дневной и заочной форм обучения / В. В. Романенко, П. В. Ковтун; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет транспорта, Кафедра «Строительство и эксплуатация дорог». — Гомель: БГУТ, 2011. — 137 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-468-900-5.

### Санітарная тэхніка. Санітарна-тэхнічныя збудаванні

**Иваненко, А. М.** Техника и технология строительно-монтажных работ: учебно-методический комплекс для студентов специальности 1-70 04 03 «Водоснабжение, водоотведение и охрана водных ресурсов»: в 2 ч. / А. М. Иваненко, А. А. Бакатович, Л. М. Парфенова; под общей редакцией А. М. Иваненко; Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет. — Новополоцк: ПГУ, 2011– — ISBN 978-985-531-230-8.

Ч. 1. — 2011. — 359 с. — 55 экз. — ISBN 978-985-531-231-5.

**Научно-технические проблемы водохозяйственного и энергетического комплекса в современных условиях Беларуси**: сборник материалов международной научно-практической конференции, 21–23 сентября 2011 г.: [в 2 ч. / редколлегия: Пойта П. С. (председатель) и др.]. — Брест: БрГТУ, 2011. — 75 экз. — ISBN 978-985-493-200-2.

Ч. 1. — 135 с. — Часть текста на английском языке. — ISBN 978-985-493-201-9.

Ч. 2. — 125 с. — ISBN 978-985-493-202-6.

### Тэхніка сродкаў транспарта. Наземныя сродкі транспарта

**Хиневич, С. М.** Мои мотоциклы / Славомир Хиневич; [фотографы: Александр Конотоп и др.]. — Минск: Мэджик, 2011. — 237 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6473-53-4 (в пер.).

### Авіяцыя і касманаўтыка

**Панасюк, М.** К созвездиям: к 70-летию со дня рождения Петра Ильича Климука / Микола Панасюк. — 3-е изд., дополненное и переработанное. — Брест: Брестская типография, 2011. — 15 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-524-091-5.

### Лясная гаспадарка. Лесаводства

**Ласута, Г. Ф.** Организация и тактика тушения лесных и торфяных пожаров: учебное пособие для курсантов и слушателей высших учебных заведений по специальностям «Предупреждение и ликвидация чрезвычайных ситуаций», «Безопасность людей, объектов и территорий в чрезвычайных ситуациях» / Г. Ф. Ласута, А. В. Врублевский, А. Д. Булва; Министерство по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь, Командно-инженерный институт. — Минск: Республиканский центр сертификации и экспертизы лицензируемых видов деятельности МЧС Республики Беларусь, 2011. — 287 с. — 35 экз. — ISBN 978-985-6956-21-1.

**Памятка «Вы собираетесь в лес...»**: рекомендации для населения по пользованию лесами на территории Ивьевского лесхоза / Министерство лесного хозяйства Республики Беларусь, Департамент по ликвидации последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС Министерства по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь; [Н. Н. Кунцевич, Н. В. Коваленко, Ж. И. Востокова]. — Минск, 2010. — 32 с. — 686 экз.

**Памятка «Вы собираетесь в лес...»**: рекомендации для населения по пользованию лесами на территории Лоевского лесхоза / Министерство лесного хозяйства Республики Беларусь, Департамент по ликвидации последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС Министерства по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь; [Н. Н. Кунцевич, Н. В. Коваленко, Ж. И. Востокова]. — Минск, 2010. — 31 с. — 500 экз.

**Памятка «Вы собираетесь в лес...»**: рекомендации для населения по пользованию лесами на территории Лунинецкого лесхоза / Министерство лесного хозяйства Республики Беларусь, Департамент по ликвидации последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС Министерства по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь; [Н. Н. Кунцевич, Н. В. Коваленко, Ж. И. Востокова]. — Минск, 2010. — 31 с. — 686 экз.

**Памятка «Вы собираетесь в лес...»**: рекомендации для населения по пользованию лесами на территории Милошевичского лесхоза / Министерство лесного хозяйства Республики Беларусь, Департамент по ликвидации последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС Министерства по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь; [Н. Н. Кунцевич, Н. В. Коваленко, Ж. И. Востокова]. — Минск, 2010. — 29 с. — 510 экз.

**Памятка «Вы собираетесь в лес...»**: рекомендации для населения по пользованию лесами на территории Новогрудского лесхоза / Министерство лесного хозяйства Республики Беларусь, Департамент по ликвидации последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС Министерства по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь; [Н. Н. Кунцевич, Н. В. Коваленко, Ж. И. Востокова]. — Минск, 2010. — 36 с. — 686 экз.

### Арганізацыя і кіраванне сельскагаспадарчай вытворчасцю

**Дорофеюк, А. Т.** Охрана труда в сельском хозяйстве: практическое пособие: [для учащихся учреждений среднего специального образования] / А. Т. Дорофеюк; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Учебно-методический центр Минсельхозпрода. — Минск: УМЦ Минсельхозпрода, 2011. — 182 с. — 130 экз. — ISBN 978-985-6816-97-3.

**Зеленовский, А. А.** Организация производства на сельскохозяйственных предприятиях: пособие: [для студентов и слушателей] / А. А. Зеленовский, Я. М. Шупилов; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Белорусский государственный аграрный технический университет. — Минск: БГАТУ, 2011. — 342 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-519-394-5.

**Микулич, А. В.** Механизм мотивации труда в сельском хозяйстве в новых условиях: теория, методология, практика / А. В. Микулич. — Минск: Институт системных исследований в АПК НАН Беларуси, 2011. — 273 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6925-84-2.

**Радченко, Г. Е.** Автоматизация сельскохозяйственной техники / Г. Е. Радченко. — Минск: ИВЦ Минфина, 2011. — 495 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6993-43-8 (в пер.).

**С времен тех дальних** / ОАО «Шени-агропродукт»; [автор идеи, концепции и текста П. Н. Тишук; фото П. Н. Тишук]. — Брест: Полиграфика, 2011. — 35 с. — 360 экз. — ISBN 978-985-6970-26-2.

### Сельскагаспадарчыя машыны і прылады

**Комплекс кормоуборочный высокопроизводительный КВК-800 «Палессе FS80-5»**: пособие для учащихся учреждений среднего специального и профессионально-технического образования / [А. В. Клочков и др.]. — Минск: ИВЦ Минфина, 2011. — 173 с. — 750 экз. — ISBN 978-985-6993-42-1.

**Мисун, Л. В.** Организация безопасной эксплуатации технических средств защиты растений в промышленном производстве клюквы / Л. В. Мисун, А. А. Зеленовский, В. Л. Мисун; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Белорусский государственный аграрный технический университет. — Минск: БГАТУ, 2011. — 122 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-519-418-8.

**Попов, В. Б.** Введение в инженерное образование: курс лекций по одноименной дисциплине для студентов специальности 1-36 12 01 «Проектирование и производство сельскохозяйственной техники» дневной формы обучения / В. Б. Попов; Министерство образования Республики Беларусь, Гомельский государственный технический университет им. П. О. Сухого, Кафедра «Сельскохозяйственные машины». — Гомель: ГГТУ, 2011. — 89 с. — 40 экз. — ISBN 978-985-535-004-1.

**Шило, И. Н.** Современное оборудование и машины для послеуборочной обработки зерна: справочник / И. Н. Шило, Е. И. Михайловский; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Белорусский государственный аграрный технический университет. — Минск: БГАТУ, 2011. — 505 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-519-397-6.

### Раслінаводства ў цэлым. Асобныя культуры

**Дроздов, П. А.** Методические рекомендации по экономической оценке технологии производства товарной продукции растениеводства / [П. А. Дроздов, В. А. Матрунчик]; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Белорусский государственный аграрный технический университет. — Минск: БГАТУ, 2011. — 63 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-519-420-1.

### Паляводства

**Кубарев, П. И.** Селекционная концепция академика П. П. Лукьяненко / [Кубарев Петр Иванович, Петрова Надежда Николаевна]; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Главное управление образования, науки и кадров, Белорусская государственная сельскохозяйственная академия, Кафедра селекции и генетики. — Минск: Экоперспектива, 2010. — 14 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-469-335-5.





# Каляды: ад старажытнасці да нашых дзён

**Для аднаго Каляды — гэта, найперш, калядная зорка, каза ды калядоўшчыкі. Для другога — урачыстае і святочнае набажэнства ў храме, якое доўжыцца з вечара да раніцы. Для трэцяга — батлейка ці калядная містэрыя. Для чацвёртага — куцця пасля першай зоркі на небе, варажба, шматлікія забавы, гульні. Для пятага — дзень, калі Святы Мікола прыходзіць, каб узнагародзіць паслухмяных дзетак. Для шостага — вольны ад працоўных турбот дзень, калі можна сустрэцца з роднымі і блізкімі ды прыемна правесці час…**

**Алесь СУША,**
**фота аўтара**

Здавалася б, не да кніг у святы. Але ж гісторыя сведчыць пра адваротнае. Кніга як феномен культуры ўніверсальнага характару аказваецца звязанай з усімі сферамі чалавечага жыцця. Ад самага свайго ўзнікнення кніга ў Беларусі існавала ў непарыўнай сувязі з народнымі традыцыямі.

Датычыць гэта і аднаго з найважнейшых свят каляндарнага цыкла беларусаў — Каляд. Прычым гэта свята паўстае ў дзвюх сваіх іпастасях — як хрысціянскае свята Божага Нараджэння і як паганскае свята ў гонар зімовага сонцавароту.

Хрысціянскі аспект свята знайшоў адлюстраванне ўжо ў першых беларускіх выданнях Францішка Скарыны. Так, у склад "Малой падарожнай кніжкі", выдадзенай беларускім першадрукаром у Вільні каля 1522 года, былі ўключаны два акафісты і два каноны Багародзіцы і Ісусу Хрысту, дзе ўслаўлялася Божае Нараджэнне як найважнейшая падзея біблейскай гісторыі.

Пачатае Скарынам было падхоплена шматлікімі пераемнікамі. Божае Нараджэнне як цэнтральная падзея хрысціянскага календара стала адной з найважнейшых тэм у беларускім кнігадрукаванні. Ужо ў "Вучыцельным Евангеллі" Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца (Заблудаў, 1569) былі змешчаны словы і павучанні, якія агучваліся напярэдадні Каляд, на само свята і пасля яго завяршэння. Тое ж можна знайсці і ў пазнейшых выданнях "Вучыцельнага Евангелля", падрыхтаваных Васілём Гарабурдой (Вільня, каля 1580), манахамі Віленскага Свята-Духаўскага манастыра (Еўе, 1616), Кірылам Транквіліёнам Стаўравецкім (Магілёў, 1697) і інш.

Тэма з'яўлення на свет Ісуса Хрыста заняла пачэснае месца і ў іншых выданнях, прызначаных для правядзення набажэнства і для хатняга чытання. Прычым друкаваліся кнігі як пры праваслаўных, уніяцкіх і каталіцкіх манастырах, так і прыватнымі друкарамі. Напрыклад, гэту тэму мы знаходзім на старонках "Трыфалагіёна" (праваслаўны Куцеінскі манастыр, 1647), "Мінеі агульнай" (уніяцкі Супрасльскі манастыр, 1789), "Разарыума" (каталіцкая Віленская езуіцкая акадэмія, каля 1677), а таксама "Часаслова" (віленская друкарня Лявона Мамоніча, 1617) і "Неба новага" Іянікія Галятоўскага (магілёўская друкарня Максіма Вашчанкі, 1699). Само свята Божага Нараджэння нібы нагадвала жыхарам шматканфесійнай Беларусі, што ўсе яны з аднаго роду, што ўсе ўзгадаваны на адных каштоўнасцях.

Калядная тэматыка знайшла сваё адлюстраванне таксама і ў шматлікіх рукапісных і друкаваных песенных зборніках. У якасці прыкладу можна згадаць "Ірмалоі", выдадзеныя ў Еўі (1642) і Магілёве (1700 і 1747), альбо шматлікія рукапісныя Ірмалоі — праваслаўныя, уніяцкія, каталіцкія і стараверскія.

Відавочная і вялікая жанравая разнастайнасць рэлігійных твораў, прысвечаных галоўнаму зімняму святу хрысціянскага календара: малітвы, словы, павучанні, акафісты, каноны, кандакі, службы, пахвалы, сціхіры, канты і інш.

Асобную ўвагу трэба звярнуць на шматлікія ілюстрацыі, змешчаныя на старонках беларускай старадрукаванай кнігі. Напрыклад, можна згадаць гравюру ў "Малой падарожнай кніжцы" Ф. Скарыны, цудоўныя гравюры ў "Часаслове" Лявона Мамоніча (Вільня, 1617), "Трыфалагіёне" (Куцейна, 1647), "Псалтыры" (Магілёў, 1704), "Актоіхах" (Магілёў, 1730, 1740, 1754), "Ірмалоі" (Магілёў, 1747), "Разарыуме" (Вільня, каля 1677). Першыя з названых гравюр былі выкананы ў тэхніцы гравюры на дрэве, а апошнія — у вельмі вытанчанай тэхніцы медзярыту (гравюры на метале). Дададзім таксама, што над іх вырабам працавалі такія вядомыя мастакі-графікі старажытнай Беларусі, як Васіль Вашчанка, Фёдар Ангілейка і Аляксандр Тарасевіч.

Такім чынам, ужо ў XVI — XVIII стст. у Беларусі з'явілася даволі вялікая колькасць кніг, змест якіх быў звязаны з хрысціянскімі Калядамі. Паганскія вераванні не маглі быць адлюстраваны на старонках выданняў, большасць з якіх з'явілася ў друкарнях хрысціянскіх манастыроў.



Колядная пісанка 1913 год.

Вільня 1913.
Друкарня М. Кухты.

Сітуацыя змянілася кардынальна пасля далучэння беларускіх зямель да Расійскай Імперыі ў канцы XVIII ст. Неўзабаве ўніяцкае кнігадрукаванне ў Беларусі было ліквідавана, а каталіцкае моцна абмежавана. Амаль спынены нават выпуск літаратуры богаслужбовага характару альбо кніг Святога Пісання праваслаўнымі друкарнямі Беларусі, паколькі гэтыя функцыі адразу ўзялі на сябе расійскія цэнтры — Масква і Санкт-Пецярбург. У якасці рэдкіх выключэнняў можна згадаць хіба калядныя пасланні беларускіх царкоўных іерархаў. Напрыклад, у 1906 г. асобнай брашурай выйшла "Слово преосвященнейшего Стефана, епископа Могилёвского и Мстиславского в неделю пред Рождеством Христовым".

Бурнае развіццё навукі ў XIX ст. паспрыяла актывізацыі даследаванняў беларускай народнай творчасці, у тым ліку і калядных традыцый беларусаў, што стварыла магчымасці для выпуску шматлікіх публікацый, прысвечаных купальскім абрадам і звычаям, купальскім і шчадроўскім песням.

Даволі рэдка пытанням беларускага Купалля прысвячаліся асобныя выданні. У якасці аднаго з нешматлікіх прыкладаў можна згадаць кнігу А. Петрапаўлаўскага «Коляды» и «Купало» в Белоруссии", выдадзеную ў 1909 г. у Маскве. У гэтым выданні былі змешчаны апісанні абрадаў і прыведзены тэксты песень на беларускай мове, якімі суправаджаецца святкаванне. Яшчэ адзін прыклад — выдадзеная каля 1906 г. у Гродне кніга "Рождественские песнопения с переводом их".

> *Падаецца надзвычай цікавым вопыт беларускіх пісьменнікаў стогадовай даўніны, калі з друку напярэдадні свята выходзілі зборнікі пад назвай "Калядная пісанка". Вядомыя два такія выпускі, падрыхтаваныя, адпаведна, у 1903 і 1913 гадах. У іх публікаваліся творы Каруся Каганца, Янкі Лучыны, Цёткі, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Змітрака Бядулі, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Алеся Гаруна і іншых добра вядомых сёння пісьменнікаў.*

Найчасцей калядная праблематыка ўлівалася ў змест тэматычна больш шырокіх зборнікаў і манаграфічных прац. Напрыклад, беларускія калядныя песні можна адшукаць у зборніках Пятра Бяссонава "Белорусские песни с подробными объяснениями их творчества и языка с очерками народного обряда, обычая и всего быта" (Масква, 1871), Івана Насовіча "Белорусские песни" (Санкт-Пецярбург, 1874), Паўла Шэйна "Белорусские народные песни" (Санкт-Пецярбург, 1874) і "Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края" (Санкт-Пецярбург, 1887), Мікалая Янчука "По Минской губернии" (Масква, 1889), Мітрафана Доўнар-Запольскага "Песни пинчуков" (Кіеў, 1895), Яўхіма Карскага "Белорусские песни с. Березовца Новогрудского уезда Минской губернии" (1885) і многіх іншых выданнях.

Гэты няпоўны спіс сведчыць пра вялікую цікавасць да каляднай праблематыкі ў асяроддзі беларускіх і расійскіх этнографаў і фалькларыстаў. Поруч з даследчыкамі ішлі і беларускія пісьменнікі. Услед за вядомымі польскамоўнымі творамі першай паловы XIX ст. з'явіліся таксама і творы на беларускай і рускай мовах. Сярод рускамоўных можна згадаць апавяданне Аляксандра Пшчолка "В рождественскую ночь", якое было апублікавана ў яго зборніку "Очерки и рассказы из жизни белорусской деревни" (Вільня, 1906).



Значна багацейшай была беларускамоўная літаратура. Многія могуць згадаць вялікую колькасць вершаваных і празаічных твораў, дзеянне ў якіх адбываецца на Каляды. Мне асабіста найперш прыгадваюцца творы Якуба Коласа. А калядная тэма ў яго не рэдкасць. Прычым паўстае яна ў форме этнаграфічнага апавядання "Куцця" (у зборніку "Другое чытанне для дзяцей беларусаў", Санкт-Пецярбург, 1909), у выглядзе мастацкага журботнага апавядання "Калядны вечар" ( "Апавяданні", Вільня, 1912) альбо ў выглядзе вельмі жыццярадаснага раздзела "Каляды" ў паэме "Новая зямля".

Былі і калектыўныя працы. Падаецца надзвычай цікавым вопыт беларускіх пісьменнікаў стогадовай даўніны, калі з друку напярэдадні свята выходзілі зборнікі пад назвай "Калядная пісанка". Вядомыя два такія выпускі, падрыхтаваныя, адпаведна, у 1903 і 1913 гадах. У іх публікаваліся творы Каруся Каганца, Янкі Лучыны, Цёткі, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Змітрака Бядулі, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Алеся Гаруна і іншых добра вядомых сёння пісьменнікаў.

За савецкім часам стаўленне да Каляд было неадназначным. Афіцыйнае ўспрыманне хрысціянскага аспекту свята было выключна негатыўным, што знайшло ўвасабленне і ў беларускай кнізе. Згадаць хаця б дзве цікавыя брашуры пачатку 1930-х гадоў з красамоўнымі назвамі: "Каляды на службе эксплуататараў" і "Класавая сутнасць Каляд". Кожны можа здагадацца, пра што і ў якім рэчышчы ідзе гутарка на старонках гэтых выданняў. У той жа час выдаваліся працы этнаграфічнага характару, якія апісвалі народныя традыцыі абсалютна нейтральна, а часам і з гонарам за багацце нацыянальнай культуры.

Прайшоў час. Многае змянілася. Сёння Каляды ўспрымаюцца як адно з найважнейшых свят, як каштоўная традыцыя беларускага народа. Таму з друку выходзяць і рэлігійныя выданні, прысвечаныя Божаму Нараджэнню, і Калядныя пасланні іерархаў розных хрысціянскіх канфесій, і зборнікі калядных песень, і шматлікія літаратурныя творы адпаведнай тэматыкі, і навуковыя даследаванні па гісторыі Каляд на Беларусі, і нават метадычныя рэкамендацыі па арганізацыі святкавання Каляд. Адным словам, Каляды засталіся паўнацэннай часткай нашай культуры, у тым ліку і культуры кніжнай.

Са святам вас, дарагія чытачы! Вясёлых Каляд!

***На здымках: "Актоіх" (Магілёў, 1730); "Калядная пісанка" (1913).***

## У пярэймы году наступнаму

**Зіма. Каляды. Новы год. Хочацца гаварыць пра добрае. Вечнае. Тое, што заўсёды з намі — якія б крызісы ні страчаліся на шляху. Чалавек, адолеўшы частку дарогі, жадае прайсці і наступную, застаўшыся Чалавекам. Патрацціўшы мо толькі сілы фізічныя, але ўзбагаціўшыся духоўна. Хочацца верыць, што чалавек стаміўся не настолькі, каб перастаць чытаць і гаварыць пра паспяховыя стратэгіі папулярызацыі кніг. Тым больш што яшчэ ў гэтым, 2011-м, з'явіліся ініцыятывы: пра аб'яўленне наступнага года Годам кнігі, пра верагодную распрацоўку Нацыянальнай (альбо міжведамаснай) праграмы падтрымкі і развіцця чытання. Як бы яна ні называлася — галоўнае, што мы ўжо ўсвядомілі яе неабходнасць. Магчыма, у наступным і з'явіцца тая магутная плынь, скіраваная на агульную культурную асвету, унутры якой на ўвесь голас будзе гучаць тэма чытання — як асноўная ў асваенні ведаў, развіцця інтэлекту, уяўленняў чалавека — і вывучэння ды падтрымкі роднай мовы. Сёння мы друкуем роздумы чытачоў "ЛіМа", якія адначасова з'яўляюцца і нашымі добрымі сябрамі, і партнёрамі ў літаратурнай прасторы. І спадзяёмся, што тэму, узнятую ў іх артыкулах, зможам прадоўжыць. Водгукі дасылайце на электронны адрас: tulupova_05@mail.ru**

Ірына ТУЛУПАВА

# Лабіраваць дзіцячую цікавасць



**Ларыса ВЕРАМЧУК, загадчык аддзела літаратуры для дзяцей і юнацтва Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага**

Апошнім часам у нашай краіне шмат гавораць пра неабходнасць распрацоўкі і прыняцця міжведамаснай Нацыянальнай праграмы падтрымкі чытання. Зразумела, любая дзяржаўная праграма моцная падтрымкай грамадства.

На практыцы многія грамадскія інстытуты размежаваныя і рашаюць праблему ў межах свайго разумення і магчымасцей. Школа, бацькі і бібліятэка ў спробах развіцця чытацкіх навыкаў у дзяцей часта нагадваюць мне вядомых персанажаў байкі І. Крылова Лебедзя, Рака і Шчупака. Праблема "чытання-нечытання" вельмі сур'ёзная, каб адолець яе намаганнямі некага аднаго. Праўда, сучасныя мамы і таты нярэдка ўвязваюць чытацкую абазнанасць дзяцей з поспехамі ў вучобе і наступным матэрыяльным поспехам у жыцці. Школа ж больш занепакоена ўласна адукацыйнымі праграмамі. Мы разумеем, што сур'ёзна наблізіць кнігу да дзіцяці можна толькі сумеснымі намаганнямі і маючы агульную мэту. Бяда ў тым, што ў нашым грамадстве адсутнічаюць механізмы апазнавання ўсіх прафесіяналаў, здольных ствараць "кропкі росту" ў рашэнні праблемы, а пасля сумесна ствараць і "зоны росту". Напрыклад, вельмі мала сур'ёзных журналістаў, якія ўзнімаюць праблемы чытання і бібліятэк, яшчэ менш выданняў, якія іх друкуюць, няма тэлеперадач, дыскусій на тэлебачанні, у радыёэфіры. Актыўныя, нераўнадушныя настаўнікі і бацькі даўно зразумелі гэта, што тлумачыць поспех многіх арганізаваных бібліятэкамі сумесных праграм.

Мы працуем з бацькамі па праграме "Дзеці — бацькі — бібліятэка: крокі насустрач", з дзецьмі ў межах праграм "Лёсы кніг" і "Гульня прымае ўсіх". Не так даўно ў нас з'явілася "Школа маленькіх чараўнікоў", дзе дзеці 5 — 9 гадоў не толькі чытаюць разам адабраныя бібліятэкарамі кнігі, разглядаюць малюнкі, але і самі робяць ілюстрацыі да кніг — малююць альбо нешта выраблююць з пластыліну і салёнага цеста. Але чым больш мы працуем, тым больш узнікае пытанняў. Колькі ж дзяцей мы можам ахапіць? Адкуль яны?

Гэта добрыя дзеці, якія і вучацца добра. А дзе дзеткі з іншых сем'яў, у якіх няма ніякіх кніг і часопісаў, з аддаленых школ спальных раёнаў? Хто іх прывядзе да нас?

Уразіў вопыт нямецкіх калег, пра які я даведалася ў Кіеве ў лістападзе гэтага года на міжнародным семінары, арганізаваным Інстытутам Гётэ ў Кіеве і Украінскай бібліятэчнай асацыяцыяй. Напрыклад, у Гамбургу існуе рамачная дамова паміж чатырма ўпраўленнямі зямельнага ўрада (упраўленні культуры, школьнай адукацыі, сям'і і сацыяльнай палітыкі, СМІ), у якой дакладна прапісана, што наведванне публічных бібліятэк — гэта абавязковы элемент школьнага навучання. Таму школьнік з любога сацыяльнага асяроддзя, з любога раёна горада пачынаючы з 1 класа і да 9-га мінімум раз у год прыйдзе ў бліжэйшую бібліятэку. Узамен такіх абавязковых экскурсій публічныя бібліятэкі Гамбурга абавязаліся складаць камплекты для чытання ў кожным класе, спецыяльныя медыйныя праграмы для выхавацеляў і настаўнікаў ды шмат іншага. Розныя праграмы фінансуюцца са спецыяльнага бюджэту гэтых упраўленняў зямельнага ўрада. Думаю, такі вопыт вельмі карысны для нас.

Ёсць і іншыя балючыя пытанні, якія бібліятэка самастойна рашыць не можа. Да прыкладу, далёка не кожную вартую дзіцячую кнігу мы здольныя сёння прадставіць чытачу. Па-першае, у нашай краіне адсутнічае сістэма псіхолага-педагагічнай і літаратурнай экспертызы патоку дзіцячай і юнацкай літаратуры. Рэкамендацыі па чытанні пэўных сучасных кніг павінны даваць прафесіяналы і спецыялісты высокага ўзроўню. Па-другое, у нас слабыя бібліятэчныя кадры на месцах. А менавіта бібліятэкарам часцяком трэба самастойна выбіраць лепшыя кнігі з усяго патоку паступленняў.

Над усімі гэтымі ўзвышаецца яшчэ адна архіважная праблема — адсутнасць дзяржаўнага мадэльнага стандарту дзіцячай бібліятэкі (аддзела). Нездавальняючы матэрыяльна-тэхнічны стан бібліятэк, мякка кажучы, ускладняе працэс "нараджэння" і рэкламавання дзіцячых кніг. Як быццам, усе ведаюць, як павінны праходзіць сучасныя прэзентацыі, чытанні ілюстраваных кніг, якія куточкі павінны быць у бібліятэках для таго, каб дзеці захацелі там застацца… Дзе, да прыкладу, наш абавязковы відэарад, гук і святло на прэзентацыях? Нават у буйных бібліятэках для дзяцей няма ўласных мультымедыйных дошак, экранаў, электронных праектараў, сучасных камп'ютараў, спецыялізаванай дзіцячай мэблі.

Відавочна, што без удзелу дзяржавы і прыняцця Нацыянальнай праграмы падтрымкі чытання, якая аб'яднае намаганні выдаўцоў, пісьменнікаў, педагогаў, бібліятэкараў, настаўнікаў і бацькоў, гэтыя пытанні застануцца. І той жа мадэльны стандарт сучаснай бібліятэкі не можа з'явіцца сам па сабе, без рашэння вострых пытанняў у нашых калег: пісьменнікаў, выдаўцоў ды настаўнікаў.

# У рытарычных пытанняў адказу няма

**Сяргей ГАРАНІН, намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кандыдат філалагічных навук**

**Памятаецца, за савецкім часам, ад якога толькі што мінула 20 гадоў, у гаспадароў прыстойных кватэр быў звычай збіраць уласныя бібліятэкі. Аднатыповыя зборы твораў, што размяркоўваліся грамадзянам тагачасным "Обществом книголюбов", панылa пасвечвалі залацістым цісненнем літар праз шкло паліраваных секцый у гасцёўнях гэтакіх жа аднатыповых кватэр (секцыя прама — вакно злева — тэлевізар у куце або секцыя справа — вакно прама — тэлевізар зноў у куце). Наяўнасць кніг у кватэры ці сведчыла пра сапраўдную інтэлектуальнасць, ці толькі прэтэндавала на гэта.**

Цяпер нібыта ёсць разуменне, што літаратура — гэта не паліца з кнігамі. Не шафа, не пакой і нават не будынак бібліятэкі. Літаратура — гэта перадусім рух, працэс. Працэс не толькі непасрэднага чытання (рэцэпцыі, як кажуць сучаснікі), але і абдумвання, пастаяннага вяртання да трапных выразаў, да знаёмых вобразаў, да неразвязаных калізій, да пастаўленых калісьці, але і па сёння нявырашаных праблем… І наіўна было б думаць, што маркетынг, рэклама, паліграфічны ўзровень выдання ці да т. п. "меры" адыгрываюць у ім вызначальную ролю.

Але калі задаць патэнцыяльнаму чытачу пытанні, калі ён апошні раз быў у бібліятэцы, калі раскрываў свой нятоўсты па сённяшнім часе кашалёк у кнігарні і, нарэшце, калі наогул браў у рукі кнігу… На жаль, вельмі часта яны гучаць як рытарычныя. А ў рытарычных пытанняў адказу няма. Агульная скарга выкладчыкаў на філфаках: студэнты без прымусу не чытаюць нават праграмных твораў. А калі задаць тое ж пытанне, напрыклад, студэнтам аўтатрактарнага факультэта Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта? Можа, чытаюць там? А калісьці інжынеры былі высокаадукаванымі ў гуманітарнай сферы людзьмі, вольна разважалі пра мастацтва, ведалі па некалькі моў…



Калі мы патлумачым страту цікавасці да чытання адно толькі "невысокім мастацкім узроўнем" твораў сучаснай літаратуры, то гэта будзе толькі часткаю праўды, бо з класікай — не толькі беларускай, але і рускай, і сусветнай — становішча не лепшае.

Як вядома, літаратура ўздзейнічае на чытача вобразамі, сюжэтамі, вастрынёю перажыванняў герояў, аднолвеных і перададзеных з дапамогай мастацкага слова. Успрыманне літаратурнага твора патрабуе пэўнай (а часам і немалой!) працы, суперажывання героям, фантазіі, роздумаў. Патрабуе часу. Але ў сучасным свеце літаратура стала далёка не адзіным і, магчыма, ужо не галоўным носьбітам вобразнасці. Рэклама, відэаролікі, эстрада, кліпы, камп'ютарныя гульні і многае іншае таксама выкарыстоўваюць вобразную форму, дакладней кажучы, вобразную абалонку. У адрозненне ад літаратурнай гэтая абалонка не прадугледжвае ніякай працы свядомасці ўспрымальніка, не патрабуе ніякай рэфлексіі, а тым болей самарэфлексіі. Наогул, не патрабуе нічога. І ўсе гэтыя гульні ды кліпы пасвойму агрэсіўныя, гэта значыць, наўмысна створаныя так, каб уцягнуць чалавека ў арбіту свайго ўплыву. Рэклама не толькі інфармуе пра новы тавар, але і выклікае жаданне гэты тавар набыць, і кліп не пакідае чалавека раўнадушным, і газета шакіруе падрабязнасцямі жудаснага злачынства, і тэленавіны — сексуальнымі прыгодамі заакіянскіх зорак, і радыё — гісторыяй абарыгенаў з далёкага вострава, якія пацярпелі ад цунамі. Наш сучаснік, перагружаны гэтай інфармацыяй, імкнецца зачыніцца ў сабе ("Не вазьму твайго болю!"), не дапусціць у душу "чужых" праблем, бо і сваіх хапае. Успрыманне робіцца павярхоўным і бяздумным.

Ці змогуць бібліятэка як грамадскі інстытут, а разам з ёю і літаратура як від мастацтва і нават болей — як форма грамадскай свядомасці — выжыць у гэтых умовах?

Справа не ў абазнанасці таго ці іншага індывіда ў літаратурнай гісторыі, класіцы ці тэорыі. Справа ў самім спазнанні свету і самога сябе, у ацэнцы навакольнага жыцця і іх асобных падзей праз літаратуру і з дапамогай літаратуры. Цалкам зразумела, што скрануць з месца вырашэнне гэтай праблемы можна толькі агульнымі намаганнямі бібліятэкі і іншых грамадскіх інстытутаў (прэсы, навукі, школы і г.д.), а таксама адпаведных уладных структур і ўстаноў. Вось чаму неабходнай уяўляецца міжведамасная праграма падтрымкі чытання, якая б магла аб'яднаць намаганні міністэрстваў адукацыі, інфармацыі, культуры, фінансаў, Нацыянальнай бібліятэкі, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, саюзаў пісьменнікаў, журналістаў, мастакоў, тэатральных дзеячаў. Фундаментальна распрацаваная, навукова, фінансава і метадычна забяспечаная, гэтая праграма можа не толькі паслужыць моцнай платформай для ўмацавання літаратурнай адукацыі і павышэння моўнай культуры народа, але і надаць новы творчы імпульс развіццю сучаснай літаратуры.

**Віктар СВЯКЛА, навуковы супрацоўнік аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі**

### Сёлета спаўняецца 120 гадоў з дня нараджэння Мікалая Чарвякоўскага. Хто ён такі? Чым вядомы?

# Вечны вандроўнік з горада над Нёманам



Імя гродзенскага бібліёфіла, калекцыянера, краязнаўца, публіцыста Мікалая Чарвякоўскага адкрыў для чытача вядомы гісторык, прафесар Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта Валерый Чарапіца.

Нарадзіўся Мікалай Чарвякоўскі ў 1891 г. у Гродне. З маленства пачаў цікавіцца кнігамі. У гады навучання ў Гродзенскай гімназіі гэта праяўлялася ў калекцыяніраванні рэдкіх, каштоўных выданняў. Акрамя таго, юнак захапляўся гісторыяй, не быў убаку ад культурных падзей. Такое кола інтарэсаў было абумоўлена як сямейным, так і школьным выхаваннем. Бацька Мікалая, Андрэй Іванавіч (1856 — 1937), быў вядомым у горадзе энтузіястам на ніве культуры: кіраваў Гродзенскім гуртком аматараў музыкі, ладзіў спектаклі, канцэрты, літаратурныя імпрэзы. Настаўнікамі маладога Чарвякоўскага ў гімназіі былі аўтар шэрагу прац па гісторыі Гродзеншчыны Яўстафій Арлоўскі і гарачы прыхільнік выкарыстання краязнаўчай работы ў навучальным працэсе Андрэй Турчыновіч. Гэтае асяроддзе паўплывала і на нацыянальнае самаўсведамленне Чарвякоўскага. Патрыёт беларускага горада Гродна, ён тым не менш лічыў сябе прадстаўніком рускай нацыі, з асаблівай павагай ставіўся да рускай культуры.

Пасля сканчэння гімназіі ў 1912 г. Чарвякоўскі вучыўся спачатку ў Юр'еўскім (цяпер Тартускі), а пасля ў Пецярбургскім універсітэце. Палітычныя падзеі таго часу не дазволілі яму скончыць навучанне. У гады Першай сусветнай вайны і ў кастрычніку 1917 г. Чарвякоўскі знаходзіўся ў Калузе — горадзе мірным, далёкім ад эпіцэнтру ваенных і рэвалюцыйных падзей. У 1918 г. стаў чырвонаармейцам, але хадзіць шляхамі грамадзянскай вайны яму амаль не давялося: знаходзячыся са сваім палком на Украіне, захварэў і вярнуўся на тылавую службу ўсё ў тую ж Калугу. Тут і пазнаёміўся з асновамі спецыяльнасці, па якой пасля доўга працаваў: скончыў курсы ваенных бібліятэкараў.

У 1922 г. Чарвякоўскі вярнуўся ў Гродна. Горад за час яго адсутнасці з расійскага зрабіўся польскім. Аднак цікавасць да рускай мовы і культуры існавала тут і ў польскія часы. У 1925 г. узнікла Гродзенскае аддзяленне "Рускага дабрачыннага таварыства" (РДТ) — арганізацыі, якая служыла для задавальнення культурных і дабрачынных патрэб рускага насельніцтва.

У 1926 г. Чарвякоўскі стаў загадчыкам бібліятэкі Гродзенскага аддзялення РДТ. Пры бібліятэцы дзейнічаў пастаянны лекторый, дзе выступалі вядомыя прамоўцы з Варшавы і Львова, вяліся дыскусіі па самых розных пытаннях рускай культуры, літаратуры, гісторыі. Цэнтральнай падзеяй штогод быў "Дзень рускай культуры", які кожны раз прымяркоўваўся да дня нараджэння А. Пушкіна. З гэтай нагоды таварыства выпускала газеты-аднадзёнкі "Зарница", "Наш день", "Русский день", у якіх друкаваўся М. Чарвякоўскі. Пачынаючы з 1927 г. Чарвякоўскі быў членам іншай арганізацыі — "Рускага нацыянальнага аб'яднання" (РНА). Гэта было больш разгалінаванае ўтварэнне: з'яўлялася ўсепольскім, ставіла не толькі культурна-асветніцкія, але і грамадска-палітычныя мэты. Аб'яднанне выдавала свае газеты: у Львове выходзіў "Русский голос", а ў Вільні — "Искра" (пазнейшая назва — "Новая искра"). Чарвякоўскі быў іх карэспандэнтам. Самае вядомае яго выступленне ў друку таго часу — даклад па праблеме паходжання Гродна (дакладчык даказваў яго старажытнарускі характар), зроблены на Віленскім з'ездзе РНА і надрукаваны як у "Русском голосе", так і ў "Новой Искре". У апошнія гады дзейнасці аб'яднання М. Чарвякоўскі быў значнай фігурай у яго арганізацыйна-кіраўнічай структуры. У 1936 г. ён, паводле звестак украінскага гісторыка С. Ткачова, быў упаўнаважаным РНА па Беластоцкай акрузе.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР Чарвякоўскі пачаў працаваць у Гродзенскай гарадской бібліятэцы. У газеце "Свободная Беларусь" у 1939 — 1941 гг. друкаваліся яго артыкулы, прысвечаныя падзеям гродзенскай даўніны. Гэты перыяд — адзін з самых радасных і поўны надзей у жыцці Чарвякоўскага. Ён не хаваў адчування важнасці ўласнай працы ("Па маіх артыкулах савецкія людзі, што прыбывалі ў горад, знаёміліся з гісторыяй Гродна") і ўвогуле прыўзнятага настрою ("Я адчуваў сябе ў поўным сэнсе слова шчаслівым чалавекам").

Далейшым планам і спадзяванням Чарвякоўскага перашкодзіла вайна. Фашысты, захапіўшы Гродна, адразу пачалі ўсталёўваць нямецкі парадак. У дачыненні да бібліятэкі гэта азначала, што частка фонду (у першую чаргу савецкія выданні і яўрэйская літаратура) была знішчана, астатнія кнігі былі перавезены ў іншы будынак. Карыстацца імі было забаронена.



Ян Домбровский. Великая Война 1914–1918

Гродно. 19–22 августа / 1–4 сентября 1915.

Jan Dąbrowski. Wielka Wojna 1914–1918

tom I, str. 415

Grodno, 1–4 września 1915.

Мікалай Андрэевіч звярнуўся да сваіх калег, якія перавозілі фонд на новае месца, з просьбай аддаць яму частку кніг для хатняга захавання. З умовай зберагчы гэта ў тайне некалькі вазоў кніг апынуліся на кватэры Чарвякоўскага. У гады акупацыі гэтая кватэра была нелегальнай бібліятэкай, дзе жыхары Гродна маглі атрымаць неабходную літаратуру. Летам 1944 г. фашысты даведаліся пра недазволенае захаванне і выдачу кніг. Нямецкі генерал, які прыехаў да бібліятэкара, адабраў для сябе самыя каштоўныя выданні, а астатнія загадаў знішчыць. Але Чарвякоўскі зрабіў усё, каб не выканаць гэты загад.

Пасля вызвалення Гродна Чарвякоўскі вярнуўся ў бібліятэку. Разам з ім вярнуліся і кнігі, якія Мікалай Андрэевіч захоўваў, рызыкуючы сабою. Аднак у жніўні 1944 г. бібліятэкара арыштавалі за прыналежнасць да беларускага нацыяналістычнага аб'яднання ў гады вайны. Як яно магло датычыць Чарвякоўскага, які заўсёды ўсведамляў сябе носьбітам рускай культуры, не меў сяброў і знаёмых з ліку незалежнікаў-адраджэнцаў, не пісаў і, мабыць, рэдка размаўляў пабеларуску? Праўда, на першы раз яму пашчасціла. Справу спынілі, і Мікалай Андрэевіч вярнуўся да працы. З бібліятэкі "вечны кніжнік" перайшоў у Гродзенскі дзяржаўны гістарычны архіў, дзе перакладаў дакументы замежных фондаў, разбіраў старажытныя акты і рукапісы XVI — XVIII стст. на латыні, стараславянскай і польскай мовах. Адначасова ён працаваў і ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі. Узнавіў Чарвякоўскі і свае выступленні ў друку. У "Гродненской правде" змяшчаліся яго артыкулы "Старонкі Іпацьеўскага летапісу", "Кім і калі заснаваны старажытны Гродна", "Што паказалі раскопкі Замкавай гары" і інш. А праца "Барацьба горада Гродна з нямецкімі рыцарамі ў XIII — XIV стст." нават была выдадзена асобнай брашурай.

І раптам — новае абвінавачванне. 15 сакавіка 1952 г. Чарвякоўскі быў асуджаны на 25 год пазбаўлення волі. Зразумеўшы, што не ўдасца пазбегнуць пакарання самому, Чарвякоўскі пачаў клапаціцца пра калекцыі. Працу перадаць збор паштовых марак у Расійскую асацыяцыю філатэлістаў, альбомы выразак з перыёдыкі — у Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей. Акт аб перадачы абедзвюх гэтых калекцый у музей у справе Чарвякоўскага, адшуканай В. Чарапіцам у архіве Упраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці, ёсць, як і акт аб перадачы 163 фотаздымкаў Чарвякоўскага жонцы яго брата Аляксандра. Але сёння калекцый там, дзе яны павінны былі б знаходзіцца, няма — ёсць толькі невялікая надзея, што яны не згінулі канчаткова.

Што датычыць самай каштоўнай калекцыі Чарвякоўскага — яго асабістай бібліятэкі, то на яе лёс уладальнік (ужо былы) паўплываць ніяк не мог. Поўнасцю рэабілітаваны ён быў толькі ў 1994 г., праз 13 гадоў пасля смерці.

Сведчанняў пра апошнія дзесяцігоддзі з жыцця Чарвякоўскага зусім няшмат. Не захавалася амаль ніякіх дакументаў, усё менш застаецца людзей, якія кантактавалі з ім. У пачатку 1970-х гадоў такія стасункі ўсталяваліся паміж Мікалаем Чарвякоўскім і Лідзіяй Збралевіч, якая на той час загадвала аддзелам рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Беларусі. Як бачна з ліста Чарвякоўскага ад 7 жніўня 1972 г., 81-гадовы аўтар яшчэ не адмовіўся ад інтэлектуальнай працы. "Я займаюся складаннем храналогіі ад старажытных часоў да сённяшняга, але шмат чаго не хапае…" — так пачынае Мікалай Андрэевіч сваю просьбу да Лідзіі Іванаўны пра дапамогу ў атрыманні неабходных выданняў. З іх назваў бачна, што яго праца датычылася сусветнай гісторыі.

У сваю чаргу, Чарвякоўскі перадаваў на захаванне ў бібліятэку некаторыя дакументы са свайго асабістага архіва. Найперш назавём успаміны Чарвякоўскага пра яго працу ў 1925 — 1945 гг. у бібліятэках Гродна. 7 старонак машынапісу ўтрымліваюць нямала цікавых звестак з біяграфіі аўтара і жыцця бібліятэк яго роднага горада. Факты, падзеі, даты, прозвішчы калег, назвы самых каштоўных выданняў з фондаў бібліятэк і нават размяшчэнне залаў і сховішчаў у іх — усё гэта Чарвякоўскі захоўваў у памяці, перш чым зафіксаваць на паперы ў 1945 г.

У артыкуле "Старое Гродна" знайшлі адлюстраванне падзеі і факты з гісторыі горада, якія адносяцца пераважна да XIX ст. Аўтар артыкула малюе нацыянальна-рэлігійную і дэмаграфічную карціну Гродна, прыводзіць звесткі пра побыт, заняткі і звычаі насельніцтва, апісвае культурнае жыццё гараджан, дае кароткі агляд гродзенскага перыядычнага рускамоўнага друку і г.д.

Сярод іншага — праца ленінградскіх калекцыянераў экслібрыса У. Саванько і Я. Разэнблата па гісторыі рускіх экслібрысных калекцый канца XIX — першай трэці XX стст., копіі і выпіскі з розных крыніц і па самых розных пытаннях.

***На здымках: М. Чарвякоўскі — выпускнік Гродзенскай мужчынскай гімназіі (фота з кнігі В. Чарапіцы "Са скарбніцы кніжных паліц"); Выпіскі М. Чарвякоўскага з розных крыніц. З фонду ЦНБ імя Якуба Коласа НАН Беларусі.***

## Юрыдычная кансультацыя

*Рубрыку вядзе галоўны спецыяліст упраўлення права і міжнародных дагавораў Нацыянальнага цэнтра інтэлектуальнай уласнасці Ігар ЛУЧАНОК.*

# Немаёмаснае права

**З 1 снежня 2011 года ўступіў у сілу Закон "Аб аўтарскім праве і сумежных правах". Паводле Закона, аўтару — фізічнай асобе, якая стварыла твор, — належаць маёмасныя і асабістыя немаёмасныя правы.**

**Што ж такое *немаёмаснае права*?**

Да асабістых немаёмасных правоў адносяцца правы аўтарства (права прызнавацца аўтарам твора), права на імя (права выкарыстоўваць ці дазваляць выкарыстоўваць твор пад сапраўдным імем аўтара, псеўданімам ці ананімна — як аўтар сам таго пажадае), права на абнародаванне (права здзяйсняць дзеянне, якое ўпершыню робіць твор даступным для ўсеагульнага ведама шляхам яго апублікавання, публічнага выканання, публічнага паказу ці іншым спосабам), права на адкліканне (права адмовіцца ад раней прынятага рашэння абнародаваць твор) і права на недатыкальнасць твора.

Асобна неабходна спыніцца на ўведзеным новым Законам немаёмасным праве на недатыкальнасць твора — права, якое абазначае, што без згоды аўтара не дапускаецца ўнясенне ў яго твор змяненняў, скарачэнняў і дапаўненняў. Аўтар мае права пярэчыць супраць усялякага скажэння свайго твора, а таксама любога іншага пасягальніцтва на твор, здольнага нанесці ўрон гонару і годнасці аўтара.

Аднак аўтарам неабходна ведаць пра абмежаванне права на недатыкальнасць твора, якое датычыць службовых твораў. Так, наймальнік, які валодае выключным правам на службовы твор, мае права ўносіць у яго змяненні, скарачэнні і дапаўненні, выкліканыя неабходнасцю адаптацыі твора да пэўных умоў яго выкарыстання, без атрымання згоды на гэта аўтара службовага твора, калі іншае не прадугледжана дагаворам паміж наймальнікам і аўтарам.

Выканаўцам — акцёрам, спевакам, музыкантам, танцорам ці іншым асобам, якія выконваюць твор, а таксама рэжысёрам-пастаноўшчыкам спектакля і дырыжорам належаць такія асабістыя немаёмасныя правы, як права аўтарства (у адносінах да выканання), права на імя і права на недатыкальнасць выканання.

Трэба падкрэсліць, што асабістыя немаёмасныя правы ахоўваюцца бестэрмінова, належаць аўтарам і выканаўцам незалежна ад маёмасных і не могуць адчуждацца і перадавацца па дагаворы.

Пра тое ж, што такое *маёмаснае права*, мы пагаворым у наступным выпуску "Бібліятэчнага сшытка".

Першы крок

# Вяртанне ў сваю будучыню

**Першую бібліятэку згадвае намеснік Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей Уладзімір ЛАМЕКА.**


Фота Кастуся Дробава

У мяне — напэўна, як у Максіма Горкага — у самым дзяцінстве пачаліся працоўныя ўніверсітэты: у сям'і гадавалася пяцёра дзяцей, я быў чацвёрты. Старэйшыя брат і сястра ўжо вучыліся ў школе, калі пачыналася маё свядомае жыццё і трэба было далучацца да кнігі. І, можа, якраз брат і сястра рабілі на мяне большы ўплыў, чым бацькі, хоць тата і мама былі вельмі цікавымі апавядальнікамі — з іх вуснаў заўсёды сыходзіла народная мудрасць. Мама расказвала казкі. Першыя ўражанні захаваліся якраз ад казак Пушкіна, беларускіх народных казак — я імі захапляўся. Пазней прыйшлі да мяне казкі Андэрсена — іх адкрывалі для мяне таксама брат і сястра.

Вядома ж, помню сваю першую бібліятэку. Яна была ў пачатковай (чатырохкласнай) школе. Калі настаўнік праводзіў урокі, мы сядзелі поруч у адным пакоі: рад першага класа, рад — трэцяга. У настаўніка была свая бібліятэка, нават меўся для гэтага невялічкі пакойчык у школе. І ён даваў нам свае кнігі. Памятаю тую ж казку Пушкіна пра рыбака і рыбку, іншыя. Нават малюнкі ўсплываюць у памяці. Потым, калі пайшоў у пяты клас у Галынкаўскую сярэднюю школу, якая была за некалькі кіламетраў ад маёй роднай вёскі Вострава Зэльвенскага раёна, у самой школе была сур'ёзная бібліятэка. Была і Астраўская бібліятэка, у якую я быў запісаны і дзе рэгулярна браў кнігі. Прыгодніцкая, класічная літаратура — усё перачытваў. З беларускай — гэта і Купала, і Колас, і Багдановіч. Існавала ў той час у нас літаратурнае аб'яднанне "Маладыя галасы". І я таксама нешта спрабаваў пісаць.

Так што самае плённае далучэнне да кнігі давала мне, сельскаму дзіцяці, школа. Магутныя былі настаўнікі, я і сёння іх вопытам і наказамі жыву.

Дома ў мяне вялікая бібліятэка. У хаце ж тры філолагі: я сам — мовазнаўца, жонка — літаратар, выкладчык беларускай літаратуры БДУ, праўда, цяпер ужо на пенсіі. Дачка — дацэнт кафедры замежнай літаратуры БДУ, чытае сусветную літаратуру і праз яе ўсё лепшае і самае папулярнае, што ёсць, я спазнаю. Штосьці яна пераказвае, а пра іншае гаворыць, што мне абавязкова трэба пачытаць, каб не прапусціць. Я і сам прашу дачку, каб яна падказала мне кнігі па філасофскай тэматыцы, дзе ёсць развагі пра сэнс існавання чалавека ў свеце і што такое вера для чалавека. Іншы раз і за поўнач прасядзіш, чытаеш, калі яно цябе захапіла…

Мяне цікавяць і Маркес, і Каэльа. А больш за ўсё цікаўлюся літаратурай спецыяльнай. Стаяць у маім працоўным кабінеце на палічках кнігі "Запытайце Госпада пра мяне" — матэрыялы інтэрв'ю Уладыкі Філарэта газетам і часопісам. Ці "Сіла нацыі — у сіле духу" — кніга разваг Свяцейшага Патрыярха Кірыла — вельмі мудрыя рэчы! Ці, скажам, "Жыццё на шляхах праўды" — гэта альбом, які быў падрыхтаваны да 70-гадовага юбілею Уладыкі Філарэта.

Што да нашай нацыянальнай літаратуры, мне падабаецца эсэістыка Янкі Сіпакова. Паколькі я мовазнаўца, люблю кнігі, дзе знаходжу сапраўдныя ўзоры слова, творчасці, дзе беларуская мова гучыць ва ўсім сваім праяўленні. Люблю Янку Брыля, яго мудрасць, філасофію, валоданне беларускім словам, стылістыку, якая захапляе. Ці, скажам, калі браць паэзію — узорнае слова Рыгора Барадуліна, у яго магутная для мяне культура мыслення і слова: "Лілею млявы плёс люляе…" Адзін радок, а глядзіце, якія вобразы паўстаюць!

Гісторыя і сучаснасць

# Дарога да яе Доміка

Ірына ТУЛУПАВА

**У калядныя ды перадчнавагоднія дні блізу Доміка Элізы Ажэшкі ў Гродне шматлюдна. Тут адноўлена традыцыя, закладзеная славутай пісьменніцай больш як 100 гадоў таму, — ладзіць навагоднія святы для дзяцей-сірот. Сёння да гэтай традыцыі спрычыненыя аматары сучаснай літаратуры. Пра старое-новае свята распавядае намеснік дырэктара Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага Марына ІГНАТОВІЧ.**

— Эліза Ажэшка была жанчынай вялікай душы і чулага сэрца. Яна дапамагала пагарэльцам горада, вучыла маладых дзяўчат з інтэлігентных сем'яў, давала грошы беднякам і дапамагала дзецям… Невядома, калі і як прыйшла да Элізы Ажэшкі ідэя стварыць навагоднае свята для дзяцей-сірот і дарыць ім падарункі, але даследчыкі жыцця пісьменніцы згадваюць гэты факт у сваіх працах. У 1903 — 1904 гг. яна праводзіла святы ў сваім доміку.

Традыцыю правядзення дабрачынных ёлак аднавілі ў 2005 годзе супрацоўнікі юнацкага філіяла і аддзела выданняў на замежных мовах нашай бібліятэкі. Штогод для дзяцей-сірот Лойкаўскага сацыяльнага прытулку, Панямуньскага дзіцячага дома, Дзіцячага дома горада Гродна ладзіцца свята. Супрацоўнікі бібліятэкі становяцца на час акцёрамі і ў касцюмах Дзеда Мароза, Снягуркі ды іншых казачных герояў паказваюць навагоднюю казку.

Падрыхтоўка да навагодніх свят распачалася яшчэ ўвосень: з 1 лістапада па 15 снежня праходзіла дабрачынная акцыя "Падары Новы год дзецям-сіротам", да якой далучыліся актыўныя чытачы бібліятэкі, прыхаджане праваслаўных і каталіцкіх храмаў, жыхары і найбуйнейшыя прадпрыемствы горада. Для дзяцей-сірот за гэты час сабраныя канцтавары, цацкі, кнігі, наборы для творчасці, развіваючыя гульні і інш. Прадпрыемствы прадаставілі салодкія пачастункі. Сёлета як ніколі акцыя згуртавала гарадзенцаў.



**— Дзеці ведаюць, што галоўнае ў дабрачыннай ёлцы пані Элізы? Ці даспадобы ім вяртанне ў гісторыю?**

— І хлопчыкі, і дзяўчынкі, бясспрэчна, цікавяцца гістарычнай літаратурай. Не трэба праводзіць ніякага адмысловага маніторынгу, каб сказаць, што дзеткі з задавальненнем чытаюць кнігі Уладзіміра Бутрамеева "Вялікія і славутыя людзі зямлі Беларускай", разам з Уладзімірам Ягоўдзікам вывучаюць "Адкуль наш род". Што ўжо казаць пра кнігі з серыі "Сем цудаў Беларусі" "У гасцях у вечнасці", "Званы Нямігі", "За наміткай гісторыі", "Адвечны покліч Радзімы"... Гэта ж усё пра нашы храмы, замкі, легенды, беларускіх князёў і асветнікаў, якіх шмат было і на гродзенскай зямлі. А "Вясёлка над Нёманам" Уладзіміра Ліпскага, выдадзеная у РВУ "Літаратура і Мастацтва", — своеасаблівая "маленькая энцыклапедыя" Гродзеншчыны, якая дае магчымасць перанесціся ў самыя розныя часы і эпохі! Ахвотна дзеці чытаюць кнігі з серыі "Казкі XXI стагоддзя", "Скарбы Радзімы", "Маляўнічыя кнігі аб прыродзе", казкі сучасных беларускіх аўтараў.

**— У гісторыі вядомы такі факт: аднойчы, калі Эліза Ажэшка захварэла, выйшаў загад пра тое, каб дарогу каля яе дома высцелілі саломай. А цяпер ці ўважлівыя гарадзенцы да тых сустрэч, што праходзяць у доміку?**

— Так, сапраўды, у 1910 годзе, калі пісьменніца цяжка захварэла, губернатар горада Гродна загадаў брукаванку каля яе дома высцеліць саломай. Так бераглі спакой гэтай выбітнай жанчыны і выказвалі пашану да гаспадыні дома. І сёння гарадзенцы добра ведаюць дом пісьменніцы, які з даўніх часоў называецца проста Домік Элізы Ажэшкі і дзе цяпер знаходзяцца юнацкі філіял і аддзел выданняў на замежных мовах Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага. Людзі наведваюць яго не толькі каб пачытаць і ўзяць цікавую літаратуру, але і бяруць удзел у сустрэчах, якія праводзяцца.

Усім вядомыя спатканні ў літаратурна-музычным салоне "У пані Элізы", тут праходзяць міжнародныя канферэнцыі. З 2001 года, калі быў адчынены мемарыяльны пакой, прысвечаны жыццю і творчасці Элізы Ажэшкі, яго наведалі каля 40 тысяч жыхароў і гасцей нашага горада.

**— Складана напісаць сцэнарый такога навагодняга свята?**

— Напісаць навагодні сцэнарый для дзяцей-сірот няпроста, але жаданне — вялікае. Шчыра дзякуем усім, хто дапамагае ў правядзенні свят. Гэта чытачы бібліятэкі, прадстаўнікі праваслаўнай і каталіцкай канфесій, прадпрыемствы горада.

Анонс




# Вынікі Года вожыка

Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ

**"Тут на старонках вельмі родных і завушніцы ёсць, і розгі", — распачынае нумар паэтэса Аксана Спрынчан. Снежаньская "Бярозка", як ні сумна, адметная і тым, што нумар гэты ў нейкім сэнсе развітальны… З 2012 года літаратурна-мастацкі часопіс для падлеткаў будзе жыць пад адной вокладкай з часопісам "Маладосць".**

У гэтым нумары чытачы знойдуць расповед пра новую кніжку казак і вершаў Анатоля Зэкава "Зязюля Гулюля" і паэзію Міхася Башлакова. У дыялог з апошнім уступае паэт Рагнед Малахоўскі, толькі выказваецца ён гэтым разам не з дапамогай слоў, а праз фотадымкі.

Проза прадстаўлена сакавітым казачным апавяданнем Арцёма Кавалеўскага "Пра муху Дору і вегетарыянства". А яшчэ — апавяданнем "Лявон у дзіковым палоне" Алены Мімрык ды завяршэннем прыгод авечкі Адэлі з казкі Наталлі Бучынскай.

У рубрыцы "Цяжкасці росту" — займальная і вясёлая гісторыя Наталлі Пахомчык "Не герой". З яе падлеткі змогуць даведацца, хто ж такі "паталагічны ілгун".

Рубрыка "Нашы святы" прадстаўляе падборку вершаў пра вожыка. І гэта не выпадкова, таму што 2011 год "Бярозка" абвясціла менавіта Годам вожыка. Дык вось і надыйшоў час падвесці вынікі творчага конкурсу ў гонар гэтай калючай, але вельмі сімпатычнай жывёлы.

У школьныя гады без музыкі — аніяк! Рубрыка "Дынамік" запрасіла ў госці беларускі гурт B_SIDE — першаадкрывальніка стылю трып-хоп у Беларусі. B_SIDE распавядае, як можна спалучыць павольныя рытмы, электронную і жывую музыку, гукі старых джазавых вінілаў і ўрыўкі з кінастужак.

"Выбіраем прафесію" — новая рубрыка, прысвечаная гэтаму няпростаму пытанню. Кандыдат псіхалагічных навук з Рэспубліканскага цэнтра праблем чалавека БДУ Святлана Сагайдак распавядае ў інтэрв'ю пра тое, як важна абраць працу і прафесію ў адпаведнасці з прыроднымі здольнасцямі. У працяг тэмы здаровага ладу жыцця чытачы маюць магчымасць сустрэцца з галоўным трэнерам нацыянальнай зборнай Беларусі па вадналыжным спорце Віктарам Наважылавым.

Ну і канечне, як заўжды у "Бярозцы", — тэатральныя старонкі. Гэтым разам Вольга Наважылава распавядае пра Дзіцячы музычны тэатр "Казка".

# У казку? Калі ласка!

Іна СНЯЖКОВА, фота Пятра Курыловіча

**Спытай у беларусаў гадоў сем таму, хто такі Зюзя, — адказалі б адзінкі. Сёння, дзякуючы старанням пастаўскага Цэнтра турысцкіх паслуг, гэтага міфалагічнага героя ведаюць не толькі ва ўсёй Беларусі, але і за яе межамі. Тысячы турыстаў штогод наведваюць рэзідэнцыю Зюзі Паазерскага — беларускага Дзеда Мароза — у фальклорна-міфалагічнай сядзібе “Азяркі”. Год ад году колькасць гасцей толькі расце.**

Першапачаткова праект “У госці да Зюзі Паазерскага” быў разлічаны на мясцовых школьнікаў. У Цэнтры турысцкіх паслуг разумелі: зімой дзецям заўсёды хочацца казкі. Толькі ездзіць да галоўнага Дзеда Мароза ў Белавежскую пушчу было вельмі накладна: адлегласць вялікая, і каштавала такая паездка нятанна. Таму вырашылі стварыць на Пастаўшчыне сваю казку.

— Галоўнага героя знайсці аказалася няцяжка, — прызнаецца “тата” Зюзі Паазерскага, генеральны дырэктар Цэнтра турысцкіх паслуг Ягор Шушкевіч. — У свой час я скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў і добра знаёмы з беларускім фальклорам і міфалогіяй. Увасабленнем халадоў і маразоў у нашых продкаў быў Зюзя, яго вобраз мы і зрабілі галоўным. А сваё прозвішча ён атрымаў па той прычыне, што пасяліўся ў Паазер’і — так называюць наш край. Пабудавалі беларускаму Дзядулю Марозу сядзібу, прадумалі забаўляльную праграму. І панеслася…

Праектам хутка зацікавіліся калегі Ягора Часлававіча з іншых турфірм. Адзін за адным паехалі аўтобусы з усёй Беларусі, а пасля і з замежжа. За сем гадоў у пастаўскай “казцы” пабывалі расіяне, літоўцы, італьянцы, немцы, палякі, нават кітайцы і венесуэльцы — усяго некалькі дзясяткаў тысяч чалавек. На здзіўленне арганізатараў, дарослых Зюзя прываблівае не менш, чым дзяцей. Яны таксама не супраць вярнуцца ў дзяцінства!

Каб быць упэўненымі ў перадНавагоднім адпачынку ў кампаніі Зюзі Паазерскага, многія турысты загаддзя “бранірую- юць” удзел у святочных мерапрыемствах. Вось і сёлета калектыўныя заяўкі на тэатралізаваныя прадстаўленні ў Цэнтры пачалі прымаць задоўга да адкрыцця сезона (Зюзя прымае гасцей з 16 снежня па 15 студзеня). Кожны дзень арганізатары плануюць праводзіць па два-тры прадстаўленні, але пры вялікім наплыве турыстаў іх колькасць можа ўзрасці да шасці.

Чым прываблівае турыстаў рэзідэнцыя Зюзі? У першую чаргу гаспадаром, які паўстае вельмі каларытным дзядулем. Нашы продкі ўяўлялі Зюзю як дзядка-чараўніка з белымі (але не пасівелымі!) валасамі і такога ж колеру доўгай барадой. Ён быў абавязкова босы, у расхрыстаным кажушку і з булавой у руках. Арганізатары “ажывілі” гэты вобраз па максімуме.

Шмат павер’яў звязана з вобразам Зюзі. Паводле аднаго з іх, беларускі апякун халадоў мае ўнікальную здольнасць выклікаць маразы і сцюжы. Яшчэ і сёння нярэдка можна пачуць “замёрз як Зюзя”.



Лічылася, у моцны мароз чараўнік б’е сваёй булавой па дрэвах, выклікаючы тым самым страшэнны перапалох. Нашы продкі верылі, што большую частку зімы Зюзя праводзіць у лесе. І толькі зрэдку наведваецца ў вёскі, каб папярэдзіць людзей пра лютую зіму, дапамагчы беднякам або проста паласавацца куццёй. Нездарма кажуць: “Зюзя на двары — куцця на стале”.

Адна з галоўных “фішак” арганізатараў — тэатралізаванае шоў, сцэнарый якога мяняецца кожны год. Сёлета разам з Зюзем наведвальнікаў будуць забаўляць яго памочнікі: цётка Завея, цётка Лукер’я, Ліхаманка, Юга і Бадзюля.

На тэрыторыі сядзібы можна пакатацца на санях і квадрацыклах, павадзіць ля ёлкі карагоды і пагуляць у вясёлыя гульні, набыць сувеніры з рук саміх майстроў. У карчме — падсілкавацца, сагрэцца травяной гарбатай з рарытэтнага 40-літровага самавара, які топіцца дровамі.

У кожнага турыста ёсць магчымасць загадаць жаданне ля Чароўнай студні (калі вам не перашкодзяць гэта зрабіць “нячысцікі”!). Каб засцерагчы свае мары ад злых духаў, трэба тройчы абысці вакол Магічнага дрэва і пазваніць у званочак — духі разбягуцца.

Шматлюдна ў Азярках не толькі падчас зімовых канікул. Вясной тут паводле народных звычаяў святкуюць Масленіцу, Вялікдзень. У красавіку гэтага года ў Зюзевай рэзідэнцыі ўрачыста адкрылі помнік велікоднаму яйку — на сёння адзіны ў Беларусі.

Няма ў нашай краіне аналагаў і новаму экскурсійнаму маршруту “Велікодныя традыцыі Пастаўшчыны”. Праект распрацавалі ў 2009-м, ён стаў лаўрэатам конкурсу “Пазнай Беларусь” у намінацыі “Лепшая экскурсія”. У гэтым жа конкурсе ў свой час перамагла адна з анімацыйных праграм з цыкла “На госці да Зюзі Паазерскага”.

…Не кожны верыць у цуды, але кожны іх чакае. Асабліва цяпер, у чароўныя зімовыя святы, калі ў сэрцы жыве прадчуванне казкі. А ў яе, аказваецца, адчынены дзверы!

## Глыбокае-2012

# Навагоднія думы Язэпа Драздовіча

*З Новым годам!*

*Прыйдзі, Новы годзе, і не крыўдзі мяне мэндзай-бядою, так як папярэднія — старыя…*

*Прынясі мне добрыя памысныя варункі жыцця дзеля маёй працы на карысць людзям праз навуку, праз прыгожае слова і прыгожыя творы мастацтва!*

*Праз увесь дзень сяджу дома. Сам зварыў сабе есці — паабедаў і пішу… Пішу — заканчваю свае лунныя падарожжы “На Арыяполь”.*

***1 студзеня 1932 г.***

Гэта адзін з дзённікавых запісаў Язэпа Драздовіча — выдатнага беларускага графіка, жывапісца, скульптара, археолага, паэта. Ён нарадзіўся 14 кастрычніка 1888 г. у засценку Пунькі, што на Глыбоччыне, у збяднелай шляхецкай сям’і. Вучыўся ў Віленскай школе малявання, служыў у арміі, працаваў у Беларускім літаратурна-выдавецкім аддзеле пры Камісарыяце асветы БССР, у Беларускім дзяржаўным тэатры.

Лёс не песціў самародка. Яму давялося быць і кааператарам, і выкладчыкам малявання, і вандроўным мастаком. Хтосьці з даследчыкаў назваў яго “вечным вандроўнікам”. І гэта так. Дакладна вядома, што з 1931 па 1939 гады ён зарабляў на жыццё маляваннем насценных дываноў, адметных арыгінальнай пабудовай кампазіцыі (сюжэтны малюнак у цэнтры з раслінрай абмалёўкай), самаробных кілімаў для хат заможных гаспадароў.

Але ж найбольш ён вядомы нам як выдатны мастак-рэаліст, стваральнік цудоўных графічных серый “Старажытны Мінск”, “Заслаўе”, а таксама цэлай галерэі партрэтаў полацкіх і смаленскіх князёў, жывапісная палатна “Спаленыя сядзібы”. Яго пэндзлю належыць серыя малюнкаў і акварэляў “Глыбокае”, графічныя серыі “Піншчына”, “Мір”, “Любча”, “Шчорсы”, “Навагрудак і Навагрудчына”, “Ліда”, “Крэва”, палотны, прысвечаныя жыццю і дзейнасці Ф. Скарыны, многія іншыя таленавітыя творы.

Працаваў Язэп Нарцызавіч і ў галіне скульптуры: бюст Ф. Скарыны, “Плач Гарыславы”, партрэты-барэльефы М. Машары, А. Грыневіча, Я. Пачопкі, маці. Ён спрабаваў свае сілы і ў літаратуры. Захаваліся рукапісы яго паэмы “Трызна мінуўшчыны” і гісторыка-бытавой аповесці “Гарадольская пушча”. А яго археалагічная дзейнасць у асноўным звязана з былым Дзісенскім паветам, і перш за ўсё з роднай Глыбоччынай.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны, ужо стары і хворы, мастак распісвае мясцовыя магазіны, робіць замалёўкі сялянскіх сядзіб і піша пейзажы. Хата пунькаўскага лесніка Даната Пабядзінскага стала яго прытулкам.

Язэп Драздовіч памёр у г. п. Падсвілле ў 1954 годзе. Пахаваны ў в. Ліпляны, што непадалёку ад яго родных Пунькаў.

А мы звернемся яшчэ да двух дзённікавых запісаў мастака: *“Лета і восень старога [1934 г.] патрацію на вандроўкі ад вёскі да вёскі, ад хаты да хаты — малюючы, дзеля ратавання сябе ад безрабоцця, а ў прамяжутках часу, калі не меў заказаў, то туды, то сюды да малалікай радні ды знаёмых.*

*Што дасць Новы мне год — не згадаю…”*

*“1935 г. Месяц январ правёў у трох мяйсцовасцях. Пачатак у Юркаве пры брату і пляменніках, адкуль з прычыны няважнага (цёмнага, сырога і цеснага) у старэнькай хатцы памяшкання, перабіраюся дзеля працы, разам з рэчамі ў в[ёску] Летнікі да Янкі (“Башкіра”) П[ачоп]кі. Пляменнік Стась адвозіць… Канец января і першую, большую палавіну лютага, правёў на пахатнай працы ў вёсцы Верасцеях… У Летніках распачаў адзін экранчык, ды не закончыў, зрабіўшы толькі адну падмалёўку, з панарамай будучага «Артаполіса…»”*

Вось такое жыццё містыка, падарожніка, бадзягі. Тонкага, інтуітыўнага, душэўнага мастака, які вельмі любіў сваю радзіму. На жаль, шматгранная творчасць Язэпа Драздовіча пры яго жыцці належным чынам не ацэнена ні польскай, ні савецкай уладамі. Ён быў па сутнасці чужым сярод сваіх. Тым не менш пакінуў нашчадкам багатую спадчыну, якую варта берагчы, як і памяць пра таленавітага творцу. Думаецца, што з яго работамі абавязкова пазнаёмяцца і госці Свята беларускага пісьменства.

## Афарызм

*Задумайся над сур’ёзным і ўсміхніся жарту.*
*І ў жарце адшукай сур’ёзнае, а ў сур’ёзным – цень усмешкі.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

*Шаноўныя чытачы!*

*Звяртаем вашу ўвагу на тое, што чарговы нумар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» выйдзе ўжо ў наступным годзе — 6 студзеня.*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”**
**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
“Выдавецтва “Беларускі Дом друку” г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2876
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 22.12.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 6076
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686